## УСЛЕД ЗА ПАДЗЕЯЙ

Жыццё не мяняе законаў:
Якім ні палілі агнём —
Зноў сёння нас
10 мільёнаў!
Нічога. Жылі і жывём.
З былога, дзе холад і голад,
Скрозь енкі і лаянку куль
Дзіцячы пракінуўся голас!
Каго ён гукае і скуль?
Чацвёртага кожнага!..
З намі
Усе яны тут, як адзін,
За ўбранымі шчодра сталамі
На радасным свяце радзін...

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ.



# ХТО ТЫ, ДЗЕСЯЦІМІЛЬЁННЫ?

**Цяпер гэта ўжо гісторыя. Хаця і нядаўняя. Памятаеце, у пераднавагоднія дні ЦСУ БССР паведаміла: жыхароў рэспублікі — 10.000.000!**
**А хто менавіта стаў дзесяцімільённым — не вызначылі.**
**Вось і атрымалася: рыхтаваліся ўшанаваць юбілейнага нованароджанага, а вялікая ЭВМ статыстычнага ўпраўлення ўпэўнена канстатавала: «Юбіляр — уся рэспубліка!»**
**Ох, і многім жа рэпарцёрам давялося змяніць свае рабочыя планы ў тую суботу.**



### ● СТАТЫСТЫКА НЕ ЎСЁ ВЕДАЕ...

Падобных пісьмаў прыйшло на адрас рэдакцыі некалькі. Вось і ў гэтым канверце выразка з газеты і кароткі ліст са мноствам пытальнікаў. Растлумачце, маўляў, чаму не назвалі дзесяцімільённага. Ёсць жа такі. Раскажыце аб ім.

Рэдка атрымліваеш ад чытача заданне, якое немагчыма выканаць. А гэтае здалося спачатку менавіта такім. Нават спецыялісты з ЦСУ развялі рукамі:

— Больш як 200 жанчын на Беларусі адначасова сталі ў гэты дзень мамамі. Каго з нованароджаных ушаноўваць? Вось і вы не ведаеце. А любая ўмоўнасць у статыстыцы немагчыма.

З гэтай размовы вынікае: традыцыйнае выказванне «статыстыка ведае ўсё» трэба забыць. Таму што статыстыка ведае толькі тое, што ёй ведаць неабходна.

Дарэчы, не так ужо шмат звестак можам мы атрымаць пра толькі што народжанае дзіця нават у радзільным доме. Як яно сябе адчувае, колькі важыць і якога колеру ў яго вочы. Вось, бадай, і ўсё.

Ніякай біяграфіі ў немаўляткі, вядома, няма. Яна ёсць у тых, хто старэйшы. Каго звязвае з людзьмі не толькі генетычная памяць.

Калі б не вайна, то дзесяцімільённы грамадзянін Беларусі адзначаў бы цяпер сваё трыццацішасцігоддзе. Бо нарадзіўся б ён у 1950-м.

Але мільёны не нарадзіліся і мільёны загінулі, так і не зведаўшы бацькаўскага шчасця.

Мы сустрэліся з чалавекам, які роўна 36 гадоў назад упершыню зірнуў на свет.

Ён, магчыма, і стаў бы дзесяцімільённым. Больш дакладна, не ён, а яна. Мінчанка Надзея Рыгораўна Архіпенка.

Мы сустрэліся, пазнаёміліся і звярнуліся да яе (чаму менавіта да яе— растлумачым пазней) з усё тым жа пытаннем, на якое прагнуць атрымаць адказ нашы чытачы:

— Ці нельга больш падрабязна расказаць пра дзесяцімільённага?

— Чаму ж не. Я сама бяруся гэта зрабіць. Запісвайце. Яго завуць Максім, Андрэй або Рыгор. Калі гаворка пра хлопчыка. Калі пра дзяўчынку, то гэта — Даша, Машанька, Каця. Па крайняй меры, менавіта такія імёны былі самымі папулярнымі ў канцы восемдзесят пятага. Цяпер аб вазе. О, гэта абавязкова волат. Калі я вучылася ў інстытуце, то ў канспекты мы запісвалі наступнае: нармальная вага дзіцяці—3 кілаграмы 200 грамаў. Сёння такая вага таксама — норма. Але часцей немаўляты важаць 3.800—4 кілаграмы. Чым не волаты?

Зразумела, тут паўстае пытанне:

— А наколькі кампетэнтны такі адказ?

Спяшаемся запэўніць вас: вельмі кампетэнтны. Бо Надзея Рыгораўна Архіпенка — загадчыца першага радзільнага аддзялення пятай гарадской клінічнай бальніцы Мінска. І не выключана, што менавіта яна дапамагала з'явіцца на свет дзесяцімільённаму.

Між іншым, гэта сімпатычная жанчына за гады сваёй работы прыняла 10 тысяч родаў.

10 тысяч чалавек — насельніцтва цэлага горада.

10 тысяч з 10 мільёнаў — не так ужо й мала.

— Вы ведалі пра дзень, калі павінен быў з'явіцца маленькі юбіляр?— пытаемся ў Архіпенка.— Спадзяваліся прыняць хлопчыка ці дзяўчынку?

— Важна, што ў тую суботу нарадзілася шмат дзяцей. І ўсе — як на падбор... А хто дзесяцімільённы, хто адкрыў лік мільёну адзінаццатаму, лічу — не так ужо й важна.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## У НУМАРЫ








Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Беларусь

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

№5 (569) МАЙ 1986 г.

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Заснаваны ў 1930 годзе.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.












На першай старонцы вокладкі — артысткі балета Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР (фотанарыс «Тэатр Валянціна Елізар'ева» глядзіце на 10—11-й стар.)

Фота Віктара ДРАЧОВА.




Мастацкі рэдактар Н. І. БАГАМОЛАВА. Карэктар М. У. ВАСІЛЕЎСКАЯ. Афармленне Л. А. КАРНЕЕВАЙ.

Журнал «Беларусь» на белорусском языке.
Здадзена ў набор 14.03.86. Падпісана да друку 21.04.86. АТ 00553. Фармат $70 \times 108^{1}/_{16}$. Глыбокі друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 10,9. Ум. фарбаадб. 12,6. Т. 13 253 экз. Зак. 840.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вуліца Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79. Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

# ХТО ТЫ, ДЗЕСЯЦІМІЛЬЁННЫ?

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар. вокладкі.)

**● З БІЯГРАФІІ Н. Р. АРХІПЕНКА, пераказанай нам ёй самой:**

— Ёсць на Віцебшчыне сяло Чухвары. У чэрвені сорак першага вяскоўцы капалі акопы і супрацьтанкавыя равы. Маёй маці тады споўнілася шаснаццаць. Яна добраахвотна пайшла дапамагаць стваральнікам лініі абароны. Я яе цяпер не распытваю ні пра тыя дні, ні пра пакуты пры «новым парадку». Таму што пасля такіх успамінаў яна заснуць не можа: сэрца баліць.

Бацька таксама з Чухвараў. Ваяваў з першага да апошняга дня Вялікай Айчыннай. Быў паранены, трапіў у палон. Калі яго перавозілі з аднаго канцлагера ў другі — уцёк. Узнагароджан ордэнамі і медалямі. Пасля перамогі вучыўся, працаваў мастаком у Віцебскіх вытворча-мастацкіх майстэрнях. Яго работы ёсць амаль ва ўсіх заводскіх і калгасных клубах вобласці.

Мама ж выбрала педагогіку. Настаўнічала. Толькі блізкія настаўнікаў ведаюць, як перажываюць педагогі за двойкі і слабенькія тройкі сваіх вучняў. Што? Ці не прыносіла сама дадому такое «смецце»? Было. Некалькі разоў. А наогул займалася нядрэнна. З залатым медалём скончыла школу. Віцебскі медінстытут з адзнакай...

Такая вось біяграфія ў Надзеі Рыгораўны. Біяграфія чалавека, які мог бы стаць дзесяцімільённым жыхаром рэспублікі. Калі б не вайна...

**● ЮНАЦТВА НА РУБЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ**

Цяпер, калі і вы бліжэй пазнаёміліся з Надзеяй Рыгораўнай, давайце разам памарым... аб тым, як складзецца лёс тых, чыя дата нараджэння — сёлетняя вясна, да каго юнацтва прыйдзе на рубяжы стагоддзяў.

— Не трэба праводзіць спецыяльныя даследаванні, каб даведацца пра спадзяванні і пажаданні людзей,— добрая ўсмешка кранае вусны Надзеі Рыгораўны.— Пагаварыце з мамамі гэтых малютак, што ўбачылі свет у нашай клініцы. І ўсё адразу стане зразумелым. Таму што абавязкова будуць вымаўлены словы «мір», «дабрабыт», «шчасце».

Адна з жанчын, якой мы дапамаглі сёння стаць маці, ужо страціла надзею мець калі-небудзь дзяцей... Вельмі цяжкімі былі роды. Але абышлося без складанай аперацыі. А яшчэ ў гэты дзень 15 хлопчыкаў і дзяўчынак увайшлі ў жыццё на маіх вачах.

Чаму я гэта расказваю? Ды таму, што пасля дзяжурства глядзела тэлеперадачу аб чалавечым вар'яцтве: мільгацелі на экране крылатыя ракеты «першынгі», спадарожнікі-забойцы. Не дагледзела — выключыла. Прылягла, а перад вачамі — твар жанчыны, якая змагла стаць маці ў сорак. Не, той, хто называе атамны грыб прыгожым відовішчам,— вар'ят. Добра было б аматараў узбройвацца і выпрабоўваць новыя сродкі масавага знішчэння сабраць ля нашых «сённяшніх» немаўлятак і спытаць:

— Вось здзейсніўся цуд. Цяпер гэтыя дзеці гучным крыкам паведамляюць планеце аб сваім з'яўленні на свет. Колькі тон узрыўчаткі на кожнага з іх вы, панове, падрыхтавалі ўжо?

Размова з Надзеяй Рыгораўнай пра дзесяцімільённага грамадзяніна Беларусі заканамерна выйшла за рамкі, якія мы ёй адводзілі. Бо, сапраўды, не так важна, хто ён — юбіляр. Значна важней ведаць пра тое, якім будзе заўтрашні дзень і яго, і яго равеснікаў, і ўсіх-усіх дзяцей у свеце. Дык няхай жа ён будзе такім, якім яго хочуць бачыць іх маці.



Калі ўжо вярстаўся нумар, мы пазванілі ў ЦСУ БССР і даведаліся: насельніцтва рэспублікі на той час, калі выйдзе ў свет наш часопіс, складзе 10.017.800 чалавек.

**Валерый ЛАПІН.**



Знаёмцеся: загадчыца першага радзільнага аддзялення пятай клінічнай бальніцы Мінска Надзея Рыгораўна Архіпенка.
Фота Віктара ГАНЧАРЭНКІ.



Вясна 1945 года. На Одэры пах вясны, паводкі змяшаўся з горкім прысмакам франтавога гару. Савецкія войскі стаялі на плацдармах на левым беразе за 60 кіламетраў ад Берліна.

Рыхтавалася адна з самых буйных у другой сусветнай вайне — Берлінская аперацыя Чырвонай Арміі.

Мала хто спаў у тую памятную ноч... 16 красавіка 1945 года, 5 гадзін па маскоўскаму часу. Яшчэ не пачынаўся світанак... І раптам асляпляльныя ўспышкі разрэзалі начную імглу, неба азарылася рознакаляровымі трасамі. Здрыганулася зямля. Атака пачалася незвычайна. Па прапанове камандуючага 1-м Беларускім фронтам Маршала Савецкага Саюза Г. К. Жукава ў паветра ўзвіліся тысячы рознакаляровых ракет, а потым успыхнулі 140 пражэктараў, размешчаных па фронце праз кожныя 200 метраў. Больш як 100 мільярдаў свечак асвятлялі поле бітвы, асляпляючы праціўніка. Было светла, як днём, і савецкія воіны маглі выбіраць цэлі і дакладна паражаць іх. За двайным агнявым валам рушылі ў атаку чырвонаармейцы.

«Нас, беларусаў, якія змагаліся ў войсках 1-га Беларускага фронту,— успамінае ўдзельнік баёў за Берлін радавы разведчык Мікалай Балыкоў,— натхняла яшчэ і тое, што фронт, які насіў імя нашай рэспублікі, наступаў на галоўным напрамку і змагаўся з групай нямецкіх армій «Цэнтр», тых самых, што ў сорак першым годзе ішлі па нашай зямлі».

З першымі залпамі артылерыі наперад рушылі нястомныя працаўнікі вайны — сапёры. У складзе сапёрнай брыгады 8-й гвардзейскай арміі генерала В. І. Чуйкова ішоў наперад і ўраджэнец Пухавіцкага раёна Уладзімір Паўлавіч Паталятаў — вопытны сапёр.

К канцу першага дня аперацыі сапёры разам з іншымі падраздзяленнямі былі ўжо ў Зеелове. Адтуль па лясной дарозе на брані танкаў рухаліся далей. Раптам на дарозе з'явіўся мясцовы жыхар. Пажылы. Махае шапкай. Паспешліва каверкаючы нямецкія і рускія словы, гаворыць: «Сдес зольдат вермахт минен сожаль. Я видели...»

Сапёры паціснулі немцу руку. І сапраўды, на дарозе сапёры У. П. Паталятава знялі дзесяткі два супрацьтанкавых мін. Частка танкаў пайшла ў абход і знішчыла артылерыйскі заслон ворага.

— І гэта не адзіны выпадак інфармацыі ад саміх немцаў,— адзначаў У. П. Паталятаў.

З цяжкімі баямі дасягнулі Берліна. Сапёры дзейнічаюць у саставе штурмавых груп, стралковых і танкавых падраздзяленняў. Работы хапае, ад дома да дома — з боем.



Рушыла на ворага і 9-я штурмавая рота 674-га стралковага палка 150-й Ідрыцка-Берлінскай дывізіі пад камандаваннем гамяльчаніна Юрыя Шандалава. Доўгую ваенную дарогу прайшоў Ю. Шандалаў. У пісьме да сястры ён пісаў: "Я чатыры разы быў ранены. На маім салдацкім целе адзінаццаць слядоў ад ран.

А мне ж споўнілася толькі 20 гадоў».

Напярэдадні штурму ўмацаванняў ворага камандзір суседняй 7-й роты Павел Грыбанаў так успамінаў пра Ю. Шандалава: «Мы ўважліва агледзелі абарону праціўніка на ўсю глыбіню. Юрый сказаў: "Як селядцы ў бочцы... Усе траншэі запруджаны ворагам. Але, хлопцы, не бойцеся! Артылерысты дапамогуць».

У час бою яго рота глыбока ўклінілася ў абарону праціўніка.

Чацвёртую контратаку гітлераўцы падтрымалі двума танкамі. Юрый і два байцы вырваліся наперад і знішчылі танкі. Але вораг акружыў смельчакоў. Скончыліся боепрыпасы.

Ва ўзнагародным лісце запісана: «Калі нашы часці адцяснілі немцаў, быў знойдзены знявечаны труп Шандалава. Побач ляжала 48 мёртвых нямецкіх салдат».

Пасмяротна Юрыю Абрамавічу Шандалаву было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.



Ваенныя дарогі прывялі да фашысцкага логава сяржанта Анатоля Ільіча Зосіка, былога партызанскага сувязнога, ураджэнца Кобрынскага раёна.

Пад Брандэнбургам, куды павінны былі рушыць нашы танкі, раптам выявілася засада «фаустнікаў». Абходзіць — значыць страціць каштоўны час. Камбат выклікаў старшага лейтэнанта Калтыгіна і сяржанта Зосіка. Ён добра ведаў гэтых людзей. На грудзях Анатоля Ільіча Зосіка ўжо паблісквў ордэн Славы III ступені за храбрасць, праяўленую пры фарсіраванні Буга. Ён быў прадстаўлены і да другога ордэна Славы.

Праз возера перапраўляліся на плытах і рыбацкіх лодках.

Ледзь першыя плыты дасягнулі супрацьлеглага берага, як пачалі страчыць варожыя кулямёты і аўтаматы.

— Зосік, абходзь справа! — скамандаваў старшы лейтэнант.

Разам з сяржантам па куп'істым лузе папаўзлі яшчэ шэсць салдат. Убачыўшы па ўспышцы, што фашысты заляглі на пагорку, А. І. Зосік загадаў даць туды некалькі доўгіх чэргаў. Кідок — і праз некалькі хвілін узвод у нач-

# АПОШНІ



...Тэрміновую службу ўраджэнец Кармы Іван Лукіч Чабаткоў праходзіў у Манголіі, змагаўся з японскімі самураямі.

Неяк у «Правде» прачытаў ён аб тым, што саратаўскі калгаснік Ферапонт Галаваты на свае асабістыя зберажэнні купіў баявы самалёт і перадаў яго фронту. І. Л. Чабаткоў падбег з газетай да камандзіра роты старшага лейтэнанта Уладзіміра Ермакова:

— А што, калі і нам купіць танк і адправіцца на ім граміць гітлераўцаў.

— Думка неблагая,— адобрыў нампаліт,— але справа ў тым, што для вырашэння гэтага пытання неабходны дазвол «зверху».

Паслалі запыт у Маскву. Хутка ад Вярхоўнага галоўнакамандуючага І. В. Сталіна на імя І. Л. Чабаткова прыйшла тэлеграма: «Дзякую за клопаты аб Чырвонай Арміі. Ваша жаданне будзе выканана».

У. Ермакову і І. Л. Чабаткову дlaunched падабраць у экіпаж танкістаў-добраахвотнікаў. Камандзірам танка прызначылі Уладзіміра Ермакова, механікам-вадзіцелем — І. Л. Чабаткова, зараджаючым — Аляксандра Пешкава, радыстам — Міхаіла Тарбаева.

— На гэтым танку,— успамінае Іван Лукіч,— мы дайшлі да Берліна. Некалькім нашым танкам было загадана авалодаць скрыжаваннем дарог на ўскраіне фашысцкай сталіцы і ўтрымаць яго да прыбыцця артылерыі.

Ва ўказанае месца экіпаж І. Л. Чабаткова прыйшоў першы. Але тут трапіў у «пастку». З-за ўкрыцця выпаўзла група варожых «тыграў». І з правага фланга гітлераўцы грымелі гусеніцамі. Завязаўся жорсткі няроўны бой. Падбіты варожы танк, потым другі... Раптам машыну савецкіх танкістаў моцна страсянула, фашысцкі снарад трапіў у вежу.

А тут проста на танк Івана Лукіча рухаўся «тыгр». І. Л. Чабаткоў павялічыў скорасць сваёй машыны і з усяе сілы тараніў варожы танк. «Тыгр» падаўся назад і ўспыхнуў, як факел.

Аднапалчане Івана Лукіча бачылі, як гарэў танк, вырашылі, што члены экіпажа загінулі, і паслалі паведамленне аб гэтым іх бацькам. Але І. Л. Чабаткоў і А. Пешкаў засталіся жывыя. Раненых і знясіленых, іх падабрала медсястра стралковага батальёна. Але па дарозе ў шпіталь А. Пешкаў памёр ад ран. Іван Лукіч трапіў у шпіталь.

Да выхаду на заслужаны адпачынак І. Л. Чабаткоў доўгі час працаваў механікам Кармянскай МТС, у Сельгастэхніцы. За баявыя подзвігі ён узнагароджан ордэнам Чырвонай Зоркі, медалямі.

□ □ □

Свой «голас» у артылерыйскі «хор» уносіла і гармата ўраджэнца Гарадоцкага раёна старшага сяржанта Мікалая Іванавіча Аверчанкі, які ўваходзіў у склад 4-й батарэі 823-га артылерыйскага палка 301-й стралковай дывізіі, што дзейнічала ў складзе 5-й ударнай арміі.

Дывізія выйшла на бераг ракі Шпрээ. Гарматны разлік старшага сяржанта М. І. Аверчанкі следам за пяхотай першы фарсіраваў раку ў раёне прыгарада Берліна — Трэптаў і адразу ж пачаў меткім агнём расчышчаць шлях наступаючым воінам.

Цуды храбрасці, воінскай кемлівасці і знаходлівасці праявіў старшы сяржант М. І. Аверчанка ў вулічных баях за Берлін. У адной з атак штурмавая рота аўтаматчыкаў імкліва вырвалася на развілку вуліц. За ёй неадступна ішлі і артылерысты, каб прыкрыць агнём наступаючых пехацінцаў. Але артылерыйскі разлік М. І. Аверчанкі апынуўся адрэзаным ад нашых аўтаматчыкаў.

Хутка ацаніўшы абстаноўку, камандзір гарматы вырашыў прыняць няроўны бой з пераўзыходзячымі сіламі ворага. Ён загадаў падносчыку снарадаў Чаянаву адкрыць з аўтамата агонь па гітлераўцах.

Пад прыкрыццём Чаянава артылерысты разам са сваім камандзірам разгарнулі гармату перад уваходам у дом і адрэзалі ворагу шлях да адступлення ва ўкрыцце. Але гітлераўцаў было шмат, і яны пачалі акружаць гармату. У складанай сітуацыі М. І. Аверчанка прыняў імгненна дзёрзкае рашэнне. Ён загадаў наводчыку весці агонь, а сам з некалькімі байцамі ўварваўся ў дом, пракладаючы сабе шлях гранатамі і аўтаматным агнём. У рукапашнай схватцы камандзір гарматы і яго баявыя таварышы знішчылі дзесяць варожых салдат і ўзялі ў палон яшчэ 23 гітлераўцаў. Сярод іх былі два афіцэры.

Але старшаму сяржанту Мікалаю Аверчанку не ўдалося сустрэць у Берліне Дзень Перамогі. У апошнія мінуты рукапашнага бою ён быў цяжка паранены і эвакуіраваны ў шпіталь, з якога выйшаў толькі ў канцы 1945 года. Радзіма высока ацаніла яго подзвіг, прысвоіўшы Мікалаю Іванавічу Аверчанку высокае званне Героя Савецкага Саюза, узнагародзіўшы таксама ордэнамі Леніна, Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны І ступені, медалямі.

9 мая ўвесь свет пачуў аб сусветна-гістарычнай перамозе Савецкага Саюза. Гітлераўская Германія капітулявала безагаворачна. Цішыня наступіла на зямлі, і велізарная планета яшчэ недаверліва прыслухоўвалася да яе. А мір ужо ішоў па планеце.

Няпраўда, што часу ўсё падуладна. Мы не забылі тых, хто прынёс нам мір і шчасце цаной свайго жыцця ў апошнім, самым цяжкім баі.

**Уладзімір ПАЎЛАЎ.**

ной атацы знішчыў групу «фаўстнікаў» і ракетамі даў знаць нашым падраздзяленням: шлях свабодны.

Раніла старшага лейтэнанта Калтыгіна, і сяржант Зосік прыняў камандаванне ўзводам на сябе. А калі падышлі танкі, аўтаматчыкі селі на браню і працягвалі гнаць фашыстаў. За гэты бой Анатоль Ільіч Зосік быў прадстаўлены да ордэна Славы І ступені.

□ □ □

Цяжкія дарогі танкіста прывялі да гітлераўскага логава і ўраджэнца вёскі Кучын, што на Кармяншчыне, камандзіра танкавай роты старшага лейтэнанта Аляксандра Андрэевіча Філімонава.

26 красавіка, невялікі гарадок Беeліц. Раніцай перад танкавай ротай А. А. Філімонава і батальёнам мотастралкоў паказалася калона гітлераўцаў.

...Галоўная варожая машына блізка, яна «ўлезла» ў прыцэл танка Філімонава. Але страляць нельга, вопытны камандзір гэта разумее: «тыгра» ў лоб не возьмеш, толькі выдасі сябе. Але вось пярэдні танк прыпыніўся, крыху ўзяў управа, падставіўшы свой бок. І ў тое ж імгненне ён ахутаўся дымам. Ударыць падкаліберным, ды яшчэ на такой адлегласці... Запалаў другі танк, трэці, а за ім бронетранспарцёры, грузавікі. Фашысты кідаліся ў атакі. Але зноў і зноў адкочваліся назад. Дзесяць жорсткіх контратак адбіла танкавая рота старшага лейтэнанта А. А. Філімонава на подступах да горада, знішчыўшы 12 танкаў і самаходных гармат, 11 палявых гармат, 35 кулямётных кропак, 20 грузавых аўтамашын і каля 500 гітлераўцаў. Многія танкісты былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі, а камандзір роты ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза.

Цяпер адважны танкіст — доктар гістарычных навук, прафесар Аляксандр Андрэевіч Філімонаў — працуе ў Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ.

□ □ □

У Гомельскім абласным краязнаўчым музеі ёсць фатаграфія ваенных гадоў. Пад ёю надпіс: «Старшы лейтэнант І. Л. Чабаткоў на ўласным танку дайшоў да Берліна».

# БОЙ, ЁН ЦЯЖКІ САМЫ

**Стратэгічны напрамак дзейнасці КПСС — забеспячэнне далейшага ўздыму народнага дабрабыту, усё больш поўнае задавальненне растучых матэрыяльных і духоўных патрэбнасцей савецкіх людзей.**

## ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ, ШТО Ў ДВАНАЦЦАТАЙ ПЯЦІГОДЦЫ:

- заработная плата рабочых і служачых узрасце да 215—220 рублёў у месяц;
- сярэднямесячная заработная плата калгаснікаў узрасце да 180 рублёў;
- будуць пабудаваны жылыя дамы агульнай плошчай 565—570 млн. кв. метраў;
- сярэднямесячны даход на аднаго чалавека павінен быць не менш як 125 рублёў;
- з грамадскіх фондаў спажывання ў 1990 годзе на кожнага чалавека будзе затрачана больш як 600 рублёў;
- будзе пабудавана: дашкольных устаноў прыкладна на 3 млн. месц; агульнаадукацыйных школ — на 7 млн. вучнёўскіх месц; прафесіянальных устаноў — не менш чым на 810 тысяч месц;
- будзе павялічаны на паўгода аплатны водпуск жанчынам-маці па догляду дзіцяці, з адначасовым прадастаўленнем права на дадатковы неаплатны водпуск да 6 месяцаў;
- прадугледжваецца павелічэнне дародавага водпуску і аплатнага часу па догляду за хворым дзіцем;
- будзе ўведзена бясплатная выдача лякарстваў для дзяцей ва ўзросце да трох гадоў.
















АЎТОГРАФЫ ПЕРАМОГІ

# САМАЛЁТ... У РЭЧАВЫХ МЯШКАХ

У канцы мая 1944 года ў штабе брыгады імя Чапаева № 27 рыхтавалі дакументы для адпраўкі ў штаб злучэння Мінскай вобласці. А таксама грошы, аблігацыі, залатыя і сярэбраныя рэчы, якія сабралі партызаны і падпольшчыкі ў вёсках Капыльскага раёна ў Фонд абароны для пабудовы самалётаў. Начальнік штаба брыгады Мікалай Рагожнікаў, камісар Ніл Емяльянаў, камбрыг Мікалай Шастапалаў шчыравалі над афармленнем дакументацыі на каштоўныя рэчы.

І вось у штаб вызвалі групу партызан атрада імя Дунаева.

— Вам давяраецца надзвычай важнае заданне,— сказаў сакратар Капыльскага падпольнага райкома партыі Ніл Емяльянаў.— У рэчавых мяшках знаходзіцца наш партызанскі самалёт. Так, так, самалёт! Адна ў вас мэта: даставіць сабраныя каштоўнасці ў штаб злучэння.

Замерлі хлопцы. Падцягнуўся камандзір групы Дзмітрый Балібок. Насупіў, як заўжды, бровы Валодзя Сыцько. Выцягнуўся ў струнку Грыша Нікалаеня. Уважліва слухаюць камісара брыгады Ілья Шусцер, Аляксей Маляўка, Васіль Сінюк і яшчэ два хлопцы, прозвішчы якіх не помню. Усе партызаны рашучыя і храбрыя. Яны самі разумеюць адказнасць за дастаўку каштоўнасцей.

Шлях далёкі, небяспечны. Першае выпрабаванне — чыгунка.

Да яе праводзіў групу камісар атрада Мікалай Чыжоў з аўтаматчыкамі. Далей хлопцы пойдуць адны.

Сыцько прапанаваў спяшацца да вёскі Лешня, ён сам адтуль родам. Нікалаеня сказаў, што ў яго дзядзькі ёсць тайнік, там можна схаваць рэчавыя мяшкі. Самі будуць сядзець на гарышчы.

Дайшоўшы да вёскі, зрабілі ўсё, як намячалі.

— Калі што-небудзь здарыцца з намі, груз аддайце партызанам,— сказаў Балібок селяніну.

Днём у вёску прыехалі гітлераўцы. Зайшлі і ў хату, дзе на гарышчы сядзелі партызаны.

Камандзір групы хваляваўся больш за іншых і падаў сябрам знак ляжаць нерухома. Хлопцы сціскалі ў руках зброю — не чакалі такой сітуацыі.

Гадзіны дзве хваляваліся гаспадар і партызаны. Нарэшце загулі машыны, і гітлераўцы выехалі з вёскі. Партызаны ноччу перайшлі шашу і накіраваліся ў штаб злучэння. Праз тыдзень былі на месцы.

Начальнік штаба Рыгор Гнусаў прыняў каштоўнасці, паглядзеў запіс і сказаў задаволена, што хопіць на самалёт.

Напоўніўшы рэчавыя мяшкі боепрыпасамі, група Балібока вярнулася назад. Хлопцы тройчы нарываліся на засады і перайшлі шашу каля самага піліпавіцкага гарнізона, як толькі сцямнела. Для гэтага, праўда, прыйшлося пераходзіць уброд дзве рэчкі з ледзяной вадой. Чыгунку перайшлі без прыгод. У пачатку чэрвеня радасна дакладвалі камбрыгу:

— Заданне выканана: самалёт з рэчавых мяшкоў падняўся ў неба, хутка расправіць свае крылы.

**Васіль ГУРСКІ,**
**былы памочнік камісара атрада імя Дунаева брыгады імя Чапаева.**

РАСКАЗ ПРА ДЭЛЕГАТА

# ЯЕ НАДЗЁННЫ КЛОПАТ



Алена Андрэеўна СЦЕПАНОВІЧ.

Алена Андрэеўна Сцепановіч — невысокая, зграбная жанчына, працуе апаратарам па вырошчванню парасят у калгасе імя Калініна Нясвіжскага раёна. Мілавідны твар яе штораз асвятляецца лагоднай усмешкай, і ў гэты час ад глыбокіх вачэй хуценька разбягаюцца праменьчыкі-маршчынкі, якія робяць гэты твар нейкім пасаблівым добрым, па-дзявочаму сарамлівым. І адразу ж разумееш: вось сама дабрата і сціпласць, не штучная, не набытая, а своя, чалавечая, якую кожны добры чалавек атрымлівае ў спадчыну ад бацькоў.

Алена Андрэеўна з ліку тых людзей, пра каго ў народзе гавораць: хоць малы залатнік, але каштоўны. За 24 гады ўдарнай працы на свінаферме калгаса яна ўзнагароджана Залатой Зоркай Героя Сацыялістычнай Працы, двума ордэнамі Леніна, неаднаразова атрымлівала ўзнагароды ВДНГ. І гэта пры тым, што заўсёды знаходзіла час на дзяржаўную і грамадскую работу: яе выбіралі дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, членам бюро Нясвіжскага райкома КПБ, дэлегатам XXX з'езда Камуністычнай партыі Беларусі.

Чалавекам будучага назваў яе сакратар партарганізацыі калгаса І. І. Скробат. Быў такі выпадак: захварэла Алена Андрэеўна. Пасля хваробы па стану здароўя магла б пайсці і на больш лёгкую працу. Дарэчы, праўленне калгаса так ёй і прапанавала, і нават пасаду знайшло на новым свінакомплексе. Але не стала Алена Андрэеўна шукаць сабе лёгкія пасады і лёгкую работу — пайшла на сваё старое месца, зноў стала працаваць апаратарам па вырошчванню парасят і ў 1985 годзе замест планавых 1450 галоў вырасціла 1500 парасят.

Ці вось яшчэ характэрная рыса. Вяртаецца Алена Андрэеўна з пасяджэння бюро райкома партыі. Даўно ўжо наступіла ноч, а яна перш за ўсё заходзіць у свінарнік паглядзець, ці не здарылася чаго, ці добра адчуваюць сябе падапечныя. А потым ужо — дамоў. І так заўсёды, на працягу многіх гадоў.

**Віктар ФЕДАРОВІЧ.**

**Фота Віктара ГАНЧАРЭНКІ.**

ХАДА ПАДЗЕЙ
# Хада падзей
Хада падзей
ХАДА ПАДЗЕЙ
Хада
Хада падзей







**РЫТМЫ ПЯЦІГОДКІ**

**Вытворчае аб'яднанне «Мінскі трактарны завод імя У. І. Леніна».** У дванаццатай пяцігодцы тут намечана давесці выпуск мадэрнізаваных трактароў МТЗ-80 і новых МТЗ-100 да 120 тысяч у год. Машыны дванаццатай пяцігодкі стануць яшчэ больш магутнымі, універсальнымі, эканамічнымі.

Ужо цяпер на заводах аб'яднання можна ўбачыць характэрныя рысы вытворчасці будучага: робататэхналагічныя комплексы і аўтаматычныя лініі атрымалі прапіску ў многіх цэхах. У галоўным спецыялізаваным канструктарскім бюро завяршаецца ўкараненне першай чаргі сістэмы аўтаматызаванага праектавання.

**На здымках:** МТЗ. Героі Сацыялістычнай Працы слесар-інструментальшчык Яўген Іванавіч Клімчанка і наладчык кавальска-прэсавага абсталявання Фёдар Конанавіч Самусёў.

**ФОТАФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ**

## ЁСЦЬ У КАЛГАСЕ АРХІТЭКТАРЫ

Як яшчэ нядаўна забудоўваліся вёскі? У асноўным па «індывідуальных праектах». Гэта значыць, побач з дамамі прыгожымі, бы казачныя церамы, выраслі часам хаціны, што сваім знешнім выглядам ні вока прывабіць, ні душу парадаваць не маглі.

Да пары з такім становішчам архітэктурнай культуры ў вёсцы даводзілася мірыцца. Але прыйшоў час, і задумаліся кіраўнікі перадавых гаспадарак:

— А чаму б не запрасіць спецыялістаў, не адкрыць сваё праектна-канструктарскае бюро? Сілы і сродкі дазваляюць...

Вырашана — зроблена. Сталі арганізоўвацца ў рэспубліцы калгасныя ПКБ. Адно з першых такіх бюро з'явілася ў калгасе «Памяць Ільіча» Брэсцкага раёна. Дзейнасць разгарнула бурную. Мяркуйце самі: за гады мінулай пяцігодкі тут вырас новы, сучасны пасёлак. Пабудаваны катэджы з

**САМАЕ-САМАЕ**

## ЖАРТОЎНЫЯ НАЙГРЫШЫ

**Кожны з васьмі ўдзельнікаў арыгінальнага самадзейнага ансамбля Добрушскай цэнтральнай раённай бальніцы іграе на такіх інструментах, якія вы не знойдзеце сярод атрыбутаў звычайных музычных калектываў.**

Так, старшая медыцынская сястра Зоя Васільеўна Блажко выконвае вясёлыя найгрышы на звычайнай двухручнай піле. Незвычайныя нумары выконвае санітарка Ганна Аляксандраўна Малышава на качалках — тых самых, з дапамогай якіх даўней разгладжвалі пасля мыцця бялізну ці вопратку. А гардэробшчыца Аксіння Рыгораўна Філаценка прымушае меладычна гучаць усім вядомую пральную дошку.

— Нам даводзілася выступаць ужо шмат дзе,— расказвае кіраўнік ансамбля З. В. Блажко.— Усюды да нашага крыху незвычайнага мастацтва ставяцца зацікаўлена, запрашаюць прыязджаць яшчэ. Гэта, мабыць, таму, што «інструменты», на якіх мы выконваем свае няхітрыя мелодыі, узяты з побыту вяскоўца, блізкія і добра знаёмыя ім.

**Алесь ШВЕДАЎ.**

**ТЭЛЕГРАФНЫМ РАДКОМ**

## ВЕРШЫ ПЕРАКЛАЎ ПАЭТ...

Упершыню ў Дэлі (на хіндзі) выйшаў зборнік твораў вядомых сучасных беларускіх паэтаў — М. Танка, П. Панчанкі, Н. Гілевіча, А. Вярцінскага, С. Гаўрусёва, Р. Барадуліна, В. Зуёнка, Я. Сіпакова, Г. Бураўкіна, А. Грачанікава, Д. Бічэль-Загнетавай. Аўтар прадмовы — В. Няфёдаў. Пераклаў вершы індыйскі паэт, які атрымаў прызнанне як актыўны прапагандыст савецкай літаратуры, лаўрэат прэміі фонду імя Дж. Нэру, крытык Вар'ям Сінгх.

Кніга прыгожа выдадзена. Аўтарскія падборкі вершаў размешчаны перакладчыкам згодна прынятага ў Індыі ўзроставага прынцыпу. Анталогія з'яўляецца адным з вынікаў дынамічнага савецка-індыйскага культурнага супрацоўніцтва.

Сінгх працуе ў Цэнтры рускіх даследаванняў універсітэта імя Дж. Нэру ў Дэлі. У 1984 годзе гэты вядучы універсітэт Індыі быў узнагароджаны высокааўтарытэтнай прэміяй Фонду імя Дж. Нэру.

**Валерый НЯФЁДАЎ.**

**ІНФАРМАЦЫЯ ДА РОЗДУМУ**

## РАЧНЫ «ДВОРНІК»

Аб Прыпяці вучоныя гавораць, што гэта самая чыстая суднаходная рака Еўропы. Неўзабаве яна стане яшчэ чысцейшая. Таму што ў галоўнай «вуліцы» Палесся з'явіўся свой «дворнік». Гэта — судна, якое спусцілі са стапеляў пінскія суднабудаўнікі. Якія ў яго задачы?

— У трумах невялікіх буксіраў і буйных цеплаходаў непазбежна назапашваюцца так званыя падсланевыя воды,— расказвае дырэктар Пінскага суднабудаўнічага-суднарамонтнага завода Віктар Паўлавіч Бруцкі.— Воды тыя нагадваюць разбаўленыя нафтапрадуктамі веснавыя лужыны ля аўтазаправачных станцый, зліваць іх за борт — значыць наносіць адчувальны ўдар экалагічнаму рэжыму ракі. Нават, калі капітан дае каманду адпампоўваць на бераг. Гэта значыць на спецыяльна адведзены для гэтых мэт участак. Глеба — фільтр нядрэнны, і ўсё ж праблема застаецца праблемай. Дакладней кажучы — заставалася. Калі мэць на ўвазе Прыпяць, а таксама Дняпроўска-Бугскі канал. Бо магутная плывучая станцыя ачысткі — так афіцыйна называецца рачны «дворнік» — дазваляе рашыць гэтую праблему хутка і эфектыўна.

Задача ў незвычайнага карабля — адпампоўваць з трумаў цеплаходаў глыбокія лужыны з



улікам пажаданняў калгаснікаў: побач з кожным — прысядзібны ўчастак, ёсць магчымасць трымаць карову, разводзіць курэй, гадаваць парасят... Але не толькі жыллё для 150 сем'яў пабудавана па праектах тутэйшых архітэктараў. Вось-вось завершыцца ўзвядзенне Дома культуры, гандлёвага цэнтра.

— Значныя сродкі выдзяляюцца на гэтыя мэты,— расказвае начальнік праектна-канструктарскага бюро П. В. Улізло. Кожны ўкладзены ў будаўніцтва рубель хутка акупляецца. І гэта зразумела. Чалавек, якому далі добрае жыллё, стварылі адпаведныя ўмовы працы і адпачынку, не шкадуе сваіх сіл на вытворчасці. Не выпадкова ў восемдзесят пятым годзе чысты прыбытак калгаса склаў 4 мільёны рублёў!

Да 116-й гадавіны з дня нараджэння У. І. Леніна архітэктары гаспадаркі «Памяць Ільіча» вырашылі завяршыць шэраг цікавых праектаў. Будаўніцтва пасёлка працягваецца. У гэтай пяцігодцы яшчэ 200 сем'яў калгаснікаў справяць наваселлі.

**На здымках:** уступіла ў строй дзеючых новая калгасная сталовая; на ватманах нараджаюцца новыя праекты. Чарговую работу абмяркоўваюць начальнік праектна-канструктарскага бюро П. В. Улізло і дырэктар калгаснага кіслароднага завода А. С. Пятрушка.

---

падцёкамі паліва. 450 тон грузу здольна ўзяць на свой борт станцыя. Аднак, ці можна называць грузам брудную жыжку?

— Чаму ж не? — паціскае плячамі механік судна П. М. Акуліч.—Пасля фільтроўкі жыжка тая ператвараецца ў тоны каштоўных нафтапрадуктаў і чыстую, як сляза, ваду, што вяртаецца ў Прыпяць, прайшоўшы аналізы ў лабараторыі. Што тычыцца нафтапрадуктаў, то за першыя месяцы існавання станцыі мы ўжо сабралі 200 тон выдатнага паліва для пінскіх кацельняў.

КОСМАС І ДЗЕЦІ

## ЗАРКАЛЁТЫ БУДУЕМ САМІ

— На старт!

Гэта каманда аднолькава знаёма спартсменам, касманаўтам і выхаванцам Віцебскай гарадской станцыі юных тэхнікаў, сярод якіх ёсць чэмпіёны рэспубліканскіх спаборніцтваў па ракетамадэльнаму спорту. Але самі школьнікі прывыклі называць сябе не спартсменамі, а юнымі касманаўтамі. Або будучымі стваральнікамі цудоўных заркалётаў.



Не бяда, што пакуль іх ракеты не ўзнімаюцца вышэй воблакаў. Затое гэтыя рэактыўныя машыны арыгінальных, нечаканых нават для спецыялістаў канструкцый.

Хлопчыкі мараць: міне час і ім, можа быць, будзе даручана работа ў космасе. Захапляючая, якая патрабуе ведаў, адвагі і абавязкова — мірная.

А яшчэ самыя юныя віцебскія ўмельцы будуюць трактары, камбайны, аўтамабілі будучага. Работы іх адзначаны медалямі ВДНГ СССР, дзесяткамі дыпломаў.

5 МІНУТ НА ІНТЭРВ'Ю

## ЯК СТАЦЬ ВОЛАТАМ

Каму з нас не хочацца быць дужым і спрытным. Аднак не ў кожнага хапае цярпення і часу для ўпартых трэніровак. А ці нельга неяк скараціць гэты шлях? Можна. Пры дапамозе арыгінальнага прыбора — біяхімічнага стымулятара мышц. Ён створаны на кафедры біямеханікі Беларускага інстытута фізічнай культуры.

Пра навінку расказвае адзін з аўтараў распрацоўкі — дацэнт інстытута **Вадзім Рыгоравіч КІСЯЛЁЎ:**

— Прыбор прымушае вібрываваць мышачныя тканкі, у выніку чаго кроў — хаця сэрца і б'ецца ў ранейшым рытме — значна хутчэй ачышчае іх ад розных шлакаў, узбагачаючы кіслародам і бялком.

Нетрэніраванаму чалавеку дастаткова чатыры разы ў дзень па некалькі хвілін «падключыцца» да новага прыбора, каб адчуваць сябе ў добрай спартыўнай форме.

**— Ці хутка незвычайны трэнажор можна будзе набыць у магазінах?**

— Праз год — паўтара. Але заўважу: мы чакаем яшчэ кампетэнтнай ацэнкі гэтага прыбора медыкамі.

БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!

## ДУХМЯНЫ ЎРАДЖАЙ

Тут плануюць атрымаць з кожнага гектара па 5—6 кілаграмаў... лекавага масла. Якога менавіта? Мятнага.

На тэрыторыі рэспублікі толькі ў Петрыкаўскім раёне можна ўбачыць вялікія плантацыі духмянай расліны, якая дорыць здароўе.

Мятнае масла з Гомельскай вобласці будзе адпраўлена на фармацэўтычныя прадпрыемствы Беларусі і Украіны.

СВЕТ ЗАХАПЛЕННЯЎ

## «Б'ЮІК» У СЕНЕ

Як наноў нараджаюцца старыя аўтамашыны і матацыклы? Вельмі па-рознаму. Безумоўна, перш чым заняцца рэстаўрацыяй, трэба адшукаць даўным-даўно пабудаваную машыну.

Адказны сакратар Мінскага клуба антыкварнай аўтамотатэхнікі Віктар Сцяпанавіч Замятка расказаў, напрыклад, аб нечаканай знаходцы «Б'юіка» ў закінутым хляве з напаўгнілым сенам.

Прыпомню, як літаральна па асобных дэталях члены гарадскога клуба збіралі унікальны «Руса-Балт», прыгажун «Пакард», мініяцюрную малалітражку «Датсун».

Але давайце паслухаем яго самога:

— Толькі ў Мінску афіцыйна зарэгістравана каля ста легкавушак, кожнай з якіх, па меншай меры, паўвека. Але ёсць яшчэ многія дзесяткі машын, лёс якіх нас хвалюе: яны знаходзяцца ў сумным стане. «Ядро» нашага клуба — гэта каля трыццаці захопленых, адданых даволі рэдкаму хобі аднадумцаў. Калі вы пабываеце ў гаражы каго-небудзь з іх, то абавязкова заўважыце, з якім стараннем, я б нават сказаў, адухоўленасцю працуюць умельцы.

У некаторых збіральнікаў антыкварнага аўтамотатранспарту — па некалькі легкавушак і матацыклаў, якія шмат пабачылі на сваім вяку. Вядома, большасць з іх усяго з дзесятак разоў на год пакідаюць гараж, здзіўляючы ў час паездак прахожых, а таксама інспектараў ДАІ. Дарэчы, работнікі Дзяржаўтаінспекцыі ведаюць, што любоўна адрэстаўрыраваны стары лімузін падрыхтаваны нават лепш, чым практычна новенькія «Жыгулі» і «Масквічы» некаторых нядбайных уладальнікаў.

Павінен заўважыць, што Мінскі клуб антыкварнай аўтамотатэхнікі аб'ядноўвае не толькі рэстаўратараў старых аўто, матацыклаў, але і людзей, якія займаюцца самастойным канструяваннем. Стваральнікі «самаробак» не толькі з задавальненнем знаёмяцца адзін з адным, але і раяцца, абменьваюцца чарцяжамі, ідэямі.

Падкрэслю: у наш клуб могуць быць залічаны і іншагароднія. Нават не абавязкова калекцыянеры машын мінулага або канструктары машын арыгінальных, абсалютна новых. Важна толькі адно: каб у чалавека было жаданне паспрабаваць свае сілы ў гэтай справе.

— А калі яно ёсць, то куды звяртацца з просьбай прыняць у клуб?

— Давайце дамовімся так: няхай жадаючыя пішуць у часопіс, а вы пазнаёміце нас з гэтай поштай.



**Выпуск падрыхтаваў Валерый ЛАПІН.**
**Фота Міколы АМЕЛЬЧАНКІ, Віктара ЗІНОЎЕВА і Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# ДЗЕ ЎЗЯЦЬ 4 МІЛЬЁНЫ?

Усе мы любім свой горад. Ганарымся кожнай новай вуліцай, новым будынкам, скверам, паркам, горача ўлюбёныя ў сваё метро. І ўжо не здзіўляемся, як хутка расце і харашэе ён, як адзяваецца ў мармур і граніт. Адно, што мала хто з нас задумваецца над тым, у колькі ж усё гэта абыходзіцца дзяржаве? А абыходзіцца, прама скажам, дорага. Мяркуйце самі: кошт аднаго квадратнага метра мармуру складае 45—50 рублёў, а граніту яшчэ больш — 55—70 рублёў. Калі да гэтага дадаць яшчэ і тое, што прывозяцца гэтыя матэрыялы часта здалёку, то стане зразумела: кошт мармуру і граніту з кожным годам павялічваецца. Чытач спытае: а ці можна сёння, выкарыстоўваючы дасягненні навукі і тэхнікі, знайсці раўнацэнную замену? Адказваем: можна. І для гэтага не трэба вывучаць патэнты і каталогі замежных фірм ці ствараць лабараторыі па распрацоўцы такога матэрыялу. Трэба толькі ўважліва прыглядзецца да таго, што ўжо зроблена нашымі, беларускімі вучонымі.

Дэкаратыўны бетонпалімер... Гэтае слова вам, напэўна, нічога не скажа, але падштурхне да думкі, што гэта нейкі новы матэрыял. З просьбай паказаць бетонпалімер мы звярнуліся да спецыялістаў: кандыдата тэхнічных навук, лаўрэата прэміі Савета Міністраў БССР Б. Б. Барысава і кандыдата тэхнічных навук В. А. Барысевіча. І што мы ўбачылі? Прыгожыя, зіхоткія кавалкі мармуру і граніту самых розных колераў. Адчулі яшчэ большае здзіўленне, калі даведаліся, што гэта — звычайны бетон, насычаны хімічным рэчывам — манамерам і падвергнуты спецыяльнай апрацоўцы. У выніку атрымаўся новы матэрыял — бетонпалімер! І самае лепшае яго выкарыстанне — для абліцоўкі фасадаў дамоў, падземных пераходаў, станцый метрапалітэна. Прычым яму можна надаць любы колер.

А цяпер для параўнання з простым бетонам дадзім некаторыя тэхнічныя характарыстыкі новага абліцовачнага матэрыялу:

— яго трываласць на ціск узрастае ў 2—3 разы, на расцяжэнне — у 3—4 разы, на сціранне — у 3—4 разы;

— насычэнне вадой і вільгаццю паніжаецца ў дзесяткі разоў.

Пералік якасцей новага матэрыялу можна дапоўніць і такой лічбай. Калі натуральны абліцовачны мармур вытрымлівае 35 атмасферных цыклаў адтайвання і замярзання, то бетонпалімер — ад 500 да 1000 цыклаў. Доследныя ўзоры дэкаратыўнага бетонпалімера прайшлі выпрабаванні ў кліматычных умовах горада Мінска на працягу 32 месяцаў (з красавіка 1976 года да студзеня 1979 года) без змянення знешняга віду і якасці.

Дарэчы, вучоныя падлічылі, што адзін квадратны метр новага матэрыялу каштуе ўсяго толькі 12—14 рублёў, амаль у 4 разы танней, чым квадратны метр мармуру і ў 5—6 разоў танней, чым адзін квадратны метр граніту. Навізну гэтай распрацоўкі пацвярджаюць восем аўтарскіх пасведчанняў на вынаходніцтва. Трэба падкрэсліць, што ў капіталістычных краінах пакуль што аналагаў бетонпалімера няма, але работы ў гэтым напрамку вядуцца. Праблема абумоўлена тым, што ў гэтых краінах існуе вялікі дэфіцыт абліцовачнага матэрыялу. Пэўны дэфіцыт абліцовачнай пліткі ёсць і ў нас. І тут міжволі ўзнікаюць пытанні: чаму ж мы не бачым бетонпалімера на вуліцах, у метро?

Адказ просты: вытворчасць гэтага матэрыялу, як і многіх іншых, дарэчы, вельмі патрэбных для народнай гаспадаркі машын, механізмаў і тэхналогій, патанула ў бясконцых абгрунтаваннях, абмеркаваннях, узгадненнях, пісьмах, запытаннях, адказах, а папросту ў адпісках, у абыякавасці, у адсутнасці гаспадарчага мыслення, у незацікаўленасці, а хутчэй безадказнасці некаторых адказных асоб. А між іншым на нарадзе па пытаннях паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў гаварыў: «...мы можам і павінны атрымліваць ад навуковых даследаванняў значна большы эфект. На задачы навукі неабходна глянуць па-новаму, праз прызму патрабаванняў часу — патрабаванняў рашучага павароту яе да патрэб грамадскай вытворчасці...»

А што мы маем у адносінах да перспектыўнага будаўнічага матэрыялу — бетонпалімера на сённяшні дзень? Пухлую папку пісьмаў і адпісак, на якіх неабходнага для народнай гаспадаркі завода для вытворчасці бетонпалімера не пабудуеш, а сцэнарый для гумарыстычнага кіначасопіса «Кнот» можна напісаць добры. Вось факты. У абмеркаванні пытання па стварэнню «магутнасці» для вытворчасці бетонпалімера прымалі ўдзел Міністэрствы прамысловасці будаўнічых матэрыялаў СССР і БССР, Савет Міністраў БССР, Усесаюзны навукова-даследчы інстытут «Будпалімер» Мінпрамбуда СССР, Усесаюзны НДІ будматэрыялаў, НДІ будматэрыялаў БССР, Белдзяржпраект, Белжылпраект і іншыя. І ні адна з гэтых устаноў не паказала, што бетонпалімер — рэч непатрэбная.

Больш таго, аб'ект па вытворчасці бетонпалімерных абліцовачных пліт быў уключаны ў праект плана капітальнага будаўніцтва на адзінаццатую пяцігодку.

«Распрацаваная Мінскім НДІ будаўнічых матэрыялаў, Усесаюзным НДІ «Будпалімер» сумесна з Інстытутам ядзернай энергетыкі АН БССР тэхналогія атрымання дэкаратыўных бетонпалімерных пліт перспектыўная... Міністэрству будматэрыялаў СССР прадугледзець сродкі для стварэння эксперыментальнай лініі» — вось вытрымка з пісьма намесніка міністра прамысловасці будаўнічых матэрыялаў СССР М. П. Кабанава ад 20 снежня 1982 года.

Дык дзе ж рашэнне гэтага важнага для рэспублікі пытання, вакол якога ламаюць пёры і пераводзяць паперу міністэрствы і ведамствы?

Усё ўпіраецца, як тлумачаць, у 4 мільёны рублёў. Менавіта столькі патрэбна для арганізацыі вытворчасці бетонпалімерных пліт. І нават не для будаўніцтва новага завода, а для рэканструкцыі аднаго цэха завода па вытворчасці жалезабетонных вырабаў. Чатыры мільёны — немалая сума. Хто павінен яе выдаткоўваць?

Цытуем пісьмо ад 19 кастрычніка 1982 года Савета Міністраў БССР на адрас Мінбудматэрыялаў СССР: «Просім знайсці на 1984—1985 гады 2,95 мільёна рублёў капіталаўкладанняў, у тым ліку 2,8 мільёна рублёў на будаўніча-мантажныя работы з лімітам падрадных работ па Мінпрамбуду БССР для стварэння магутнасцей па вытворчасці 200 тысяч квадратных метраў абліцовачных бетонпалімерных пліт». Дарэчы, 200 тысяч квадратных метраў — гэта той неабходны мінімум, які па даных Мінжылкамгаса патрэбен гораду Мінску для выкарыстання ў будаўнічых работах.

А цяпер правядзём некаторыя падлікі. Калі выкарыстаць у будаўніцтве 200 тысяч квадратных метраў бетонпалімераў замест прыроднага граніту, гэта дало б 5,6 мільёна рублёў эканамічнага эфекту ў год, і калі б такі завод быў пабудаваны яшчэ ў 1982 годзе, то на сённяшні дзень эканамічны эфект ад выкарыстання яго прадукцыі перавысіў бы 16 мільёнаў рублёў, іншымі словамі, чатыры разы акупіў бы сябе. На гэтай падставе можна ўпэўнена сказаць, што за чатыры гады на вецер вылецела мінімум 16 мільёнаў рублёў і сотні тысяч квадратных метраў граніту і мармуру, якога ў нас няма. Між іншым, навуковая думка імкліва рухаецца ўперад. Ужо сёння распрацавана новая тэхналогія бетонпалімерных пліт, вытворчасць якіх будзе яшчэ больш танная і якія могуць быць выкарыстаны не толькі для знешняй абліцоўкі, але і для ўпрыгожвання ўнутраных бытавых памяшканняў. Ці не чакае і яго такі ж сумны лёс?

Дарэчы, нядаўна італьянская фірма «Брэтан» прапанавала купіць тэхналогію вытворчасці пліт на смолах, якія ёсць толькі ў італьянцаў. Прычым па даўгавечнасці італьянская прадукцыя ўступае беларускаму бетонпалімеру. Вядома, калі мы і далей будзем разважаць, будаваць завод ці не, то настане такі час, калі міжволі давядзецца купляць такую прадукцыю ў тых жа італьянцаў ці ў іншых заходніх фірм. Элементарная логіка падказвае: калі мы наладзім вытворчасць бетонпалімераў, то не толькі задаволім свае ўласныя патрэбы ў якасным і танным будаўнічым матэрыяле, але і зможам прадаваць яго за мяжу. Тым больш, што такія матэрыялы карыстаюцца попытам у многіх краінах, якія адчуваюць нястачу ў будаўнічай сыравіне.

Дык дзе ж узяць 4 мільёны і хто адкажа за тыя дзесяткі мільёнаў рублёў, недададзеных у дзяржаўную скарбонку?

**Віктар ВЯЛЕСЬКА,**
**Віталь ВЕРАШЧАГІН.**

**Міхась КАЛАЧЫНСКІ**

# РЭХА ДАЛЁКІХ ГРЫМОТ І ЗУСІМ БЛІЗКАЙ ЦІШЫНІ



## *Чацвёрты штурм*

Цэлу ноч на рубеж накаплення
Пад варожым бязладным агнём
Адпраўляе камбат папаўненне
І гаворыць сваё: «Штурманём!»

Штурманём... Гэта ўрэзана ў думы
Нам, абстрэляным, і маладым.
Былі тры ўжо рашучыя штурмы,
Трыста жыццяў аддадзена ім.

Што прызначыў чацвёрты,
найгоршы,
Не пытае ніхто ні ў каго,
Можа стане ўжо самым апошнім
Для мяне й батальёна ўсяго?

Хныкаць нечага. Суджана біцца,
Покуль Троіцкае не падзе.
Ну й далася ты ў знакі, станіца,
Усім, хто наступ да мора вядзе.

Там Тамань...
Там разлог прыазоўскі...
Край, дзе Лермантаў ссыльны
хадзіў...
Мужных бераг, скуль рускае войска
Гнала ворагаў свету наўздзіў.

Слава продкаў!.. Злавесны
наўмыснік
Век не засціць мінулага нам.
Ноч ляціць. Мы са стэпам зрасліся.
Гразкі грунт прыліпае к нагам.

Папаўненне даўно на зыходнай.
Хутка бой — без успышкі ракет,
Ледзь засвеціцца золак усходні,
Рушаць танкі, пяхота — услед.

Дзе ж ты, ранак? Чакаем зацята.
І нарэшце дзень грае зару.
— Штурм! Я ўзняўся, стаў поплеч
з камбатам,
А ў вачах — Беларусь. Беларусь...

Прывід нікне... Адно прад вачамі:
Подступ к Троіцкай — стэп,
чарназём.
Хіжы вораг ачнуўся, ў адчаі
Б'е ўсяствольна прыцэльным агнём.

Я гляджу на пяхоту, на танкі —
Воля сэрцаў і сталі ланцуг.
Я — звяно тут, і сіле ніякай
Не спыніць пераможны наш рух!

Сотні крокаў... Да ўскраін станіцы.
Блізка ўжо — як рукою падаць.
Я іду... Танк на бруха садзіцца —
Пачынае браня буксаваць.

Я іду... У крыжах самалёты
Ўніз насамі — прыцэл на браню.
А пяхота?.. Царыца-пяхота
Прабівае заслону агню.

Штурм закончаны. Грозны. Віхурны.
У ім бясспрэчнасць спасцір я адну:
Той, каго не кідалі на штурмы,
Хай не кажа, што зведаў вайну.

## *Адзін з невядомых*

**Памяці брата Вячаслава, байца Ленінградскага фронту**

Не знаю дзе,
Пад Ропшай ці пад Колпінам,
Ты, лёсам кінуты, сустрэў вайну.
Уяўляю ўзлесак...
Восень над акопамі
Нясе на ўток свой
пасмаў сівізну.

Фронт выдыхся,
Альбо прыціхаміруўся,
Даў перадышку людзям і зямлі.
Бярозкі ў промнях
Міла засвяціліся,
Залаталісце ветру аддалі.

Ён кружыць дар,
І думкі ціха плоймяцца.
Маленства край...
Над рэчкаю бары...
І песні маці...
Усё да кроплі помніцца,—
О, як булькочуць памяці віры!

Перад акопамі
Наўсцяж палеткі бурыя.
Бязлюднасць — ні душы,
Трымціць іржэўе,
Быццам перад бураю
У ненадзейнай франтавой цішы.

Струну зацішша,
Да канца напятую,
Ірве раптоўна рыканне гармат.
І думкі — россыпам...
Ты ўстаў з салдатамі,
І — ў бой на кліч:
«За Ленінград!»

А побач выбухі...
На тым усё канчаецца.
У невядомасць дым плыве густы.
Не, вобраз твой у дыме
не губляецца:
Ты — як жывы,
са мной у сэрцы ты!

## *Калінаўка, сяло палескае*

Няма ў Калінаўцы каліны,
Пад хатамі бухматы бэз,
На прыгуменні траў кілімы,
Затым — сцяной нязрушны лес.

Зірні здаля — ён мёртва-сіні,
Ды варта падысці бліжэй,
І затрапечацца асіннік,
І вольхі выглянуць стражэй.

Наказ лісцвяным сёстрам строгі —
Гушчарняў скарбы засланіць.
А колькі іх!..
Дабра лясного
І на ЭВМ не падлічыць.

Бярозы ростам пад аблокі —
Гурба гуллівых маладух.
Хто перад ёй не сцішыць крокі,
Не здыме шапку на хаду!

Ідзе ў Калінаўцы гаворка
Пра іх няўтоены квартал:
З дажджом туды, у Беразоўку,
Усе грыбнікі — бы на аўрал.

Удачы тым,
Хто больш праворны!
А я, хоць выведаў грыбы,
Гляджу ў здзіўленні, як цудоўна
Тут раскашуюцца дубы.

Стаяць па-царску, і каб трохі
Паразмаўляць з людзьмі маглі,
То расказалі б пра эпохі,
Якія побач прагулі.

Дубы...
Бярозы...
Ну, а сосны?..
Бары, падсеянцаў баркі,
Прастор займаючы шырозны,
Ва ўсе разбегліся бакі...

Адлічыць лета цэлы тыдзень,
Пакуль, спяшай ці не спяшай,
Калі задумаў ты, абыдзеш
Лясны, разліты морам край.

Раўніны, упадзіны, пагоркі.
Без меж ушыркі, ўдаўжыню
Маглі б змясціць
аж тры Нью-Йоркі —
Усе іх «стрыты» й авеню.

Гудуць лясы.
Лясы гамоняць
На мове дрэў, вячыстых крон,
Праз сорак год навалу помняць,
Блакады, выкляты палон.

Не паддаваліся ніколі
Тут людзі ўладзе чужаніц,
Аддана біліся за волю
Ў палыханні навальніц.

Лясоў гусцяж ігліцай выслаў
Сцяжыны мсціўцаў спатайка,
Бо недалёка востраў Зыслаў
Мазоліў вочы чужакам.

Вайны суровыя сакрэты
На расшыфроўку ён не даў:
Жылі падполля камітэты
І выдавалася «Звязда».

Грымеў гушчар, імглой абняты,
Трывожна — злыбедням на страх.
Вялі змаганне мсціўцы ўпарта,
Кроў праліваючы ў баях.
Праз лес ляжалі іх дарогі
Ў Берлін, дзе вораг,
крах адчуўшы, выў.
...І ў арэоле Перамогі
Ёсць колер лесу і крыві.

## *З прыродай зліцца...*

Прыродзе роднай
Мала пакланіцца —
Пачуцці ўсе не выкажа паклон.
Я марыў жыць ёй, з ёю зліцца
І трапіў сэрцам да яе ў палон.

І я адчуў
Прыроды узаемнасць
І скарбы незлічоных таямніц,
Чытаў зямлі вячыстую паэму
Ў зялёным шуме,
плёскаце крыніц.
І захапляўся
Музыкай спакою,
Акордамі раскатаў грамавых,
Гармоніяй палеткаў веснавою
Пад небам без хмурынак
дажджавых.

Душой падслухаў
У барах дрымотных
Дубоў паданні, казкі хвой, ялін,
Смех лесуноў
гарэзліва-самотных,
Спеў казачных красунь
і шэпт асін.

Мне ў гушчарах
Будзілі поўнач совы,
Світанні у надрэччы — салаўі.
І неслі перазвон свой чабаровы
Пчаліныя, шматструнныя гаі.

Лавіў я слыхам
Тысячы мелодый
Зямлі і сонца, тумано́ў і хмар —
І ўсё гуло сімфоніяй прыроды,
Дзе чалавек — адзіны уладар.

Хвала яму!
Няхай ён уладарыць
Разумна, дбала і трымае меч,
Каб тым, хто атамныя
сніць пажары,
Ў імя жыцця ссячы галовы з плеч.

## *Казінка*

Струменіцца Казінка,
Хаваецца ў траве.
Зямных глыбінь слязінка
У далёкі край плыве.

Узгадавана борам,
Падгорным, залатым...
Таму ў рачулкі нораў
Пакладзісты й круты.

Нервуецца, як часам
Сустрэне перакат,
Грымець спрабуе басам,
Нібыта вадаспад.

А выскачыць на роўнядзь,
Прыцішыць плыні гон,
Сінечай бездань поўніць
Да самых берагоў.

Яе вірам, крыніцам
Зайздросцяць поймы рэк,
Крануць красу баіцца
Індустрыяльны век.



назваў гэты балет «падзеяй у культурным жыцці... усёй Еўропы». На беларускай сцэне балет А. Пятрова прайшоў больш за сто разоў, і сёння на яго гэтак жа цяжка трапіць, як і на прэм'еру.

Праз два гады пасля «Стварэння свету» на мінскай сцэне быў пастаўлены балет «Тыль Уленшпігель», харэаграфічная версія знакамітага рамана Шарля дэ Кастэра.

З усіх спектакляў, пастаўленых В. Елізар'евым, «Тыль...» выклікаў найбольшыя спрэчкі. Балетмайстра хвалілі за супрацоўніцтва з беларускім кампазітарам, за зварот да сур'ёзнай драматургіі, за стварэнне сапраўды гераічных вобразаў — недахоп іх заўсёды востра адчуваўся на балетнай сцэне. І разам з тым «абвінавачвалі» — калі гэтае слова наогул стасуецца з мастацкай творчасцю — ва ўскладненасці лексікі, празмернай «акрабатычнасці» пластычнай мовы, у самацытаванні.

Аднойчы мы размаўлялі з Валянцінам Мікалаевічам пра гэты балет, пра ацэнкі яго ў друку. Памятаю, Елізар'еў казаў тады:

— Крытык мае права на ўласную думку, на ўласную канцэпцыю, і зусім не абавязкова, каб яго меркаванне і меркаванне самога харэографа супадалі. Усе спектаклі, якія паставіў, мне дарагія. Гэта ж мае дзеці...

Наогул трэба сказаць, што пры ўсіх знешніх прыкметах поспеху творчы шлях Елізар'ева — як шлях кожнага сапраўднага мастака — не пазбаўлены ўнутранага драматызму. У чым ён? У неабходнасці штодня патрабаваць ад трупы і яе саліставу часам немагчымага, патрабаваць тых ахвяр, без якіх не можа існаваць сапраўднае,

# *Тэатр Валянціна ЕЛІЗАР'ЕВА*



...Мінаючы кантралёраў, натоўп святочна апранутых, прыўзнята настроеных людзей расцякаўся па фае. Вакол капельдынераў са стосікамі праграмак у руцэ выстройваліся чэргі заўзятых тэатралаў. Сярод стракатага прэм'ернага люду вока адзначала фотакарэспандэнтаў, абвешаных самай разнастайнай тэхнікай. Гледачы займалі свае месцы ў зале, з цікавасцю разглядалі дзівосных керамічных жывёлін на авансцэне, агаленую машынерыю ўсёй сцэнічнай гаспадаркі, абмяркоўвалі, ці моцны склад выканаўцаў выступае сёння і які ўвогуле будзе новы спектакль.

Па фае тэатра ў гэты час нетаропка крочыў даволі малады чалавек. Ён хваляваўся, але пра гэта можна было толькі здагадвацца. Ці то загадкавы выраз яго твару, ці нешта змоўніцкае ў аблічы выклікалі ў тых, хто спыняў на ім позірк, добрую ўсмешку. Да трэцяга званка заставалася зусім нямнога. Мала хто з публікі ведаў, што чалавек у фае мае самае непасрэднае дачыненне да таго, што праз некалькі хвілін адбудзецца на сцэне. Так, гэта быў галоўны балетмайстар тэатра Валянцін Елізар'еў.

...Дзівосная ўсё-такі гэта здольнасць — ствараць танец! Здольнасць, якую цяжка спасцігнуць, прааналізаваць да канца. Асабліва ў тым выпадку, калі перад намі асоба харэографа бясспрэчна таленавітага, творчасць якога стала з'явай культурнага жыцця.

Далучэнне да тайн балетнага мастацтва пачалося для Валянціна Елізар'ева ў Бакінскім харэаграфічным вучылішчы. Педагогі ўпэўнена гаварылі пра яго як пра цікавага ў будучым характарнага танцоўшчыка. Адукацыю юнак завяршаў у славутым Ленінградскім харэаграфічным вучылішчы. Але ўсе перспектывы і мары перакрэсліла траўма, атрыманая на рэпетыцыі...

Тады ж педагогі параілі Валянціну паступаць на балетмайстарскае аддзяленне Ленінградскай кансерваторыі. Тут настаўнікам Елізар'ева быў вядомы савецкі харэограф Ігар Бельскі, спектаклі якога, створаныя на пачатку 60-х гадоў, пракладвалі новыя шляхі ў балетным мастацтве.

У дваццаць шэсць гадоў Елізар'еў узначаліў балетную трупу Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. Ён тады з'яўляўся самым маладым галоўным балетмайстрам у краіне. У гэтым прызначэнні была рызыка, і немалая. Але, як стала зразумела літаральна праз некалькі сезонаў, яна цалкам апраўдала сябе.

Сваю дзейнасць як галоўнага балетмайстра Валянцін Мікалаевіч пачаў з пошуку аднадумцаў, бо спектакль немагчыма стварыць у адзіноце. Ён зрабіў стаўку на моладзь, смела прызначаючы на вядучыя партыі маладых, здольных, але не заўсёды тытулаваных артыстаў, не менш смела даючы эпізадычныя ролі тым, чые прэтэнзіі, на жаль, аказваліся значна большымі, чым здольнасці. Найбольш таленавітую частку трупы Елізар'еў захапіў духам перамен, азартам пошуку.

Яго першым спектаклем на беларускай сцэне была «Кармэн-сюіта» Ж. Бізэ — Р. Шчадрына (1974). Пазней крытыка адзначала, што гэты спектакль — рывок беларускага балета ў якасна новае вымярэнне.

У 1976 годзе на афішах тэатра ўпершыню з'явілася назва балета А. Пятрова «Стварэнне свету». Пастаноўка яго была наступнай значнай работай В. Елізар'ева. Аб грамадскім рэзанансе, які атрымаў гэты спектакль, сведчыць хаця б такі факт. У гутарцы з беларускімі журналістамі вядомы нямецкі рэжысёр Карл-Хайнц Фіртэль



**На каляровых здымках: сцэны з балета «Шчаўкунок».**



Валянцін Елізар'еў на рэпетыцыі.




Афіша гастроляў беларускага балета ў Іспаніі.

высокае мастацтва; у тым, што прызнанне яго спектакляў ніколі не было безагаворачным; у тым, што поспех новага балета ўзнімае ўсё вышэй «планку» адліку, крытэрый, па якім будзе ацэньваацца наступны спектакль, а творчыя ідэі, у шырокім разуменні гэтага слова,— яны ж не невычэрпныя... Ды яшчэ шмат іншага.

...Працягам роздуму пра сутнасць гераічнага, пачатага балетмайстрам у «Тылі Уленшпігелі», стаў «Спартак». Фрэскі на тэмы рымскай гісторыі — так вызначала крытыка жанр балета А. Хачатурана, які быў пастаўлены В. Елізар'евым у 1980 годзе.

Спектакль апяваў свабодалюбівы парыў, духоўнае адзінства людзей, якое аказалася мацнейшым за ваенную машыну Рымскай імперыі...

У 1982 годзе Елізар'еў ажыццявіў на мінскай сцэне пастаноўку балета П. Чайкоўскага «Шчаўкунок», гэтай, паводле слоў вядомага кампазітара і музыказнаўцы Б. Асаф'ева, «сімфоніі дзяцінства, дзіцячых думак, гульняў і дзіцячага кахання». Балет атрымаўся незвычайна святочным, казачным, аптымістычным па духу. Гэта адзін з самых светлых, шматфарбных, гарманічных спектакляў з тых, што былі пастаўлены на сцэне нашага тэатра за апошнія некалькі гадоў.

Услед за вакальна-харэаграфічным прадстаўленнем «Карміна Бурана» на музыку Карла Орфа (часопіс пісаў ужо пра гэтую работу тэатра) В. Елізар'еў прадставіў на суд гледача аднаактовы балет «Балеро» М. Равеля.

Спектакль гэты, адна з апошніх работ балетнай трупы, уражвае перш за ўсё незвычайнай трактоўкай тэмы, музычнай асновы. Звычайна інтэрпрэтацыя «Балеро» не выходзіла за межы займальнага любоўнага сюжэта, ён будаваўся як дывертысмент, які даваў магчымасць прадэманстраваць майстэрства характарных танцоўшчыц трупы, прыгажосць іспанскіх народных танцаў. Аналізуючы спектакль беларускага тэатра, амаль усе яго рэцэнзенты цытавалі радкі вядомага верша М. Забалоцкага: «О, болеро, священный танец боя!». Танец-змаганне, танец-барацьба — так успрымаўся спектакль. «Балеро», паказанае ў час святкавання 40-годдзя Перамогі над фашызмам, калектыў прысвяціў іспанскім антыфашыстам...

Калі гаварыць увогуле пра творчасць В. Елізар'ева, дык варта заўважыць: амаль кожны яго спектакль станавіўся цікавай з'явай, прыцягваў да сябе ўвагу і спецыялістаў, і аматараў балета, і самага шырокага гледача. Але справа, відаць, не толькі ў з'яўленні значных, бясспрэчна смелых харэаграфічных спектакляў, але і ў тым, што дзейнасць Елізар'ева як пастаноўшчыка і галоўнага балетмайстра вывела мінскую балетную трупу на якасна новы ўзровень.

Неўзабаве пасля гастроляў Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР у Маскве ў 1984 годзе вядомы савецкі крытык Мікалай Эльяш пісаў у часопісе «Советский балет»: «Признаным лідэрам беларускага балета стаў галоўны балетмайстар калектыву В. Елізар'еў. Яго мастацтва імкнецца да вобразнай філасофіі, складаных метафар. Яго пастаноўкі патрабуюць ад выканаўцаў не толькі віртуознай тэхнікі, але і глыбокага акцёрскага інтэлекту і стылявога адзінства. Акцёру, які толькі што прыйшоў у трупу, даводзіцца нялёгка. Вельмі складаныя творчыя задачы, незвычайны пластычны малюнак, высокія патрабаванні да адзінага ансамблевага дыхання. Пасля заканчэння Мінскага харэаграфічнага вучылішча артысты балета як быццам атрымліваюць школу вышэйшага балетнага «пілатажу» непасрэдна ў Елізар'ева. Вынік — творчая маналітнасць трупы, здатнай стварыць непаўторны рэпертуар».

Найбольш значная частка балетмайстарскіх работ Елізар'ева створана на беларускай сцэне. Але ўяўленне пра яго мастакоўскую асобу будзе няпоўным, калі мы не згадаем іншыя харэаграфічныя спектаклі, пастаўленыя за межамі Беларусі. Гэта балет «Тыль Уленшпігель», створаны ў 1977 годзе ў Ленінградскім тэатры оперы і балета імя Кірава; гэта вечар аднаактовых спектакляў — у ліку іх «Кармэн-сюіта», «Класічная сімфонія» і «Адажыета» на музыку Пятай сімфоніі Г. Малера,— які Елізар'еў паставіў для трупы Варшаўскага Вялікага тэатра; гэта, нарэшце, пастаноўка балетных сцэн у тэлевізійным фільме «Фантазія» паводле аповесці І. Тургенева «Веснавыя воды» з М. Плісецкай у галоўнай ролі.

...Сцены рабочага кабінета Валянціна Мікалаевіча ўпрыгожваюць афішы на розных мовах народаў свету. Па іх можна вывучаць маршруты замежных вандровак балетнай трупы — Польшча, Венгрыя , Балгарыя, В'етнам, Сірыя, Кувейт. Нарэшце, Іспанія і Партугалія. Мінулым летам на працягу двух месяцаў з вялікім поспехам праходзілі ў многіх гарадах гэтых краін гастролі беларускіх артыстаў. У пашырэнні геаграфіі гастрольных паездак, росце аўтарытэту беларускага харэаграфічнага мастацтва ў краіне і за яе межамі — таксама заслуга галоўнага балетмайстра тэатра.

Прызнаннем таленту і нястомнай энергіі Валянціна Елізар'ева было прысвоенне яму ў 1985 годзе высокага звання народнага артыста СССР.

Які ён у паўсядзённым жыцці, галоўны балетмайстар тэатра? Вельмі розны. Жыццялюбівы чалавек, які шмат ведае, шмат бачыў, цвёрды ў сваіх пераканаттях. Выбухова-імпульсіўны і пераменлівы ў настроях, па-дзіцячы крыўдлівы, калі гэта датычыць заўваг рэцэнзентаў. Няўмольна патрабавальны да сваёй трупы і трохі распешчаны добразычлівасцю крытыкі. Але, відаць, галоўнае: улюбёны ў балет і перакананы ў бязмежных магчымасцях харэаграфічнага мастацтва.

Мастацкі кіраўнік балетнай трупы жыве сёння ўжо планамі чарговых пастановак. І, відаць, яшчэ неаднойчы з'явяцца на вуліцах горада афішы, якія паведамяць пра яго новыя работы, неаднойчы будуць ламаць коп'і крытыкі, спрачаючыся наконт ацэнак і тлумачэння вобразаў ягоных спектакляў, неаднойчы на прэм'еры выйдзе ён, узяўшыся за рукі з выканаўцамі, на авансцэну, у прамень святла, будзе шчасліва ўсміхацца, чуючы доўгія, шчодрыя авацыі гледача. І ў гэтай удзячнасці знікнуць, забудуцца і велізарнае напружанне, і стомленасць, і мастакоўская незадаволенасць. І ўзнікнуць на даляглядзе новыя задумы...

Таццяна МУШЫНСКАЯ.

Фота Віктара ДРАЧОВА і Валерыя ЛАБКО.

Таццяна Шаметавец у балеце «Балеро».





Пятро ПРЫХОДЗЬКА

# З НОВАЙ КНІГІ

## Лета 1944

Салдаты скардзіцца не мусяць
На дні спякот ці непагод.
Ішоў палямі Беларусі
Сорак чацвёрты слаўны год.

На карце стрэлы агнявыя
З Дняпра да Буга пралеглі.
Праз рэкі,
Пушчы векавыя
Нас палкаводцы павялі.

Сам Галаўком —
Мы гэта знalі —
Сказаў у наступе тых дзён,
Каб аперацыю назвалі
Па імені —
«Баграціён».

Імя,
Што добрай славы варта,
Здаўна вядома ўсім было,—
Не толькі стрэламі
На карты,—
А на душу
Усім лягло.
Змагаўся кожны з нас —
Як віцязь,
А Жукаў быў
На ўсіх адзін...
Праз Гомель, Мінск,
Бабруйск і Віцебск
Павёў франты ён
На Берлін.

Над самым рэйхам
Смерць навісла,
Хоць фюрэр,
Пырскаючы злом,
У карту тыцкаў:
«Стане Вісла
Вайны апошнім рубяжом!»

Яшчэ прад намі
Шлях нязмерны
Дымíўся ў золкавай расе,
але мы поступам
І верай
Былі ўжо ў перамозе ўсе.

Хоць мы салдаты
У розным званні —
Усе ў адзін ішлі паход.
І слалі нам падмацаванні
Уся краіна,
Увесь народ.

Калі ў варожым тыле грукат
Дні, ночы нёсся напралёт,—
Нам з беларускіх пушчаў
Рукі
Працягваў
Партызанскі фронт.

## Салдацкая рана

«Куля, якая параніла мяне,—
яна параніла і маіх родных».
(З выступлення франтавіка.)

Самым першым
На бруствер акопа
Ён узняўся,
Махнуўшы рукой...
Мо пачуў,
Як рыдае Еўропа,
Нас чакаючы там,
За ракой...

За спіной ужо
Буг быў сцюдзёны
І адна з найцяжкіх перапраў.
Ён, падкошаны куляй шалёнай,
Ніцма ўпаў
На кілім жоўтых траў.

Мог імгненна памерці ад кулі,
Ды ў жыццё не губляў веры ён.
Не пыталі мы ў хлопца,
Адкуль ён,—
У кішэні ляжаў медальён.

Мы не чулі
Ні енку, ні стогну,
Што бываюць за стрэлы гучней.
Толькі позіркам выказаць
змог ён:
«Без мяне, браткі,
Крочце далей!..»

Хоча ўзняцца ён
Сам над сабою,
Наступіць мо на ўласную кроў,
Яшчэ раз азірнуць поле бою,
Не пакінуць сардэчных сяброў.

Хай жа хлопца сагрэе світанне,
Ну а потым —
Бацькоўскі парог...
Верым праўдзе —
На ногі ён стане,
Калі рану сваю пераможа.

Высокі і мажны, ён сеў на табурэтку пасярэдзіне вузкага вагончыка, шырока расставіў ногі, апёрся далонямі аб калені, і я падумаў, гледзячы на яго, пра тое, на што хвіліну назад не звярнуў увагі: пэўна, у гэтага чалавека шырокі крок. І прыпомніў здымак, які бачыў у трэстаўскай насценгазеце: ідзе шырокім крокам па будаўнічай пляцоўцы чалавек з сівымі скронямі, прыдзірліва аглядае сваю гаспадарку. Пад здымкам было напісана адно слова: «гаспадар». Гэта ён, Махновіч Васіль Данілавіч. Герой Сацыялістычнай Працы, ганаровы грамадзянін горада Брэста.

У нядзелю, пасля снедання, пайшоў ён на «свой» дом, каб злавіць свавольнікаў, што білі шыбы ды псавалі перагародкі. Затрымаўшы падлеткаў з суседняга двара, не сварыўся, не крычаў, а прынёс з кладоўкі лісты шкла, папрасіў, каб хлапчукі дапамаглі, і разам выразалі, устаўлялі шыбы. Падлеткаў захапіла сапраўдная справа, і яны, здаецца, паверылі гэтаму дзеду. Пасля школы наведваліся на будоўлю, дапамагалі рабіць няцяжкую работу.

Калі Махновіч прыходзіць у госці да навучэнцаў прафесійна-тэхнічнага вучылішча будаўнікоў, ад сустрэчы з якімі ён ніколі не адмаўляецца, бачыць і знаёмыя твары падлеткаў, што туляліся каля яго будоўлі, нібы яна мёдам намазаная.

Дружбе з вучылішчам пачатак паклала тое пасяджэнне парткома трэста № 8, на якім абмяркоўвалі працоўную дысцыпліну ў калектыве. Тады, некалькі гадоў назад, партком выявіў, што да прагулаў, п'янак, спазненняў той-сёй ставіўся так, як быццам інакш у будаўнікоў і быць не можа. Кіраўнікі ўпраўленняў апраўдваліся тым, што прымаюць усе магчымыя меры ўздзеяння — і прэміі здымаюць, і вымовы запісваюць, і на сходах абмяркоўваюць, але мала дапамагае, бо парушаюць дысцыпліну больш за ўсё выпускнікі прафтэхвучылішча. Грошы добрыя зарабляць ім яшчэ нецікава, праявіць сябе з лепшага боку не стараюцца, бо ведаюць — праз паўгода ці год ісці ў армію, а адслужаць, вось і будуць стала адносіцца да жыцця.

Не, не мог Махновіч пагадзіцца. І самым доказным быў яго ўчынак — узначаліў новую брыгаду, складзеную амаль цалкам з выпускнікоў вучылішча. Пачаў з нуля, як новы аб'ект.

З паўгода не гучала прозвішча Васіля Данілавіча, калі вызначалі пераможцаў сацыялістычнага спаборніцтва. А затым брыгада зноў заняла сваё звычайнае месца ў зводцы: учарашнія пэтэвушнікі абагналі многія вопытныя калектывы. Падужэла брыгада, хоць навічкі ў ёй не зводзяцца. Іх звычайны шлях: вучоба ў ПТВ, практыка ў брыгадзе, праца ў ёй, затым — служба ў арміі. Адліў. А за ім — прыліў, і не толькі з вучылішча. Адслужыўшы, вярнуліся да Махновіча, сталі яго добрымі памагатымі Іван Глушчук, Іван Сцепанюк, Алег Бабрыцкі, Міхась Алексяюк, Міхась Пугач... Шматкроп'е тут патрэбна, бо гэта доўгі спіс: нехта выйдзе ў брыгадзіры, нехта ў інжынеры, а на іх месцы прыходзяць навічкі.

З лёгкай рукі Махновіча ў трэсце стала правілам не «распіхаць» выпускнікоў вучылішча па розных брыгадах, дзе іх трымалі «куды пашлюць», а фарміраваць з іх камсамольска-маладзёжныя калектывы. Калі маладыя бачаць, што ёсць ім давер, што на іх разлічваюць, дык і не падводзяць. Выхаванне давер'ем — у гэтым сутнасць рабочай педагогікі Махновіча.

...За два дні да ранення быў зачытаны перад строем загад аб узнагароджанні радавога Махновіча ордэнам Славы III ступені. У сваю родную вёску Варажбіты, што ў Бярозаўскім раёне, вярнуўся ён інвалідам трэцяй групы. А бацька з фронту не прыйшоў. І давялося Васілю падымаць пяцярых малодшых сясцёр. Усіх паставіў на ногі.

А з 1950 года, калі па вярбоўцы — так патрэбны былі рабочыя рукі! — пераехаў у Брэст, падымаў горад, жыхары якога назвалі Махновіча сваім ганаровым грамадзянінам.

Тысячы цаглін падымуць шырокія шурпатыя далоні муляра, пакуль вырасце дом. А горад! Махновіч падымаў яго літаральна сваімі рукамі, на сваіх плячах, цягаючы цэглу з паверха на паверх. Няма ў Брэсце такога квартала, дзе ён не будаваў дамы.

Падабаецца хлопцам брыгадзір. За што? — запытаў я ў Рыгора Фіцука. У Рыгора Канстанцінавіча. Гэта паўтара дзесяцігоддзя назад, калі паступіў у брыгаду, быў ён проста Рыгорам. Тады да Махновіча прыйшлі адразу сем хлопцаў. Мала што яны ўмелі, але ніколі не бачылі, не чулі, каб брыгадзір зазлаваў, накрычаў на каго. Памыліцца хто, Васіль Данілавіч пагаворыць з ім па-бацькоўску. На ўсіх у яго хапала часу, усе ў яго роўныя. Кожнаму падрабязна растлумачыць, як лягчэй выканаць работу, а трэба — дык і сам пакажа, ён жа ўсё ўмее.

Такія адносіны нібы прымагніцілі Фіцука да гэтага калектыву. І ён, атрымаўшы дыплом, пасля тэхнікума працягваў працаваць мулярам. Цяпер Рыгор Канстанцінавіч перакананы, што кар'еру абавязкова трэба пачынаць з самага галоўнага, з рабочай пасады. Лепшую стартавую пляцоўку для будучага кіраўніка цяжка знайсці.



А Васіля Данілавіча і яго вучняў, былых і цяперашніх, хвалююць новыя праблемы. Часта кіраўнікі клічуць яго на дапамогу, калі трэба выратаваць «гарачы» аб'ект. Пагодзіцца, але і пытанне паставіць: чаму забралі з дома тынкоўшчыкаў, маляроў, калі яго неўзабаве можна было здаць, уручыць людзям ключы ад кватэр? Ці не таму перакінулі на будоўлю завода, што той каштуе даражэй і там лягчэй выканаць план? Альбо — другое. Узяла брыгада падрад на будаўніцтве дыспансера, падпісалі дагавор, вызначылі аб'ём работ, кран ужо далі — і раптам усё сарвалася. Выключылі з плана падрадных работ. Такія хібы ў планаванні вельмі балюча б'юць па брыгадным гаспадарчым разліку. А цяпер, калі большасць брыгад перайшлі на злобінскі метад, памылкі адразу ўсплываюць на паверхню.

Неяк выбраўся ў Мінск, да міністра, прывёз яму многа пытанняў — вострых, калючых. Хвалюе Васіля Данілавіча, чаму падрадныя брыгады застаюцца вінаватымі, нясуць страты, калі іх падводзяць сумежнікі, планавікі. Зайшла гутарка нібы пра дробязь — пра ліфты. Іх запускаюць напаследак, калі дом ужо засяляецца. А трэба, каб дзейнічалі, калі гмах яшчэ будуецца, каб будаўнікі маглі падаваць імі наверх няцяжкія грузы. Брыгада Махновіча

**Пятро БУРАК**

# ШКОЛА, У ЯКОЙ ПАЧЫНАЮЦЬ З НУЛЯ

НАРЫС

Можа, таму ён так лічыць, што была той пляцоўкай брыгада Махновіча.

Колькі ні прапаноўвалі Фіцуку інжынерскую пасаду, адмаўляўся, адцягваў, пакуль нарэшце яго не паставілі перад фактам. Неяк ездзіў на спаборніцтвы ў другі горад, а калі вярнуўся, уручылі загад: прызначан майстрам. А загады, як вядома, не абмяркоўваюць, іх выконваюць.

Іх шляхі разышліся ненадоўга. Пабудаваў Фіцук самастойна адзін аб'ект, і яму выпала (а больш правільна будзе сказаць — пашанцавала) вярнуцца да Махновіча, працаваць з брыгадай майстрам.

Насупраць акон цяперашняга кабінета Фіцука — кабінета начальніка будаўнічага ўпраўлення — стаіць адзін з тых дамоў, што яны будавалі разам.

У той час ва ўсёй краіне вывучаўся метад брыгаднага падраду. Галоўным гаспадаром будоўлі павінна быць брыгада! Фіцук з Махновічам якраз пачыналі новы дом і вырашылі ўзяць падрад.

Многія не паверылі, што нават раствор будуць па гадзінах падвозіць. Адразу так і не атрымалася, «завалілі» першы дом. Пабудаваць то яго пабудавалі, але не ў тэрмін і без запланаванай эканоміі. Вось у гэты адказны момант паказаў свой характар Махновіч. Прапанаваў ён — будзем прасіць, каб далі брыгадзе на падрад яшчэ адзін дом: брыгадзіра ўжо захапіла новая справа, увайшоў у азарт.

— Трэба брацца. Быць такога не можа, каб зноў не выйшла. Пачнём з нуля — і дом, і падрад. Я тут мулярам пачынаў, вы мяне добра ведаеце. Паверце! — ці то ўгаворваў, ці то прасіў ён.

І калектыў згадзіўся. Майстар і брыгадзір толькі паварочваліся, каб дабіцца лепшага забеспячэння матэрыяламі, арганізаваць рытмічную працу. А калі здалі дом і атрымалі першую прэмію, хоць і няпоўную, грошы былі невялікія, адчулі, што адбыўся пералом. У калектыву нібы другое дыханне адкрылася. Махновіч тры аб'екты запар здаў — школу, інтэрнат, дом — датэрмінова, усе тры з добрай эканоміяй, а значыць, і з прэміямі, якія не сорамна ў сям'ю прынесці.

Наконт прэміі Махновіч цікава прыдумаў. Ён прапанаваў савету брыгады дзяліць яе так, каб больш выпадала таму, ад каго больш залежыць поспех на аб'екце.

Ды і арганізавана праца няблага, а гэта — палёгка брыгадзіру. Зараз ёсць тое, у што раней не ўсе верылі. І раствор прывозяць па графіку, і інжынерная падрыхтоўка аб'ектаў праводзіцца, і камплектацыя палепшылася. 80 працэнтаў брыгад 98-га будаўнічага ўпраўлення, якое ўзначальвае Рыгор Канстанцінавіч Фіцук, пераведзены на падрад.

ўпарта рыхтуе шахты для ліфтаў загадзя, але ліфтавікі яшчэ ні разу своечасова не зманціравалі іх. Ці варта было з-за такіх дробязей марнаваць час міністра? Махновіч убачыў за дробяззю праблему — праблему малой механізацыі. На будоўлях ёсць, безумоўна, змены. Вежавы кран раней браў толькі паўтары тоны, а цяпер восем падымае. І іншая магутная тэхніка прыходзіць. Але ж на ёй адной не выехаць, трэба падумаць пра разнастайныя невялікія прыстасаванні: на будоўлі звычайнай тачкі няма. А яна бярэ трое насілак, якія трэба несці шасці чалавекам туды, куды кран не дастане. Нескладаная матэматыка, каб вылічыць, дзе губляецца выпрацоўка. На дробязях.

Не на ўсе пытанні знайшліся ў міністра канчатковыя адказы. Праблемы ў момант не вырашаюцца. Але пры распрацоўцы рэспубліканскай праграмы інтэнсіфікацыі будаўніцтва была ўлічана неабходнасць паскорыць развіццё малой механізацыі, якая клапоціць зараз Махновіча, бо складалася гэта праграма з улікам многіх такіх прапаноў. Рабіць механізмы, прыстасаванні, інструмент для будаўнікоў даручылі дадаткова машынабудаўнічым прадпрыемствам.

Брыгада — гэта людзі. Не толькі пэтэвушнікі прыходзяць да Махновіча. Прыходзяць і тыя, хто жадае мець асаблівыя ўмовы, але, не знайшоўшы іх тут, хуценька ўцякае. У знакамітую брыгаду наведваюцца вярбоўшчыкі з другіх арганізацый, думаюць, што тут асаблівыя людзі, і зманьваюць да сябе. А людзі тут звычайныя, сустракаюцца і такія, што «клююць» на гэтую вуду. У вялікім горадзе хапае месц цяплейшых, чым у Махновіча. Умовы ўмовамі, але ад чалавека галоўнае залежыць. Як рады бывае Васіль Данілавіч, калі вяртаецца да яго чалавек адтуль, дзе працаваў з доўгімі перадышкамі, і кажа: «Так насачкаваўся, што больш не магу». Такі ніколі не адвыкне ад таго, да чаго прывычаўся ў сваёй брыгадзе: працаваць у поўную сілу.

Падтрымліваць стыль брыгады дапамагаюць Махновічу яго паплечнікі — Кузаўко Пятро, Кашэль Вольга, Кузьмянкова Валянціна, Малыха Уладзімір, Самойлюк Анатоль, Семянчук Марыя, Хацей Мікалай — тыя, хто складае касцяк калектыву, хто даўно побач. Усе яны — настаўнікі моладзі.

Расце горад. Хлопцы становяцца мужчынамі. Ідуць гады. А брыгада ўсё не старэе. Бо зноў і зноў прыходзяць у «школу Махновіча» навічкі.

Пазваніў у Брэст і пачуў, што брыгада Махновіча зноў выйшла на першае месца ва ўпраўленні, стала прызёрам спаборніцтва ў трэсце. Значыць, выраслі крылы ў жаўтароцікаў, якіх узяў Махновіч у сваё гняздо, і ўпэўненым голасам ужо пяюць яны славу сваёй брыгадзе, сваёй першай працоўнай школе.



# КВЕТКА НА ДАЛОНІ РАСІІ

Мікалай ЗЯНЬКОВІЧ

*У самалёце*

## РОЗДУМ-УСПАМІН, АБО УСТУП ДА ДРУГОГА РАЗДЗЕЛА

Маленькі, усяго на некалькі месц, самалёцік адарваўся ад узлётнай паласы. Шлях ляжаў на горад Брэжнеў, адтуль «зямным» транспартам на Ніжнякамск, Альмецьеўск, Азнакаева, Бугульму. Меркавалася перасекчы ўсю аўтаномную рэспубліку з захаду на ўсход, аж да самых адгор'яў Уральскага хрыбта. Я прыхінуўся да ілюмінатара, каб з вышыні птушынага палёту зірнуць на Казань.

Відовішча, адразу скажам, уражлівае. Пад намі, як на далоні, раскінуўся велізарны горад, акружаны водамі вялікай Волгі, і — мноства высокіх курганоў, якія надаюць Казані непаўторную маляўнічасць і прыгажосць.

Прамыя промні цэнтральных вуліц вядуць да старажытнага белакаменнага Крамля. Я адразу пазнаў гэтае выдатнае гістарычнае збудаванне, якое ўзвышаецца на кургане сярод бяскрайняй воднай роўнядзі Волгі. А вось і вострая іголка загадкавай чырвона-бурай прыгажуні — вежа Сюююмбекі. Кожную раніцу я прыходзіў на бераг Волгі, каб палюбавацца на Казань. Сапраўды, у ранні час горад вылучаецца асаблівай прыгажосцю. У ласкавых промнях узыходзячага сонца казачнымі здаюцца каменныя ўзоры сцен і сінія вежы Петрапаўлаўскага сабора, уражваюць гарманічнасцю і строгасцю форм белыя карпусы універсітэта. На блакітным ранішнім небе дакладна праступаюць гмахі опернага тэатра, фінансава-эканамічнага інстытута, новых жылых кварталаў.

Самалёцік робіць разварот, і справа адкрываецца панарама прамысловай зоны горада. Там размешчаны Маскоўскі, Ленінскі, Кіраўскі раёны з іх заводамі і фабрыкамі, жылымі мікрараёнамі і школамі, палацамі культуры і гандлёвымі цэнтрамі.

Тэрыторыя Казані — каля 260 квадратных кіламетраў. Неяк нядзельным ранкам мы двойчы перасеклі яе: спачатку з поўначы на поўдзень, затым з усходу на захад. Спідометр бясстрасна адлічваў кіламетры. Іх набегла адпаведна 27 і 29. З 260 квадратных кіламетраў гарадской плошчы 55 — лесапаркавая зона, ды яшчэ вадасховішчы і азёры займаюць 11 квадратных кіламетраў,— згадзіцеся, гэта нямала!

Вуліцы Казані заўсёды мнагалюдныя: тут жыве больш як мільён чалавек. У горадзе 15 інстытутаў, 20 тэхнікумаў і вучылішчаў, 180 сярэдніх школ. Індустрыя сталіцы Савецкай Татарыі сёння за адзін дзень выпускае прадукцыі больш, чым усе прадпрыемствы за ўвесь 1913 год. З многімі яе відамі гасцінныя сябры мяне пазнаёмілі. Я бачыў пасажырскія авіялайнеры і мыла, верталёты і абутак, высокаадчувальную каляровую плёнку і медыцынскія інструменты, станкі і ацэтон, сельскагаспадарчыя машыны і футры, абсталяванне для здабычы нафты і фенол. Усяго тут выпускаецца каля 700 вырабаў. Многія з іх ідуць больш як у 80 краін свету.

**Працяг. Пачатак у № 4.**

За бортам самалёціка паказаўся і знік знаёмы шпіль тэлевізійнай вышкі — саперніцы вежы Сюююмбекі ў блакітным казанскім небе.

Седзячы ў мяккім утульным крэсле ля ілюмінатара, я зноў і зноў звяртаўся ў думках да гэтай нявырашанай дагэтуль загадкі. Бадай, ніводзін старажытны помнік не мае столькі легенд і паданняў аб сваім узнікненні. Уявіце сабе: ніхто сёння не можа даць вычарпальны адказ, хто, калі і ў гонар якой падзеі пабудаваў вежу Сюююмбекі. Неверагодна, але факт: яе будаўніцтва адносяць нават да розных стагоддзяў.

Якія ж легенды звязваюць з загадкавай вежай?

Пачну з рамантычнай. Сюююмбека, а яна была татарскай царыцай, жонкай двух апошніх казанскіх ханаў, і гэта гістарычна ўстаноўлены факт, быццам бы ў час, калі войскі Івана Грознага асадзілі Казань, кінулася з высачэзнай вежы, каб не стаць паланянкай. Прыгожае паданне, ці не праўда? Але аматараў рамантыкі давядзецца расчараваць: дакументы сведчаць аб тым, што ў 1551 годзе Сюююмбека з малым сынам была дастаўлена ў Маскву. А штурм Казані, як вядома, адбыўся на год раней.

Існуе і рэлігійна-фанатычная легенда. З яе вынікае, што пад вежай пахаваны дабрачынны магаметанін, з чэрапа якога б'е Тайніцкая крыніца. Такая крыніца сапраўды была за сцяной Крамля, на беразе ракі Казанкі, і засыпалі яе параўнальна нядаўна, у пяцідзесятыя гады, калі ўзводзілі водаахоўныя збудаванні Вялікай Волгі. Няцяжка здагадацца, хто і дзеля чаго пусціў гэту фанатычную чутку.

Найбольш верагодныя дзве наступныя версіі. Першая: на месцы, дзе сёння стаіць вежа, раней знаходзіўся пабудаваны царыцай Сюююмбекай маўзалей для свайго раптоўна памёршага мужа Сафі-Гірэя. Пасля разбурэння маўзалея назва перайшла да пазней узведзенай тут вежы. Другая версія звязана з меркаваннем, што першы ярус вежы быў спачатку старажытным мінарэтам, затым служыў праязнымі варотамі ў палац. Магчыма, перш чым стаць паланянкай Івана Грознага, на гэтым месцы царыца Сюююмбека развітвалася з казанцамі, і вежа, пабудаваная тут, атрымала яе імя.

Несумненна адно: вежа Сюююмбекі не толькі помнік казанскай даўніны, яна шырока вядома ў гісторыі сусветнага дойлідства.

Прызнацца, я вельмі здзівіўся, калі даведаўся, што яе вышыня ўсяго 58 метраў. Справа ў тым, што невядомыя майстры вельмі ўдала выбралі месца (яна размешчана на высокім кургане, што зрокава значна павялічвае вышыню) і кампазіцыйны прыём (сем ярусаў вежы з чырвонай цэглы ідуць уступамі адзін за адным, што надае прасторавае імкненне ўвысь). Абышоўшы вежу з усіх бакоў, міжволі злавіў сябе на думцы: такія контуры, формы і дэталі я ўжо бачыў. Дзе ж гэта было? Мой спадарожнік Рэнат Зінуравіч Закіраў паспяшаўся на дапамогу:

— Крыху нагадвае Баравіцкую вежу Маскоўскага Крамля, ці не так? Але там пабудова была закончана ў 80-х гадах XVII стагоддзя. Зноў загадка: ні ў адным даўнейшым дакуменце няма нават і намёку на тое, што ў гэты час на тэрыторыі казанскага Крамля вяліся якія-небудзь будаўнічыя работы. Наўрад ці можна дапусціць, каб будаўніцтва такой вялікай вежы не было дакументальна зафіксавана.

І ўсё ж не пакідала адчуванне, што такія абрысы сустракаліся недзе яшчэ. І толькі, калі вярнуўся ў Маскву, кінуў позірк на будынак Казанскага

вакзала, асяніла: вось жа яны, знаёмыя формы вежы Сююмбекі! Іх выкарыстаў для ўпрыгожання будынка вакзала вядомы савецкі архітэктар акадэмік А. В. Шчусеў.

Але не будзем забягаць наперад. Самалёцік упарта пераадольвае паветраную адлегласць да горада Брэжнева, мерна гудзе рухавічок, і яго супакойлівае вуркатанне міжволі закалыхвае нешматлікіх пасажыраў. А я ў палоне пачутых у Казані легенд і паданняў, народных песень і музыкі, спрэчак гісторыкаў, археолагаў і архітэктараў. І не толькі наконт загадкі таямнічай вежы — лёгкая, стройная, яна стала сімвалам і ўпрыгожаннем Казані. Многае яшчэ застаецца загадкай у гісторыі татарскага народа: час заснавання сталіцы, яе назва, паходжанне саміх татараў. Ды і пункт нашага прызначэння: горад Брэжнеў — гэта былыя Набярэжныя Чаўны. Нікому невядома дакладнае паходжанне гэтай дзіўнай назвы.

## 2. Галоўная зорка камскіх караляў

Самалёцік між тым прыкметна збаўляе хуткасць, і вось ужо насустрач нам імкліва нясецца зямля. Аэрапорт Бегішава. Да горада Брэжнева падаць рукой. Панарама прыгажуна-горада — шырокая, смелая. Рытміку стрэлападобных праспектаў падкрэсліваюць высотныя дамы, іншыя архітэктурныя збудаванні. Няўжо гэтаму гораду ўсяго паўтара дзесятка гадоў? Узрост Набярэжных Чаўноў — больш як тры стагоддзі, і на працягу іх час тут цягнуўся, як скрыпучая арба па бруку. Будаўніцтва аўтагіганта ў корані перавярнула жыццё гэтага невялічкага правінцыяльнага пасёлка з драўлянымі хацінамі, што спакойна пазіралі шыбамі маленькіх акон на сінія камскія хвалі. Сёння ў горадзе жыве амаль паўмільёна чалавек — феномен, які пераўзышоў самыя смелыя прагнозы праекціроўшчыкаў.

Чаму менавіта ў Набярэжных Чаўнах вырашылі будаваць аўтамабільны гігант? У друку пісалася, што камісія разглядала каля сямідзесяці варыянтаў яго размяшчэння,— такое пытанне было зададзена першаму сакратару Брэжнеўскага гаркома партыі.

Уел Хусаінаў, малады, рухавы чалавек, будаўнік па асноўнай спецыяльнасці, адказаў так:

— Сапраўды, выбар тады выпаў на нікому невядомы пасёлак. Многія і па сённяшні дзень здзіўляюцца, чаму. Давайце зірнём на карту. Бачыце геаграфічнае размяшчэнне Татарыі? Яна нібы злучае прамысловы Урал з цэнтрам Расіі. Зрабіць наш край індустрыяльным мостам паміж гэтымі двума рэгіёнамі марылі адукаваныя людзі яшчэ ў даўнейшыя часы. Аб асваенні тэрыторыі ў самым цэнтры Расіі, краю, дзе злучаюцца Кама з Волгай, побач багатыя сыравінныя рэсурсы, блізка спажыўцы, дзе, дзякуючы перасячэнню многіх транспартных шляхоў, гатовыя прадукты лёгка перакідваць з аднаго канца дзяржавы ў другі, гаварылі да вайны і пасля яе. І толькі цяпер з'явілася магчымасць ажыццявіць небывалую па характару і маштабах ідэю комплекснага асваення новых тэрыторый.

Хусаінаў з захапленнем расказвае аб адным з самых распаўсюджаных і аб'ёмных паняццяў, якое папоўніла лексікон нашай эканомікі ў сямідзесятыя гады,— тэрытарыяльна-вытворчых комплексах. Калі вызначалі іх структуру і маштабы, з самага пачатку арыентаваліся не на асобныя дробныя прадпрыемствы, якія, безумоўна, будаваць лягчэй і хутчэй і ад якіх адразу можна атрымаць аддачу, а на магутны комплекс узаемазвязаных вытворчасцей. Так, яны патрабавалі куды больш сродкаў, матэрыяльных рэсурсаў, працы, але і абяцалі больш устойлівыя доўгачасовыя выгоды. Словам, максімальна выкарыстоўваліся вопыт айчыннай эканомікі, назапашаны на такіх нашых этапных будоўлях, як Камсамольск, Магнітка, Кузбас, і навейшыя навуковыя рэкамендацыі. У шэрагу іншых тэрытарыяльна-вытворчых комплексаў вырашана было будаваць і Ніжнякамскі.

— Глядзіце, што ўяўляе сабой Ніжнякамскі ТВК,— аловак у руцэ сакратара гаркома заскакаў па карце-схеме, якая ўспыхнула яркім рознакаляровым святлом.— Гэта непаўторнае сузор'е найпрыгажэйшых гарадоў, арыгінальных па маштабах і спецыфіцы. Брэжнеў, Ніжнякамск, Альмецьеўск. Побач — Елабуга, Заінск, Мендзялееўск, Мензялінск... Усяго 2500 квадратных кіламетраў плошча нашага ТВК — можна сказаць, «пятачок». А ведаеце, колькі тут адных толькі буйных прадпрыемстваў? Сорак пяць! Беспрэцэдэнтная канцэнтрацыя вытворчасці не толькі ў маштабах краіны — у сусветнай практыцы! Каралі, самыя сапраўдныя казачна багатыя каралі! Бачыце, як яны нанізаліся на старажытную матухну Каму. Хто з іх ярчэй ззяе? Ну, канечне ж, наш КамАЗ!

Шчыра кажучы, аўтар гэтых радкоў няМала ведаў пра аўтамабільны гігант на Каме. Мне было вядома, што стаяла за крылатымі словамі «КамАЗ будуе ўся краіна»: і тое, што над заказамі з берагоў Камы працавалі звыш пяці тысяч прадпрыемстваў дваццаці пяці міністэрстваў і ведамстваў і каля васьмідзесяці праектных інстытутаў, што грузы сюды ішлі «зялёнай вуліцай», што плячо ў плячо тут працавалі рускія і татары, казахі і чувашы, украінцы і беларусы — пасланцы амаль ста гарадоў і абласцей. У свой час і мне давялося расказваць у газетах пра маладых пасланцоў беларускага камсамола — будаўнікоў КамАЗа, якія прыязджалі ў адпачынак у родныя мясціны і з захапленнем гаварылі пра гіганцкую будоўлю.

Але тое, што давялося ўбачыць, проста ашаламіла. Сапраўды, усё, што звязана з КамАЗам, патрабуе дадатковых слоў «самы», «самая», «самае».

Самая сучасная тэхніка, якой аснашчаны цэхі,— на гэтым дзівосным комплексе. Яна то звышмагутная, то звышхуткая, то звышдакладная.

Самы вялікі рамонтна-інструментальны завод — на КамАЗе. Яго гадавы аб'ём прадукцыі — 60 мільёнаў рублёў.

Самы аўтаматызаваны кавальскі завод — таксама на КамАЗе. Ва ўсіх яго велізарных пяці карпусах я не ўбачыў ніводнага каваля, галоўная прафесія тут — аператар аўтаматычных ліній. «Малатабойцамі» пры іх служаць робаты-маніпулятары.

Самая магутная металургічная вытворчасць — зноў жа на КамАЗе. Яна пераўзыходзіць усе айчынныя заводы такога тыпу і разлічана на выпуск адлівак з чорных і каляровых металаў да 560 тысяч тон у год.

На гэтым жа цуда-волаце самы вялікі галоўны канвеер. Больш дакладна, іх два. Лініі зборкі волатаўскіх «КамАЗаў» цягнуцца аж на некалькі кіламетраў. Уявіце: мы ехалі ўздоўж аднаго з іх... на аўтамабілі. Я ўжо не кажу пра пераезды з аднаго цэха ў другі — пеша на дарогу трэба затраціць амаль тыдзень, бо агульная вытворчая плошча аб'яднання складае больш як два мільёны квадратных метраў!

Самы высокі адукацыйны ўзровень рабочых у краіне — на КамАЗе! Ён на два гады вышэй чым агульнасаюзны паказчык і складае 9,7 класа. Толькі на рабочых месцах занята каля 7 тысяч чалавек з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Інжынерна-тэхнічны патэнцыял прадпрыемства — 25 тысяч чалавек!

У Аўтазаводскім раёне, дзе размешчаны КамАЗ, самая высокая нараджальнасць у краіне: штогод 30 нованароджаных на тысячу чалавек насельніцтва! Тут кожную гадзіну нараджаецца новы чалавек. Хто не ўсміхнецца, убачыўшы ля ўвахода ў дзіцячы камбінат шыльду з надпісам: «Камазёнак». Ласкавае слова дакладна адлюстроўвае жывую сувязь сённяшняга дня аўтагіганта на Каме з яго будучыняй.

Самыя славутыя людзі на свеце — канечне ж, камазаўцы! У гэтым бязмежна ўпэўнены ўсе, з кім даводзілася гутарыць: ад радавога працаўніка, токара рамонтна-інструментальнага завода М. Ісламгалеева, які стаў першым камазаўскім Героем Сацыялістычнай Працы, да генеральнага дырэктара аб'яднання М. І. Фастава. Яшчэ б: сем тысяч камазаўцаў узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Давайце з разуменнем паставімся да гарачага патрыятызму ўлюбёных у свой калектыў шчырых працаўнікоў, бо многія з іх раслі і сталелі разам з родным прадпрыемствам, жылі і жывуць яго радасцямі і турботамі.

Зразумелая цікавасць да тых, хто стаяў ля вытокаў гэтай нязгаснай любові, хто запальваў яе ў сэрцах дзесяткаў тысяч людзей, якія прыязджалі на бераг Камы з усіх куткоў краіны, гаварылі на розных мовах, мелі розны ўзрост, адукацыю, прывычкі і тут станавіліся сапраўднымі будаўнікамі новага горада, сапраўднымі работнікамі новага гіганцкага прадпрыемства, сапраўднымі грамадзянамі будучага стагоддзя. Шмат называлі камазаўцы розных прозвішчаў, а вось імя Раіса Кіямавіча Бяляева, тагачаснага першага сакратара гаркома партыі, гучала асабліва часта, літаральна ў кожнай размове. У архіве захаваліся тэзісы выступлення Раіса Кіямавіча перад работнікамі апарату Набярэжначаўнінскага гаркома КПСС адразу ж пасля таго, як стала вядома аб пачатку будаўніцтва аўтазавода на беразе Камы. Думаецца, тое выступленне лепш за ўсё характарызуе і яго самога, і якасці, якімі павінны валодаць камандзіры і камісары новага магутнага флагмана індустрыі Татарыі, і задачы, якія трэба было вырашаць пры камплектаванні экіпажа флагмана, і мэты членаў гэтага экіпажа, іх памочнікаў і штурманаў.

«Пачынаецца абсалютна новая работа,— сказаў ён тады,— незнаёмая для ўсіх нас, гэта ясна як двойчы два. Ні вы, ні я гарадоў новых не будавалі, аўтазаводаў не пускалі. Часу для вучобы не дадзена. Усяму трэба навучыцца з ходу. Я не ўтойваю ад вас: не выключана, што некаторым цяжар можа аказацца не пад сілу. І тут трэба праявіць камуністычную сумленнасць і сказаць аб гэтым адразу, не чакаючы, пакуль надарвешся або воз пойдзе папераддзе каня. Пакуль тут будоўля, горад будзе на асобым становішчы і гарком — штаб. Трэба быць гатовымі да таго, што звычайны рытм работы будзе парушаны, давядзецца не так часта карыстацца выхаднымі, ды і ночы для нас, відаць, стануць карацейшымі. Я прашу вас узяць у рукі аловак і падлічыць, колькі людзей пройдзе па гэтай зямлі, пакуль асядуць тыя, хто складзе насельніцтва будучага горада. Усіх гэтых людзей пакуль павінны ласкава прыняць, накарміць і даць дах над галавой мы з вамі. Гэты чалавечы матэрыял — мой, сакратароў гаркома, загадчыкаў аддзелаў, інструктараў, усіх партыйцаў, якія ў дарозе да нас і з якіх мы створым будучы партыйныя арганізацыі. У горадзе будзе трыста тысяч чалавек... Прыкінце, колькі і чаго для іх спатрэбіцца... Пакуль што навокал — адно поле».

Так, шырокае голае поле сустракала першы атрад пасланцоў казанскіх прадпрыемстваў, якія прыбылі сюды ў лістападзе 1969 года. Прайшло пяць гадоў, і першая калона «КамАЗаў» прайшла ў святочных калонах дэманстрантаў на Краснай плошчы. Што ўяўляюць сабой гіганцкае прадпрыемства і прыгажун-горад на Каме сёння? Генеральны дырэктар аб'яднання М. І. Фастаў: «КамАЗ — гэта цэлае сямейства аўтамабіляў, разлічаных на прымяненне ў многіх галінах народнай гаспадаркі, у розных раёнах краіны. Нашы «КамАЗы» аднолькава добра адчуваюць сябе ў пяцідзесяцігradусны мароз і ў саракаградусную спёку. Грузападымальнасць — 10 тон. Працуем над мадыфікацыямі, якія могуць узяць яшчэ болей грузу». Л. В. Шылава, сакратар Брэжнеўскага гаркома партыі: «У горадзе 8 палацаў культуры, 5 кінатэатраў, 108 бібліятэк з кніжным фондам у 3 мільёны кніг, 37 сярэдніх школ, 107 дзіцячых камбінатаў. Сярэдні ўзрост жыхароў — 27 гадоў. У нас ёсць свая карцінная галерэя, свае паэты, мастакі, архітэктары». Ш. Хуснутдзінаў, брыгадзір аўтазборачнага завода: «Вы, відаць, заўважылі, які чысты наш горад. Дык вось, гэта таму, што ён пабудаваны чыстымі рукамі. Звольненых з іншых будоўляў за п'янкі, хуліганства, прагулы на КамАЗ раней не бралі і цяпер не бяром. І яшчэ — наш горад цвярозы. З першага дня яго будаўніцтва гарэлка ў нас не прадавалася. Лозунг таго часу «Без гарэлкі не памром, а з гарэлкай КамАЗ не пабудуем» моцна трымаецца і сёння».

# ПАЭЗІЯ



**Сцяпан ГАЎРУСЕЎ**



Жыццё і смерць — як вольтава
дуга:
Век працінае навальнічным токам.
Перагараюць радасць і туга,
Каб засвяціцца полымем высокім.

Да цішыні не дапасоўвай лёс —
Напружанне ніколі не аціхне.
Марскую глыб і вышыню нябёс
Неўтаймаваным розумам спасцігні.

У бляску пераменлівым вачэй
Твая душа яшчэ не раз патоне.
І зразумееш ты, што не лягчэй
Людскога сэрца разглядзець
бяздонне.

Няхай у заклапочаных людзей
Таўкуцца пад нагамі абдзіралы,—
Нясі з сабой найлепшую з надзей —
Высокіх дум не замуціць каралы.

Пераадолей рызыку і страх
І здолей не прыстаць і не скарыцца:
Бяздушнасці табе не страшны прах
І — з попелу іскрынка разгарыцца!



Праляцеў над хатай голуб,
Ураніў пяро.
Баю-бай, маё дзіцятка,
Ураніў пяро.

Выйду я на двор шырокі —
Падніму яго.
Баю-бай, маё дзіцятка,
Падніму яго.

Пакладу табе ў калыску,
Мой маладзічок.
Баю-бай, маё дзіцятка,
Мой маладзічок.

Гэта светлы голуб міру
Вестачку прынёс.
Баю-бай, маё дзіцятка,
Вестачку прынёс.

Спі, маленькі мой сыночак,—
Адвядзём вайну.
Баю-бай, маё дзіцятка,
Адвядзём вайну.



Вайна разбіла люстра
Прыглядзістых нябёс,
І — хто жывы — той шустра
Асколачак панёс.

Засведчыла праверка,
Як час падняў кап'ё —
У кожнага люстэрка
Адметнае сваё.

Далёкія бясконца
Жыцця краса і тлен:
Гагарын — бачыў сонца,
А беспрасветнасць — Глен.

Даўно відна патрэба
І раны ўсім гараць —
Расколатае неба
Зноў у адно сабраць.

## *Анатолю Вялюгіну*

Маланкай,
акрэсленай рэзка,
Ты выблісну́ў выдыхам сіл,
І кожнае слова, як фрэска,
На родны лягло небасхіл.

Ад сцен грамавых Сталінграда
І дымных яго пераправ
Прыйшоў ты хадою салдата
У гоман калосся і траў.

Ад страт анямелае поле
Цябе абдымала ўсяго.
Ніхто не падслухаў ніколі
Ні болю, ні смутку твайго.

Якія б ні нёс абавязкі,
Не траціў абсяг сінявы,
Нібыта салдацкае каскі
З свае не здымаў галавы.

Ні зыбістасць долу, ні порах
Не засцілі жар кумача.
Злічы птушанят маккапёрых,
З твайго што ўзляцелі пляча.

Аблокамі дум апавіты,
Пад'ём выглядаеш круты,
І лёгка гартаць краявіды,
Бо крочыш уполечкі —
Ты!

## *Нілу Гілевічу*

Хоць і жывём мы ў свеце дымным,
Хоць і ў агні мы дзень пры дні,
Ты ўмеў застацца неабдымным
І —
першым быць на вышыні.

Цнатлівым віцязем адвагі
Ты ненавідзеў серабро,
Беспамылкова клаў на вагі
Людское зло, як і дабро.

І не магу я не прызнацца,
Што ў непрымушанай хадзе
Я на цябе любіў раўняцца
І ў сціплым шчасці, і ў бядзе.

Кім мы былі і кім мы станем —
Мы любім свет, як юнакі.
Лічы ж заўсёдным прывітаннем
Мае братэрскія радкі.



# ІМГНЕННЕ З ЖЫЦЦЯ ПЯТРА АЛЯКСЕЕВА...

Аднойчы восеньскім днём каля помніка Герою Савецкага Саюза Пятру Апанасавічу Мірашнічэнку ў горадзе Светлагорску спыніўся сярэдняга росту чалавек. Цяжка абапіраючыся на кавеньку, ён некалькі хвілін стаяў нерухома, а потым паклаў да абеліска букет кветак.

— Вось і пабачыліся, цёзка,— прагаварыў ціха, выпраміўся, а ў вачах бліснулі слёзы.

Хто ведае, аб чым думаў у тую хвіліну інвалід Вялікай Айчыннай вайны Пётр Яфрэмавіч Аляксееў. Хутчэй за ўсё ўспомніў той бой у навагоднюю ноч, калі ён і яго камандзір Пётр Мірашнічэнка, не шкадуючы жыцця, дапамаглі падраздзяленню выканаць загад камандавання.

Разведчыкі ўзвода лейтэнанта Мірашнічэнкі атрымалі чарговае баявое заданне: выбраць слабае месца на правым флангу праціўніка, які замацаваўся каля вёскі Печышча, і па ўмоўленаму сігналу разам з другімі штурмавымі групамі атакаваць фашыстаў, заняць участак дарогі.

Перад выхадам на аперацыю, якую вырашылі правесці ў ноч на 1 студзеня, узвод разведчыкаў і рота аўтаматчыкаў сабраліся на кароценькі камсамольскі сход.

Радавы Пётр Аляксееў даў слова жорстка помсціць ворагу за родную Беларусь, за свой горад-прыгажун Гомель, за малодшага брата Аляксея і франтавых таварышаў, якія загінулі каля вёскі Лагуны Добрушскага раёна.

...У шэсць гадзін раніцы ў паветра ўзляцелі тры ракеты. Гэта быў сігнал пачынаць наступленне на Печышчы — важны пункт нямецкай абароны. Разведчыкі ўзняліся з прысыпанай снегам зямлі і кінуліся да вёскі. І тут з двух варожых дзотаў застракаталі кулямёты. Узвод залёг. Але хутка зноў узняўся.

— Здарылася так,— успамінае Пётр Яфрэмавіч Аляксееў,— што мы з Мірашнічэнкам аказаліся наперадзе ўсіх. Ен быў направа ад мяне. Агнём шугаюць насустрач варожыя дзоты. Камандзір кінуў на дзот гранату і ўмомант быў паранены. А кулямёт працягваў страляць... Страляў ён і пасля другой гранаты, кінутай камандзірам. Тады Мірашнічэнка рвануўся да дзота і прыкрыў вогнедышную амбразуру сваім целам. Яшчэ добра не асэнсаваўшы ўсяго, што адбылося, я бягом падаўся да левага дзота, кінуў адну гранату, другую...

Нялёгкім для ўзвода разведчыкаў быў той бой у навагоднюю раніцу. Семнаццаці чалавек недалічыліся ў падраздзяленні. Шаснаццаць байцоў і іх камандзір аддалі свае маладыя жыцці за вызваленне Радзімы ад фашысцкіх акупантаў. У спіску загінуўшых памылкова лічыўся і радавы Пётр Аляксееў. Але гэта, на шчасце, аказалася не так. Яго, непрытомнага, прашытага варожымі кулямі, падабралі на полі бою санітары і даставілі ў медсанбат.

Восем месяцаў лепшыя франтавыя ўрачы змагаліся за жыццё салдата. Яму зрабілі дзевяць складаных аперацый. І смерць адступіла. А ў пачатку верасня 1944 года інвалідам першай групы прыехаў П. Я. Аляксееў у родны Гомель.

— Яшчэ да вайны захапляўся я спортам,— расказвае Пётр Яфрэмавіч.— Вярнуўшыся дамоў, ніяк не хацеў мірыцца са сваім новым становішчам. Вырашыў зноў заняцца спортам, пачаў з самых простых, самых лёгкіх практыкаванняў. А потым і на лыжы стаў.

Настойлівасць, маладосць, сіла волі гэтага мужнага чалавека дапамаглі яму перамагчы немач, вярнуцца ў працоўны строй. Быў франтавік прыйшоў на Гомельскі тлушчакамбінат. Днём працаваў на аднаўленні разбуранага фашыстамі прадпрыемства, начамі сядзеў за падручнікамі і канспектамі. Цаной вялікіх намаганняў ён узяў яшчэ адну вышыню — завочна закончыў Мінскі юрыдычны інстытут.

Пётр Яфрэмавіч па-ранейшаму працуе на родным прадпрыемстве, якому аддаў вось ужо амаль 37 гадоў свайго жыцця.

За гераізм, праяўлены ў баі каля вёскі Печышчы, Пётр Аляксееў быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Яго імя, імя героя-камсамольца носіць піянерскі атрад Светлагорскай школы № 4. На працягу многіх гадоў лічылася, што ў тым баі радавы Аляксееў загінуў. Аднойчы ў часопісе «Малады камуніст» школьнікі прачыталі артыкул генерала арміі І. Цюленева «Колькі было Матросавых?» Там былі і такія радкі: «Год 1944-ты: 1. Мірашнічэнка Пётр Апанасавіч, Герой Савецкага Саюза, лейтэнант. Закрыў амбразуру дзота 1 студзеня 1944 года каля Светлагорска, нарадзіўся ў 1924 г., чл. КПСС. 2. Аляксееў... радавы. Закрыў амбразуру дзота 1 студзеня 1944 года каля Светлагорска...»

Чырвоныя следапыты школы з дапамогай ветэранаў вайны пачалі пошукі, звярнуліся ў архіў Міністэрства абароны Савецкай Арміі. Праз некалькі месяцаў ад палкоўніка ў адстаўцы былога камандзіра 170-й слаўтай Рэчыцкай стралковай дывізіі прыйшло пісьмо. Сямён Рыгоравіч Цыплянкоў падрабязна расказваў школьнікам аб тым, як змагаліся байцы ўзвода лейтэнанта Мірашнічэнкі, дзеці даведаліся пра падрабязнасці гібелі героя-камуніста. У пісьме былы камдыў расказаў і пра Пятра Аляксеева, а таксама паведаміў, што ён, магчыма, жыве ў Гомелі. Рабяты звярнуліся ў рэдакцыю абласной газеты.

Школьнікі юнага горада на Бярэзіне запрасілі героя да сябе, у Светлагорск. Былога разведчыка прынялі ў ганаровыя піянеры. З той пары завязалася дружба вучняў з ветэранам вайны. Школьны музей папоўніўся дакументамі, выразкамі з газет і часопісаў, якія расказваюць пра адвагу і мужнасць радавога Савецкай Арміі Пятра Яфрэмавіча Аляксеева.

...Калі здараецца Пятру Яфрэмавічу бываць у Светлагорску, ён прыходзіць да магілы свайго баявога камандзіра, які па-геройску загінуў за вызваленне нашай Беларусі, за шчасце Радзімы.

**Аляксей КАРАЛЕЎ.**

Аляксей

КАРПЮК



АПАВЯДАННІ

## ДНІ ЛІХАЛЕЦЦЯ

Вайна. Далёкі сібірскі горад. Каб не замерзнуць, адзінаццацігадовая Іна (сёння — мая жонка) з васьмігадовым братам, Мішам, ходзяць ноччу на станцыю па вугаль.

Паравоз ад'ехаў. Бежанкі, абутыя ў галёшы, падвязаныя дротам, з ухутанымі дзецьмі кінуліся да тае мясціны, дзе машыніст толькі што вывальваў з паддувала шлак і ён цяпер паміж рэек дыхаў малінавым жарам. Спецыяльнымі дроцікамі жанчыны пачалі выграбаць з гарачай кучы вугалькі, бралі яго на лапаткі ды кідалі сабе ў вёдры. Ад дарослых не адставалі дзеці, не адставалі ад бежанак і Міша з Інай.

Нечакана ўзяўся аднекуль вартавы ў вялізным кажусе, і бежанкі кінуліся ўрассыпную. Заляцелі за штабель шпал ды стаіліся.



Неўзабаве па суседнім пуці загрукатаў доўгі цяжкі таварняк. Грукатаў ён скрыпучымі на марозе коламі ды ляскатаў счапленнямі доўга, а пад ім угіналіся рэйкі, асядалі ў зямлю шпалы, і струмені тугога паветра сяклі людзей па тварах грудкамі пякучага снегу.

Калі праехаў апошні вагон, Міша з Інай убачылі каля рэек ножку з валёнкам і ад жаху амярцвелі.

Падляцела да пуці ашалелая бежанка, схапіла ножку, прыціснула да грудзей ды залямантавала ў марозную цемру:

— Вале-ерык, сыно-очак, дзе-е ты?!

## МАЛЫ ГЕРОЙ

**А. Д. Колас з Палесся расказвае пра свайго аднавяскоўца.**

Мішу Ільюку ў тое лета якраз скончылася дванаццаць.

Партызаны паслалі хлопчыка ў вёску сказаць людзям, каб уцякалі — вырушылі з Мазыра карнікі вёску паліць. На няшчасце на паліцаяў наляцеў сам пасыльны.

— Ты куды лётаў? — прысталі да хлопчыка бобікі.

— Да мамы.

— На балота?

— Ага!

— А што яна там робіць?

— Мама там ля каровы. Наша Красуля ў дрыгву ўгразла. Мама яе вартуе, а я бягу па мужчын!

— Хадзем, пакажаш!

— Калі я ўжо забыўся, дзе яна!

Паліцаі пачалі хлопчыка біць ды абзываць. Нічога не дапамагала, і яны паставілі Мішу пад расахаты дуб, шчоўкнулі затворамі.

— Ну і страляй, чорт з табой, але і ты хутка здохнеш ад нашых! — кінуў хлопчык упарта катам.



Яго паваліліі на зямлю і давай мясіць кованымі ботамі. Хлопчык нейкі час стагнаў, курчыўся ды раптам пракрычаў:

— А-ей, дзядзечку, хопіць! Ой, дзядзечку, я жыць хачу!..

— А-а, прыпякло, чырвонае гадзяня?! То на яшчэ, на!..

— Ой, баліць-баліць, дзядзечка! Ідзём, пакажу вам, дзе партызаны!

— Вядзі!

І завёў іх хлопчык у дрыгву. Там Мішу і дабілі.

## СЭСТРОНКА

Васілеўскі Леанід — былы замковы маёй гарматы, жыве цяпер у Карэлічах. Не бачыліся мы з ім роўна дваццаць адзін год — з апошніх баёў у Берліне. Сёння мы выпадкова спаткаліся, і ён апавядае:

— Памятаеш Файзуліна з нашай батарэі?

Напружваю памяць. Успамінаю таджыка, які, бывала, за дзень і слова не вымавіць.

— А-а, ездавога з суседняй гарматы?

— Ну-ну! Праз пару дзён пасля твайго ранення ў Берліне і баі скончыліся. Наш камандзір палка, Зінчанка, адразу стаў камендантам рэйхстага, а нам — раздолле. Усюды свае хлопцы на варце, усе ап'янелыя ад перамогі, ідзі — куды хочаш. І мы памыліся, пагаліліся, наваксавалі боты, надраілі ордэны, медалі ды швэндаем.

З Файзуліным крыху выпілі ды забраліся ў падвалы фюрэра. Чаго там толькі няма! Кранаць што баімся, каб не бабахнула міна,— глядзім і дзівімся.

У цэментавым адсеку, бачым, плавае ў віне з меткай «Ost» на грудзях прыгожая руская дзяўчына. Файзулін залез у вадкасць аж па шыю і труп вылавіў. Увесь бардовы ад віна носіць яе на руках, плача сапраўднымі слязамі і стогне:

«Одын сэстронка был і ту нэміц застрэліл! Одын мой сэстронка был і ту нэміц убіл!..»

Я да яго:

«Файзуло, што ты гаворыш? Давай яе лепш пахаваем!»

А ён сваё:

«Одын сэстронка был і Гітлэр яе ўбіл, хавай і мінэ!»

Чокнуўся чалавек, ці што? Не ведаю, бо не спатыкаліся больш.



## ПРАБЛЕМА

НЯВЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ



Маёй малой — паўгодзіка.

Вывезла я раніцой Аню на вуліцу, каб яна падыхала марозікам, а я заадно й заглянула ў магазін. Выходжу з гастранома ды бачу — над Анінай каляскай схілілася нейкая кабеціна.

— Гэта твая дзетка? Дзяўчынка, так? Адразу відаць, што дзяўчынка,— жанчына гаворыць захлёбваючыся ды гэтак голасна, што на нас ужо азіраюцца прахожыя. Кабеціне за шэсцьдзесят. На ёй — выцертае зімовае паліто, на галаве — капялюш са старога фетру з фіялетавым пёркам.

Я спалохалася — па гарадскіх вуліцах, кажуць, швэндаюць і розныя вар'яткі. Як найбольш ветліва стараюся ўсміхнуцца, у адказ штосьці балбачу, а сама спрабую хутчэй развярнуць каляску.

Ды дзе там.

Жанчына ставіць сваю сумку на снег і рыхтуецца да грунтоўнай размовы. Божа, мне ж да абедзеннага перапынку трэба заглянуць яшчэ ў адзін магазін!

— Я, мілая, дзяўчынку сэрцам пазнаю,— сыпле незнаёмая.— А твая такая ўжо харошанькая, такая ласкавая! Гэта я глядзела, ці не замерзлі ў яе ручкі. Ты добра ўхутала, малайчына. Іш, як усміхаецца і свеціцца — бы іншая кветачка пад сонейкам! Радуешся мамцы, маленькая, праўда?

Ох і пашанцавала табе, мілая. А мне, ведаеш, зусім не даў бог шчасця. Ты не глядзі, што я гэткая разваліна. Я ж франтавічка. Медсястрой была, узнагароды маем са старым... Мы з ім з самай вайны разам. Хворы ўжо зусім. Ды і я... Два інфаркты мела, сахарны дыябет нашу — лічы таксама інвалід. Са старым во і лечым адно другога. Гэта я за тварагом яму выбегла.

— Але, кепска ў старасці аднаму, без дзяцей,— ужо супакоеная, згаджаюся пакорна з незнаёмай.

— Не, мілая, чаму без дзяцей? Іх мне бог даў! Але ж што з гэтага... Байстручкі, даруй мне божа, усе шасцёра! А так дзяўчынкі хацела, так прагнула!.. І да знахарак ездзіла, і свечкі нейкай святой ставіла, нягледзячы што франтавічка,— не дапамагло нічога. Аднаго за адным выстрэльвала хлопчыкаў — і ўсё тут. А як шостага насіла, Андрэйку, мне Кандрат Іванавіч — цяпер дацэнт у медыцынскім, мы знаёмы з вайны,— так напэўна дачку абяцаў. Казаў, па ўсіх прыкметах — яна. Ну і што? Ляжу на стале, раджаю, і так ужо стараюся для дачушкі, па-навуковаму ўсё выконваю... Чую дзяўчаты рагочуць: «Пацан, Любка, зноў пацан!» Сорамна, мілая, што я тады крычала там. А раўла-а як!..

Ну, і стары мой пасля гэтага заявіў: «Усё, маці, хопіць. Лёс не ашукаеш. Хлопцы дак хлопцы. Байцы будуць». Во і выраслі байцы — у бацьку пайшлі, ваеннаслужачыя яны ў мяне. Паразляталіся па ўсім свеце...

Вядома, у які год, бывае, і з'едуцца. Дак толк з іх які? Сядуць за стол і завядуць пра палітыку. Потым па сто грамаў вып'юць, з новых анекдотаў парагочуць, на балконе па сігарэце выкураць ды — к тэлевізару радочкам. Ні пагаварыць, ні паплакаць.

Я ўжо тады хоць нявестак на кухню клічу — пагутарым па-бабску, душу адвядзём. А ўсё ж такі слёзы не свае, не родныя.

І пісем, мілая, не дапросішся ў іх. Нявесткі мне, праўда, іх прысылаюць. А байцы гэтыя... «А пра што пісаць, мамка? Мая ж вам, здаецца, пра ўсё напісала...» Падумай, хіба ж дачка так адказала б?

Ну што тут зробіш!

Не даў бог шчасця, і годзе... А ўнукаў сколькі маю, прызнацца? Дзевяцярых! Сяргейка, Ігарок, Максімка, Антон, Пецік, Стась, Міколка, Юрачка, Янка... Ат, адныя байстручкі, даруй мне, маці божая!

Завітаю да якога-небудзь Яначкі-баначкі — «Здрастуй, бабуля!» У шчаку — чмок! «Ну, я пабег на вуліцу, бабуля!» І ўсё!.. А я ж да яго, падшыванца, цераз усю Расею перлася, тры дні піражкі выпякала!.. Была б унучка — і прыгалубіла б, і спаць бы ноччу паклала побач, і пашапталіся б мы ўволю...

Старэйшы сын, Алёшка, так той прама так і аб'явіў: «Баюся,— кажа,— мама, трэцяга заводзіць. Калі зноў хлопчык — любіць не буду. Чэснае слова, не буду!». Ну, вядома, любіць бы любіў, нікуды бы не дзеўся б. І мой стары калісь так казаў, а хіба мы з бацькам мала сэрца ім аддалі? А бачыш — сумуе і ён...

Алёшка нават з урачамі раіўся — ён у самім Ленінградзе жыве — дак тыя прама яму і сказалі — такая асаблівасць генаў. Мо і праўда. Гэткую вайну перацярпелі, якія хочаш гены скасабочацца — я ж сама медыцынскі работнік, разумею.

Ну, гены тут вінаватыя ці лёс, а ўсё ж такі дзяўчынкі та-ак хо-очацца!..

Я, мілая, ведаеш, усю жызню працую, шчэ і зараз у санаторыі начныя дзяжурствы бяру. Багацця вялікага не накапіла, аднак трохі на кніжку палажыла. І во нядаўна неяк выйшла, што нявесткам сваё рашэнне аб'явіла. «Каторая,— кажу,— народзіць шчэ дачку — зараз жа ўсю суму тэлеграфам і высылаю!» Чакаю во цяпер сігналу. А стары нада мной смяецца, кажа — пустое дзела. Ага... відаць, даведзецца на пахаванне ды памінкі свае тысячы распускаць.

А твая галубачка, бачыш, заёрзала ўжо, засумавала. А мо прымерзла? Ну, бяжы, бяжы! Сцеражы свой скарб, глядзі! Ды мужыку свайму прывітанне перадай. Так і скажы яму — надта ж вы шчаслівыя!

Не бачыла, мілая, свежанькі тваражок там завезлі?

Малюнкі Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

## ПАЭЗІЯ

**Ніна ШКЛЯРАВА**

■ ■ ■

Сілу птушкі маюць у крылах.
Чалавек мае крылы—розум.
А калі пакідаюць сілы
І ў душы выспяваюць слёзы?
Я тады набіраюся мудрасці
У чужое ласкі ці грубасці,
І жыву надзеяй няхітраю —
Усё вытрымаць.

■ ■ ■

Так спяшаюся ў роднае
зноў я,
Да хаціны сваёй
пры дарозе.
Вось і тын, і пляменнічак
поўзае,
І пясок на трэсцы вывозіць.
— А мая ж ты — вёска!
Па гразі рукамі плёскае.
А маё ж ты дзіцё недарэчнае,
Што глядзіш? Зараз дам табе
нечага.
А маё ж ты,
Пракопаўскае!
Асцярожна, тут коўзка як!
А маё ж ты тутэйшае!
Па лужынах тупае!
А маё ж ты, дзіцё чалавечае!
Будзь з маёю Пракопаўкай
вечна!

■ ■ ■

Гаварыў
Пра джазы за граніцай?..
Ты прабач,
Што я цябе праслухала.
Заміналa ў небе —
Зараніца
І блазнюк-жаўрук
Над самым вухам.

### *Цішыня*

Расой сцякае цішыня
З бярозавых галінак...
Страсае ветрык каля пня
Расіцу з павуцінак.

У небе зорка — немаўля,
Сусвет ёй — за калыску.
А над Сусветам цішыня,
Як тут, над абеліскам...

Чуваць, як дыхае вайна
Страшэнна блізка.
І ненавісная яна
Сваёю кожнай рыскай!

Фота Валянціна **ЖДАНОВІЧА.**

Сынковіцкая абарончая царква.
В. Сынковічы Зэльвенскага раёна.
XV—XVI стст.

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | | | | | | |

ЧЭРВЕНЬ



СТАРАЖЫТНАЕ ДОЙЛІДСТВА БЕЛАРУСІ

Беларусь

# НАШ ВЕРНІСАЖ

Разнастайную палітру творчых почыркаў, стыляў, манер прапанавала гледачу выстаўка «Мы будуем камунізм», адкрытая напярэдадні XXVII з'езда КПСС у Рэспубліканскім Палацы мастацтваў. У вобразнай форме яна адлюстравала той строй думак і пачуццяў, якімі жывуць сёння працоўныя Беларусі. Свае работы прадставілі мастакі розных пакаленняў — і масцітыя, усім нам добра вядомыя майстры, і маладыя, чые імёны пакуль яшчэ не навучыліся гаварыць самі за сябе, але творы, калі меркаваць па першых уражаннях, прыцягнулі да сябе ўвагу шматлікіх наведвальнікаў. Разгарнуўшы перад гледачом шырокую панараму жыцця рэспублікі, экспазіцыя стала справаздачай майстроў выяўленчага мастацтва Беларусі партыйнаму форуму.

Леанід ШЧАМЯЛЁЎ. Кастрычнік у Мінску.

## З выстаўкі, прысвечанай XXVII з'езду КПСС



Уладзімір САВІЧ, Уладзімір ТОЎСЦІК. Хроніка нашых будняў.



Аляксандр СЯМІЛЕТАЎ. Працоўны семестр.




Віктар ГРАМЫКА. Партрэт народнага мастака БССР Я. Чамадурава.



Віктар АЛЬШЭЎСКІ. Наваполацк — вялікая хімія (з трыпціха).



Гаўрыла ВАШЧАНКА. Радасць быцця.



# ВАЎКАВЫСКІ БАРС

САСКАРБНІЦ ДЗЯРЖАЎНАГА МАСТАЦКАГА МУЗЕЯ БССР

XII—XIII стагоддзі — надзвычай цікавы перыяд у гісторыі Ваўкавыска, аднаго са старэйшых гарадоў Беларусі. Росшукі археолагаў на трох узвышшах, якія складалі гарадскі цэнтр таго часу,— Шведскай гары, Замчышчы і Муравельніку — сведчаць аб багатых культурных сувязях горада, развітой рамеснай вытворчасці, у тым ліку кастарэзнай і каменярэзнай. Сярод археалагічных знаходак 1950—1960-х гадоў шырока вядомы шахматныя фігуркі барабаншчыка і ладдзі-«насадкі», накладка са слановай косці з відарысам звяроў, частка трыпціха з архангелам і двума святымі, выкананая пад несумненным уплывам візантыйскіх узораў, вухачыстка, завершаная фігуркай музыканта, і іншыя.

У 1954 годзе археолаг В. Р. Тарасенка пры раскопках Шведскай гары ў пласце, які адносіцца да XII—XIII стагоддзяў (гэта і дало падставу для датавання), знайшоў плітку з відарысам барса — помнік высокай мастацкай вартасці, вельмі цікавы, але, на жаль, мала даследаваны. На абодвух баках пліткі з шэра-жоўтага вапняку невысокім рэльефам нанесены відарыс звера ў профіль, з павернутай назад галавой, так што абрысы яго фігуры ўтвараюць своеасаблівы кругавы рытм. Плаўны паварот галавы паўтарае малюнак расліннага дэкору і хваста, які заканчваецца трылісьнікам, ствараючы ўражанне, што ён «зацвіў».

Абрысы асноўнага аб'ёму фігуры выдзелены больш глыбокай разьбой, у той час як грыва барса апрацавана мяккімі акруглымі штрыхамі. Падобны прыём нараджае гульню святла і ценю.

Знойдзены кавалак пліткі з відарысам барса — толькі фрагмент, які не дазваляе меркаваць аб яе агульнай кампазіцыі і прызначэнні. Але сам матыў мае несумненнае ўсходняе паходжанне і атрымаў шэраг устойлівых іканаграфічных увасабленняў, распаўсюджаных ва Усходняй і Заходняй Еўропе, у Візантыі.

Сувязі заходнярускіх гарадоў з гэтым важным культурным цэнтрам былі надзвычай актыўнымі, аб чым сведчаць помнікі, знойдзеныя на тэрыторыі Панямоння. Даследчыкі В. П. Даркевіч і Л. А. Лелекаў адзначаюць падабенства рэльефных адлюстраванняў звяроў на ўладзіміра-суздальскіх храмах з матывамі, уласцівымі для візантыйскіх помнікаў прыкладнога мастацтва. Цікава, што такая дэталь, як перакінуты цераз заднюю лапу хвост у ільвоў у названых рэльефах, прысутнічае і ў нашым помніку. Блізкія матывы сустракаюцца і на вырабах прыкладнога мастацтва, якія трапілі на Русь з Візантыі, а таксама на помніках старажытнарускага мастацтва. Аднак больш блізкіх аналагаў, выкананых менавіта ў гэтай тэхніцы — тэхніцы разьбы знайсці пакуль не ўдалося. Магчыма, іх наогул няма сярод помнікаў, якія трапілі на землі славян, бо прадметам экспарту з'яўляліся рэчы каштоўныя, якія прыносілі ўстойлівы даход. Хто ж стане перавозіць за тысячы кіламетраў камяні, няхай сабе і аздобленыя архітэктурным дэкорам?!

Усё гэта дазваляе меркаваць, што плітка з відарысам барса магла быць выканана мясцовым майстрам, на якіх была багатая зямля беларуская. Адказы на гэта і іншыя пытанні павінны даць далейшыя даследаванні археолагаў, гісторыкаў і мастацтвазнаўцаў. Несумненна, аднак, што плітка мае агульную з шэрагам славяна-візантыйскіх помнікаў аснову, можа быць пастаўлена поруч з імі і ўяўляе істотную грань у культуры старажытных гарадоў Беларусі.

Наталля ТРЫФАНАВА,
мастацтвазнаўца.

# У СЭРЦАХ І ПАМЯЦІ ЛЮДЗЕЙ



Літаратурны музей Якуба Коласа называюць у народзе «Коласаў дом». Сапраўды, пабываеш тут і нібы пагамоніш з самім паэтам.

Калі пасля вайны Якуб Колас вярнуўся ў вызвалены Мінск, яму прапанавалі пасяліцца ў невялічкім драўляным доміку, які стаяў на месцы цяперашняга дома, пабудаванага ў 1952 годзе, да сямідзесяцігоддзя з дня нараджэння паэта. Мясціна яму ўпадабалася.

З маленства прывык ён ашчадна адносіцца да навакольнай прыроды, якую любіў і разумеў не толькі як аб'ект прыгажосці, але перш за ўсё як аснову існавання чалавека.

Яму было прыемна, што на сядзібе растуць любімыя з дзяцінства сосны. У першую ж вясну ён падсадзіў да іх елачкі, бярозкі, пасля — кусты арэшніку, ядлоўцу, клёны, вяз... Вясной тут аж вісне густы пах ад смалістай сасны, ліпкага бярозавага лісця, чаромхі, бэзу. Побач — дружная сямейка дрэў: чатыры дубкі і бярозка. Адзін дубок — зараз ён самы высокі, бо дагледзалі яго з асаблівай увагай — расце на светлую памяць пра сына Юрку, які загінуў на фронце Вялікай Айчыннай вайны. Бярозка — напамінае аб тым, як цяжка перажываў Якуб Колас смерць свайго мілага друга, жонкі Марыі Дзмітрыеўны. Воддаль — фруктовыя дрэвы, пасаджаныя паэтам і яго сынамі пры жыцці бацькі. У садзе многа кветак, водзяцца птушкі, жывуць вавёркі. Сосны, бярозы і клёны ахоўваюць сад ад зімняй сцюжы і летняй спёкі. Так сплanaваў паэт у клапатлівым, гаспадарскім роздуме, як мудры аграном і садоўнік.

Кажуць, што існуе сувязь паміж чалавекам і прадметамі, якія акружалі яго. Гэтую сувязь адчуваеш, калі заходзіш у дом, знаёмішся з мемарыяльнай экспазіцыяй.

Гасціная, сталовая... Тут рэчы, якімі карыстаўся паэт, яго сям'я, а таксама госці гэтага дома пры жыцці гаспадара. Былі тут многія. Каб расказаць пра сустрэчы ў доме паэта, трэба напісаць добрую кніжку. Пацвярджаюць гэта і фотаздымкі, якія экспануюцца ў музеі.

З асаблівым хваляваннем заходзяць людзі ў рабочы кабінет Якуба Коласа, дзе ўсё захоўваецца так, як было пры жыцці паэта. Пісьмовы стол. На ім прылады пісьма, настольная лямпа, запісныя кніжкі, тэлефон... І бюсцік А. С. Пушкіна... Яго вобраз Якуб Колас ушаноўваў да апошняга свайго дня.

У асабістай бібліятэцы паэта шмат кніг з дароўнымі надпісамі іх аўтараў — пісьменнікаў, вучоных. Сярод іх творы П. Броўкі, М. Танка, М. Лынькова, К. Крапівы, І. Шамякіна, А. Куляшова, Я. Брыля, М. Лужаніна, А. Бялевіча, А. Куляшоўскага, класікаў рускай савецкай і іншых нацыянальных літаратур.

Музей... Гэта гісторыя і сувязь яе з сённяшнім днём. Каб музей быў змястоўным і цікавым, каб людзі маглі адкрыць тут новае, раней невядомае, вядзецца карпатлівая збіральніцкая праца. Найпершае значэнне надаецца выяўленню аўтографаў, кніг і фота Якуба Коласа ў прыватных зборах і калекцыях асоб з акружэння паэта. Зараз у асноўным фондзе музея захоўваецца (на 15.02.1986) 19250 адзінак.

Найбольшую каштоўнасць маюць рукапісы паэта, яго асабістыя дакументы, першыя выданні, творы з дароўнымі надпісамі пісьменнікам, вучоным, грамадскім дзеячам — Я. Райнісу, Я. Карскаму, С. Гарадзецкаму, Я. Адамовічу і многім іншым.

У фанатэцы музея — голас Якуба Коласа (чытае вершы, выступае), галасы пісьменнікаў, дзеячаў мастацтва і культуры, у тым ліку П. Броўкі, А. Куляшова, А. Макаёнка, І. Шамякіна, Л. Александроўскай, П. Малчанава, Р. Шырмы, галасы брата і сясцёр паэта, успаміны сына В. І. Талаша — Дзмітрыя, запісы песень, рамансаў на словы Якуба Коласа, выступленні на ўрачыстасцях, прысвечаных паэту.

Матэрыялы з фондаў музея выкарыстоўваюцца для ўзбагачэння экспазіцый і выставак, пастаноўшчыкамі кінафільмаў і спектакляў, перакладчыкамі з братніх рэспублік, а таксама Балгарыі, Польшчы, ГДР, экспануюцца ў музеях А. Пушкіна, Л. Талстога (Масква), Т. Шаўчэнкі, М. Рыльскага (Кіеў), М. Някрасава (Карабіха), у краязнаўчых музеях (Перм, Курск, Ташкент), у музеях дружбы народаў (Баку, Тбілісі), на цеплаходзе «Якуб Колас» (Савецкае Дунайскае параходства), у Доме імя Якуба Коласа таварыства французска-савецкай дружбы (Францыя, г. Венісьё).

«Коласаў дом» шчыра працуе на тое, каб песня паэта мела найкарацейшы шлях да сэрцаў людзей, каб у памяці людзей доўга-доўга жылі думкі і мары песняра.

Міхась ПРАТАСЕВІЧ.

## З КНІГІ ВОДГУКАЎ МУЗЕЯ

«У гэтай мудрай цішыні слухаў Якуба Коласа...»

**10.07.1965 г. Аляксей ПЫСІН.**

«Як член балгарскай культурнай дэлегацыі і як балгарскі пісьменнік, я наведаў дом-музей вялікага беларускага пісьменніка Коласа. Якуб Колас — імя шырока вядомае ў Балгарыі. Наш народ яго любіць, мы даўно ўжо яго перакладаем.

Слава буйнейшаму пісьменніку братняй Савецкай Беларусі!»

**13.09.65 г. Ангел ТОДАРАЎ.**

«Я зведаў вялікую радасць ад пачуцця, якім я перапоўнены, пабыўшы ў гэтым святым доме!»

**21.07.70 г.** Народны артыст РСФСР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР **В. КУЗНЯЦОЎ.**

«Мы, прадстаўнікі афганскай літаратуры, рады былі наведаць музей Я. Коласа на цудоўнай беларускай зямлі. Нашы ўражанні аб гэтым застануцца незабыўнымі».

**30 чэрвеня 1984 г.**

«Выдатны лёс народа, які нараджае вялікіх паэтаў і клапатліва захоўвае памяць пра іх.

Якуб Колас — беларус, але мы, ленінградцы, лічым яго і сваім старэйшым братам».

**Ленінградскія пісьменнікі Д. ХРАНКОЎ, Л. ГАЎРЫЛАЎ, А. ЦАКУНОЎ, В. МАКСІМАЎ, В. ЦЕХАНОВІЧ.**

**18.09.85 г.**



АПАВЯДАННЕ

# СПОВЕДЗЬ

Вечарэла. Стомленае сонца хутка кацілася да небасхілу. Паветра станавілася больш свежым і мяккім. Над поплавам распасціралася тонкая пялёнка туману. З старога сасновага бору выходзілі вайсковыя падраздзяленні і ішлі ў казармы.

Лейтэнант Марозаў, адвёўшы свой узвод, пакрочыў у штаб батальёна. «Вячэрнюю прагулку», як ён называў у думках свой заход у штаб, лейтэнант рабіў амаль кожны дзень. Сюды прыходзіла пошта, а ён якраз чакаў пісьма ад жонкі. Ён паслаў ёй ужо некалькі, а адказаў усё не было і не было. І гэта пачынала яго трывожыць. Калі б такое здарылася ў вайну, то ён не здзівіўся б. А цяпер жа мірны час, і ў галаву, натуральна, самі сабой лезлі няздобрыя думкі.

Як толькі Марозаў пераступіў парог невялікага пакоя і прывітаўся, камбат капітан Шутаў адарваўся ад нейкай паперы, праніклівa паглядзеў на яго і спагадліва сказаў:

— Лейтэнант Марозаў, вам пісьмо... ад жонкі,— і Шутаў дастаў з шуфляды стала сіні канверт і падаў Марозаву.

— Дзякуй! — таропка сказаў Марозаў і, узяўшы пісьмо, упіўся ў яго вачамі. Так, гэта было доўгачаканае пісьмо ад жонкі. Ён пазнаў па почырку. І сэрца яго моцна забілася ад радасці. У гэты час у штаб зайшоў найлепшы сябар, лейтэнант Казлоў, з якім ён вучыўся ў ваеннай школе, а потым ваяваў і канчаў вайну ў Берліне. Убачыўшы ў руках Марозава пісьмо, з цікавасцю запытаў, ад каго. Марозаў адказаў.

— Ну вось і дачакаўся! А ты хваляваўся, перажываў,— узрадаваўся за таварыша Казлоў і, зазірнуўшы Марозаву ў вочы, весела дадаў: — Сядай і чытай, што піша твая каханая.

Калі ён разгортваў лісткі, з іх выпала невялікая, складзеная ўдвая, пісулька. Лейтэнант схапіў яе і мігам прабег вачамі. Вось што было напісана ў ёй: «Табе аднаму. Прачытай і парві». І подпіс: «М».

І ад таго, што жонка не напісала сваё імя, а паставіла толькі адну літару, кінула ў пот лейтэнанта. Ён хутчэй адчуў, чым зразумеў, што здарылася нешта жахлівае, непапраўнае. Але што? Зірнуўшы спадылба на прысутных і пераканаўшыся, што тыя заняты кожны сваёй справай, ён таропка пачаў чытаць далей.

«Грыша!!! — як заўсёды проста пачыналася гэтае доўгачаканае пісьмо.

Напісаўшы тваё імя, мне хацелася дадаць — дарагі, але я не адважылася. Добра ведаю, што ты палічыў бы гэта за найвялікшую абразу. Ды і само пісьмо ты, напэўна, успрымеш як нечуванае нахабства, як жорсткі здзек. Яно і зразумела: я ж для цябе зараз не жонка, а здрадніца, распусная жанчына, разводніца. Я выдатна разумею гэта і ўсё ж пішу. Канечне, пішу не дзеля таго, каб апраўдацца ці выклікаць спагаду ў тваім сэрцы — я не заслугоўваю яе. Не раблю я і спробы, каб вярнуць цябе. Гэта немагчыма ды, відаць, і не патрэбна. Любую памылку можна дараваць жанчыне, але не такую цяжкую, якую зрабіла я.

Калі гаварыць шчыра, перш чым узяцца за пяро, я доўга думала, ці варта мне наогул пісаць. Пасля доўгага роздуму ўсё ж вырашыла напісаць і чэсна, як гэта рабіла заўсёды, расказаць, як здарылася, што я скалечыла і тваё і сваё жыццё, як я — і гэта самае страшнае — пакінула без бацькі, можна сказаць, асірaціла нашу Томачку, нашу мілую дачушку, якую ты гэтак моцна любіў.

Дык слухай «сумную аповесць» пра тое, як я страціла цябе.

Калі цябе ўзялі ў армію, мне было вельмі цяжка. Першыя дні я проста не знаходзіла сабе месца. У хаце, на двары, на вуліцы — усюды, дзе б я ні была, штосьці-небудзь ды напамінала аб табе. Фарфоравы кубак, з якога ты піў чай, крэмавая кашуля, якую ты надта любіў, бо яна была табе да твару, сіні бастонавы касцюм, пашыты адразу ж пасля вяселля. Былі і іншыя, зусім дробныя і малазначныя рэчы, якія выклікалі ў памяці дарагія, мілыя сэрцу карціны.

Ідучы на работу ці з работы, я сустракала мужчын, маладых, здаровых, што працавалі ў розных установах. Многіх, як цябе, вядома, асабліва ўзялі ў армію. Але шмат іх засталося, асабліва рабочых, якія мелі бронь. І вось, гледзячы на іх, я ледзь не захлыналася ад зайздрасці. «Чаму цябе ўзялі, а іх не бяруць?» — думала я. Гэта было кепскае пачуццё. Я, зразумела, ведала гэта, але зрабіць штосьці-небудзь з сабою не магла. Розум гаварыў адно, а сэрца — другое. Як правіла, у гэтай тайнай спрэчцы перамагала апошняе. Праўда, у такія пакутлівыя хвіліны я стаpалася пераканаць сябе ў тым, што не я адна такая, што абараняць сваю сям'ю, сваю Радзіму — свяшчэнны абавязак кожнага здаровага мужчыны, што ўзяць усіх хлопцаў у армію немагчыма, таму што некаму ж трэба працаваць. Але такія разважанні не суцяшалі.

Аднак час ішоў, і боль разлукі паступова тупеў. Я змірылася са сваім становішчам, са сваёй адзінотай. Гэтаму спрыяла і тое, што я жыла не адна, а з бацькамі, што мяне акружалі добрыя людзі.

Каб менш думаць пра цябе, не трывожыць душу, я ўсю сябе, даастатку аддавала рабоце. Працавала, як кажуць, не ведаючы спачыну. Адкуль толькі і сілы браліся. Я ўмудралася зрабіць хатнюю работу, дагледзець дачку, праверыць вучнёўскія сшыткі, падрыхтавацца да ўрокаў, і яшчэ заставаўся час для шэфскай работы ў шпіталі...

Неяк увосень сорак трэцяга года з'явіўся ў нас у школе новы настаўнік матэматыкі Кавалёнак. Ён быў інвалід. Калі я ўбачыла яго першы раз, то не без зайздрасці падумала: «Які шчаслівы! Ён то напэўна застанецца жывы».

З-пад Сталінграда яго, цяжка параненага, прывезлі ў наш горад, вылечылі і дэмабілізавалі. Але паколькі Беларусь была акупіравана, ехаць не было куды, то ён і застаўся працаваць у нашым горадзе. Іван Паўлавіч быў адных гадоў са мною, нежанаты. Ён хутка ўвайшоў у работу, гэтак жа хутка ўросся ў наш школьны калектыў.

Са мною ён трымаўся, як і з усімі нашымі настаўніцамі, карэктна.

Але так было спачатку. А потым Кавалёнак пачаў часцей паглядваць на мяне, ласкавей усміхацца пры сустрэчы, распытваць пра маё жыццё-быццё. Часам ён заводзіў гаворку пра Тому, пра цябе, пра нашы сямейныя справы. Я прымала гэта за простую цікаўнасць, за таварыскую ўвагу і старалася коратка, але шчыра адказваць: усё ідзе нармальна, не сумую, Тома расце і разумнее, нядаўна атрымала пісьмо ад мужа, ён жывы і здаровы. У такіх выпадках ён моршчыўся і ўздыхаў, а я рабіла выгляд, што не заўважаю гэтага. Праўда, так яно і было на самай справе. Кавалёнак ніколечкі мяне не цікавіў.

Аднойчы, калі ў настаўніцкай былі толькі я і наша батанічка Зіна, Іван Паўлавіч падышоў да мяне і запрасіў разам пайсці ў кіно. Я, вядома, адмовілася.

— Ваша справа, прабачце,— суха прамовіў ён і пачаў апранацца.

Калі ён выйшаў, да мяне падскочыла Зіна і здзіўлена спытала:

— Чаму ты адмовілася пайсці з ім у кіно?

— Я ж не дзяўчына... У мяне ёсць муж...

— Дурніца!

— Чаму «дурніца»? — пацікавілася я.

Зіна вырачыла круглыя вочы і кпліва сказала:

— У яе ёсць муж... А дзе ён? За трыдзевяць зямель?! А гэта такі кавалер. Пад бокам. І адмовіцца ад яго прапановы магла толькі такая разява, як ты.

— Табе падабаецца, ты і ідзі,— без злосці параіла я.

— О, каб ён запрасіў мяне,— летуценна прамовіла Зіна і ціхэй дадала: — Я ахвотна пайшла б з ім... І не толькі ў кіно...

— Ну добра,— сказала я, падумаўшы,— пайду з ім у кіно. А што тады скажуць пра мяне людзі?

— А што яны могуць сказаць? — стрэльнула вачамі Зіна.— Настаўнік і настаўніца адной школы разам пайшлі ў кіно. Што ж тут дрэннага? Абсалютна нічога. А, урэшце, каму якая справа, з кім ты пойдзеш у кіно?

— Ты, здаецца, падбухторваеш мяне на... здраду,— пакрыўдзілася я.— Ты, мая найлепшая сяброўка?

— Што ты! Што ты! — замахала рукамі Зіна.— Ты з глузду з'ехала? Ты як магла падумаць пра мяне гэтак, ну...— і, не знайшоўшы патрэбнага слова, змоўкла і апусціла галаву. Праз хвіліну ўстрапянулася, загаварыла: — Ты думаеш, што я не бачу, як табе цяжка? Мне таксама нялёгка. Але я пакутую ад таго, што ў маім сэрцы ёсць вольнае месца і яго ніхто не хоча заняць. А ты пакутуеш таму, што з твайго сэрца вырвалі самае дарагое і блізкае, і табе невядома, што з ім будзе. І табе, канечне, цяжэй, чым мне. Скажы, што не так? Ага, маўчыш? А мы ж жанчыны. І жывём адзін раз. Так, адзін раз! А гады бягуць, як вада ў рэчцы. Хутка-хутка. Ты скажаш: вайна, цяжкасці, не да гэтага. Усё гэта так. Але хіба мы вінаваты?

Мне не было чаго сказаць, і я прамаўчала. Што я магла сказаць сяброўцы, у якой асабістае брала верх над усім астатнім?

Аднак яе словы запалі глыбока ў сэрца, не давалі спакою.

Вечарам, лежачы ў пасцелі, я доўга думала, як мне ўсё-такі трымацца з Кавалёнкам, што рабіць. І нарэшце прыйшла да вываду, што нічога дрэннага не будзе, калі я схаджу з ім у кіно. Прытым жа не з першым стрэчным-папярэчным я пайду, а з настаўнікам са сваёй школы. Прымаючы такое рашэнне, я ніколі не думала, што яно пацягне нітачку, якая раскруціць увесь гэты клубок... Калі гаварыць шчыра (а хаваць і ўтойваць штосьці-небудзь мне няма ніякага сэнсу), я ж не збіралася шукаць любоўных сувязей, нават не думала пра іх. Мне проста хацелася хоць крышку забыцца пра цяжкасці, пра сваю адзіноту. Такому рашэнню спрыяла яшчэ і тое, што я ўсё радзей стала атрымліваць ад цябе пісьмы, а потым і зусім іх не стала.

Адсутнасць пісьмаў я вытлумачыла па-свойму. Мне, як і іншым знаёмым жанчынам, пачало лезці ў галаву чорт ведае што. І вось, каб хоць крыху адкараскацца ад невясёлых дум, ад цяжкіх перажыванняў, у наступны раз я згадзілася пайсці з Кавалёнкам у кіно...

Іван Паўлавіч з твару быў так сабе, затое прыгожы душою. Чалавек вялікага сэрца. І гэта падкупляла. Але я трымалася, як кажуць, на пэўнай адлегласці. Такія адносіны не выклікалі трывогі. «Ну што можа здарыцца, калі я прайдуся з добрым чалавекам?» — пыталася я ў сябе і адказвала: «Нічога». Таму не дзіўна, што, калі ў другі раз ён запрасіў мяне ў тэатр, я ахвотна пайшла.

З тэатра ён праводзіў мяне дадому. Памятаю, мы ішлі і гаварылі пра самыя звычайныя, будзённыя рэчы. Ён быў, як і раней, уважлівы і стрыманы. Нават, каб узяць пад руку, папрасіў дазволу. Я падумала: «Які далікатны! Цяпер такія рэдка сустракаюцца».

Крыху пазней Кавалёнак нясмела сказаў, што хоча зайсці на кватэру і паглядзець, як жыве «калега па працы». «Што ж тут кепскага, калі ён зойдзе да нас?» — падумала я і згадзілася. Перад выхадным ён прыйшоў да нас. Якраз дома былі і бацькі. Яны займаліся сваімі справамі, а мы сядзелі ля стала і размаўлялі пра вайну, пра пералом на франтах, пра патрыятызм працаўнікоў тылу, наогул, пра ўсё на свеце, толькі не пра нашы адносіны. Мне здавалася, што ён наўмысна пазбягае гэтай тэмы. Праз колькі часу да нас далучыліся і бацькі. У яго і з імі знайшлося пра што пагутарыць.

Калі ён, нарэшце, пайшоў, маці глянула на мяне і кажа:

— Які добры чалавек.

— Сур'ёзны, разумны,— дадаў бацька,— лішняга не ляпне. Ён мне падабаецца...

І толькі дачка наша аказалася больш дальнабачнай. У гэтым бяскрыўдным, здавалася б, факце яна ўбачыла скрытую небяспеку. Яна абняла мяне за шыю і трывожна спытала:

— Мама, што гэта за дзядзя?

— Наш настаўнік.

— А чаго ён усё глядзеў і глядзеў на цябе?

Нечаканае дзіцячае пытанне збянтэжыла мяне, і я не знайшла, што адказаць, а толькі буркнула:

— Адчапіся, табе гэта здалося.

Але мае словы не пераканалі Тому. Яна прытулілася да мяне і з трывогаю прамовіла: «Мама, я баюся яго. Скажы, каб ён не хадзіў да нас».

Але я не сказала гэтага, я не магла ўжо сказаць.

Добразычлівыя адносіны бацькоў да Kавалёнка як бы апраўдвалі мае паводзіны, узаконьвалі спатканні, і я перастала саромецца. Нашы сустрэчы пасля гэтага сталі, натуральна, часцейшымі. Мы паступова, але няўхільна зблізіліся. Я заўважала гэта сама па сабе, па сваіх адносінах да яго. Аднойчы Іван Паўлавіч узяў мяне за руку, і я ўжо не ўбачыла ў гэтым нічога дзіўнага, тым больш крыўднага. Нават калі ён мяне абняў, то і гэта не выклікала пратэсту. Наадварот, я пачынала адчуваць, што яго прысутнасць падабаецца мне, становіцца неабходнай. Каб апраўдацца перад сваім сумленнем, я заўсёды казала сабе: «Пажартую крыху ды кіну». Але гэта была няпраўда, самападман. У гэтым я хутка пераканалася. Аднаго разу, калі ён не прыйшоў да нас, мне зрабілася сумна, як маладой дзяўчыне. «Што са мною творыцца? — з жахам падумала я ўпершыню.— Няўжо я закахалася ў яго?» Тут я ўспомніла цябе, і мне зрабілася сорамна і прыкра на душы. Я пачала супакойваць сябе, кажучы, што гэта лёгкі флірт, часовае захапленне. З цягам часу ўсё пройдзе. Але так гаварыў розум, а не пачуцці.

Некалькі разоў я нават спрабавала перапыніць спатканні. Аднак даволі мне было ўбачыць Kавалёнка, як смеласць прападала, і я ішла туды, куды ён запрашаў.

А ўвесну адбылося тое, чаго я так баялася. Як гэта здарылася, я не магу табе вытлумачыць. Скажу адно: бываюць моманты, калі жанчына траціць над сабою ўладу. Нібы нейкі туман напльівае на чалавека, абяззбройвае, гіпнатызуе.

Ці кахала я Kавалёнка, як некалі цябе? Не і не. Але сказаць, што ён зусім не падабаўся мне, я таксама не магу. Гэта было б няпраўдай. Мне прыемна было бачыць яго, гутарыць, раіцца. Калі ён быў побач са мною, я забывалася пра адзіноту, пра цяжкую жаночую долю. Калі б да вайны хто-небудзь назваў мяне бязвольнай, слабай, я абразілася б. Цяпер жа добра ведаю, што я бесхрыбетная істота, гатовая сагнуцца перад першымі цяжкасцямі. Сумна, але факт.

Нарэшце я адчула, што зацяжарала. Мяне ахапіў жывёльны страх. Дзе б я ні была, што б ні рабіла, у мяне з галавы не выходзіла адно і тое ж пытанне: што я натварыла? Я так разгубілася, што не ведала, што ж рабіць. Не ела, не спала, не размаўляла з людзьмі.

Калі ж здранцвенне прайшло, я больш спакойна пачала думаць, якое знайсці выйсце. У галаве закруціліся розныя думкі, адна недарэчней за другую, але, за якую з іх ухапіцца, я не ведала. Не прыдумаўшы ніякага ратунку, вырашыла пайсці да Kавалёнка і расказаць пра сваю бяду, заадно разведаць, як ён аднясецца да гэтага. Я спадзявалася, што ён адхінецца ад мяне, не прызнаецца, што знаўся блізка са мною, аблае мяне і прагоніць. І каб ён так зрабіў, бадай, было б лепш. Але гэтага, на вялікі жаль, не здарылася. Kавалёнак абышоўся са мною так, як павінен быў абысціся кожны сумленны чалавек.

— Гэта праўда? — зассяў ён, пачуўшы пра такую навіну.

— Ты радуешся? — са злосцю спытала я.

— Ага, радуюся.

— Ну, вядома. Табе што? Ты — мужчына. За табою хвост не пацягнецца. А вось што мне рабіць?

— А табе нічога і не трэба рабіць.

— Як нічога? — абурылася я.— Я ж, можа, не дзеўка, а замужняя жанчына... Што скажа муж, калі вернецца дадому?

— А ты ўпэўнена, што ён вернецца? — ухапіўся за гэтую думку Kавалёнак і так зазірнуў мне ў вочы, што ад аднаго позірку перавярнулася ўсё нутро. І гэта зразумела: ён закрануў самую тонкую балючую струну маёй душы. Ад цябе ж каторы ўжо час не было ніякіх звестак, і ўпэўненасці ў тым, што ты вернешся, у мяне, зразумела, не было. І я завагалася.

— Усё можа быць,— згадзілася я.

— Вось бачыш,— павесялеў ён і, падумаўшы, проста і сардэчна сказаў: — А я ж гэтак... моцна цябе кахаю...

І вось перада мною паўстала пытанне, цяжкае і пакутлівае: што рабіць з новым жыццём, якое зарадзілася пад сэрцам. Пакінуць яго жыць ці не? Спачатку я схілялася да таго, каб усё-такі зрабіць аборт. А потым, добра пакумекаўшы, вырашыла, што, зрабіўшы аборт, я страчу не толькі дзіця, але і Kавалёнка. А ў тых абставінах гэта было бязглузда і рызыкоўна. Цяпер жа магу сказаць адкрыта: калі б я была ўпэўнена, што ты застанешся жывы, я ўсё-такі збыла б дзіця. Аднак такой упэўненасці ў мяне не было. Узважыўшы ўсе за і супраць, я пагадзілася з Kавалёнкам, аддалася на волю лёсу.

А час ішоў. Цяжарнасць станавілася з кожным днём прыкметней. Першай заўважыла гэта маці. Я спадзявалася, што яна пачне папракаць мяне, лаяць і ганьбіць на ўсе лады. Але маці ёсць маці. Яна зірнула на мяне пільна, з той шчыраю спагадаю, на якую здольны толькі маткі, і ціха, аднымі вуснамі прашаптала:

— Табе цяжка, дачушка?

І гэтае ласкавае, мацярынскае спачуванне расхвалявала мяне да глыбіні душы. Я зразумела, што маме не лягчэй, а можа і цяжэй, чым мне. Яна так моцна паважала і любіла цябе... Я не сцярпела, упала на ложак і заплакала наўзрыд. Колькі я плакала, сказаць цяжка. Толькі, калі выплакалася, маці села побач, пагладзіла мяне па галаве і далікатна запытала, ці гаварыла я наконт гэтага з Kавалёнкам.

— Гаварыла,— адказала я.

— Што ён думае рабіць?

— Прапануе запісацца...

— Калі прапануе,— маці правяла рукой па вачах,— трэба сысціся... Так думае і бацька. Я ўжо гутарыла з ім наконт гэтага.

— Ну, а калі вернецца Грыша? — запытала я.— Што я скажу яму?

— Грышкі шкада, гэта праўда,— уздыхнула маці.

І тое, што бацькі не асуджалі мяне, а нават спачувалі і стараліся памагчы парадамі ў гэтым цяжкім становішчы, вырашыла справу. І я згадзілася з прапановай Kавалёнка. На іншае я не была здольна.

Неўзабаве Kавалёнак перайшоў жыць да нас.

Настаўнікі па школе аднесліся да гэтай падзеі па-рознаму. Зіна і яшчэ сёй-той з жанчын апраўдвалі мае паводзіны. Але знайшліся і такія, а іх большасць, якія сурова асуджалі маю легкадумнасць.

Калі я пачынала пісаць гэта пісьмо, то думала, што коратка раскажу пра свой нечаканы і сумны раман. Але гэта, аказалася, не так проста і лёгка. Адно чапляецца за другое, і пра ўсе падзеі хочацца сказаць хоць па некалькі слоў.

Наша сямейнае жыццё было складанае. Звонку яно магло здацца нават шчаслівым. Але што рабілася ў душы, у сэрцы, ведаю адна толькі я. Калі гаварыць шчыра, адкрыта, то Kавалёнак быў вельмі ўважлівы, чулы і клапатлівы да мяне, і на яго адносіны я не магу паскардзіцца. У сваю чаргу я таксама імкнулася плаціць яму тым жа, аднак гэта мне не ўдавалася. І справа тут не ў жаданні быць добрай і паслужлівай, а ў другім. Хутка я адчула, што той роднасці сэрцаў, якая была ў нас з табою, тут не існуе. І гэта было самае страшнае і непапраўнае.

У першыя дні я, вядома, спрабавала суцяшаць сябе тым, што пажыву, прывыкну і ўсё стане на месца. Але дні ішлі, а супакаенне не прыходзіла. І я ўсё больш і больш пераконвалася, што можна прымусіць сябе паважаць чалавека, асабліва, калі ён паважае цябе, але кахаць па загаду нельга, калі ты нават вельмі хочаш гэтага сам.

На мае пачуцці моцна ўплывала яшчэ і Тома. Яна гэтак падобна да цябе. Як гляну на яе, сэрца так і зойдзецца ад суму, ад невыноснага жалю.

«Як я буду жыць?» — думала я тайком, але адказу не знаходзіла.

З цягам часу жыццё для мяне страціла ўсякі сэнс, а сямейныя адносіны ператварыліся ў мулкае ярмо. Пацягнуліся аднастайныя, шэрыя, як асенняя непагадзь, дні. Сэрца захлыналася ад тугі і пякельнага жалю. Я імкнулася працаваць яшчэ больш, але і гэта не выратоўвала. Ратунку не было нідзе і ні ў чым. Я хутчэй адчула, чым зразумела, што зрабіла непапраўную памылку. Каб канчаткова ўпэўніцца ў гэтым, з нецярпеннем стала чакаць канца вайны. Захацелася даведацца, які ўсё-ткі лёс напаткаў цябе ў гэтай страшнай калатнечы.

Ты застаўся жывы і здаровы. Калі я даведалася пра гэта, сэрца маё напоўнілася невыносным смуткам і болем. І што дзіўна: толькі цяпер я

**Пятро РУНЕЦ**



па-сапраўднаму адчула і зразумела, што такое першае каханне, першае глыбокае пачуццё.

Часам мне становіцца так цяжка, што я ў адчаі гатова налажыць на сябе рукі. Я, бадай, і налажыла б, каб не некаторыя акалічнасці.

Па-першае, мяне стрымлівае Тамарка. Як пагляджу на яе, з галавы адразу вылятаюць усялякія нядобрыя думкі. Надта ж яна прыгожая і разумная. Уся ў цябе. І не толькі з твару, але і ў абыходжанні з бабуляю і дзедам. З чужымі людзьмі трымаецца, як дарослая. Знаёмыя ад яе проста ў захапленні. А для мяне гэта яшчэ адна прычына для пакут. Калі я бываю не ў настроі, яна падыдзе да мяне ды як зірне сваімі вялікімі яснымі вачамі, сэрца маё ледзь не рвецца ад жалю. Яна ж налета пойдзе ў школу. Хто яе тады будзе выпраўляць, даглядаць, гадаваць? Бабуля? Дзед? Але ж яны старыя: колькі ім засталося жыць на свеце. А ты? Я ж не ўпэўнена, што ты возьмеш яе да сябе. А калі б нават і ўзяў, дык самы лепшы бацька не заменіць дзіцяці матку.

Па-другое, і хлопчык харошы. Жвавы такі, здаровенькі. І крыху падобны на Томку. Так кажуць знаёмыя. Можа і праўда. Маці ж у іх адна. Але справа не ў гэтым. Галоўнае, ён жыве і нічым не вінаваты ў тым, што здарылася.

Па-трэцяе, Kавалёнак як чалавек зусім някепскі. Самастойны, чулы, памяркоўны. І дзяцей любіць. Тома ж не яго дачка, але па яго адносінах да яе не скажаш, што ён не родны бацька. Аднак для сумеснага жыцця адной дабраты мала, патрэбна яшчэ каханне.

Так я жыву цяпер. Праўдзівей, не жыву, а існую. Але нічога не папішаш. Тое, што здарылася, ужо не пераробіш. Не бачыць мне больш радасці і шчасця да скону.

Вось і ўсё, што я хацела паведаміць табе ў сваім доўгім пісьме. Цяпер думай пра мяне, што хочаш. Рашэнне прымай, якое палічыш патрэбным. І якое б яно ні было, я прыму яго, як належыць. Я палічыла сваім абавязкам расказаць пра ўсё адкрыта. Ты, думала я, павінен знаць не толькі тое, што здарылася са мною, але і як гэта здарылася. Горкая праўда, як кажуць людзі, лепш за салодкую ману. Робячы так, я меркавала, што, можа, мая споведзь дапаможа табе хутчэй знайсці адпаведнае рашэнне, а мне зменшыць мукі і перажыванні, зніме з душы цяжар, які душыў мяне ўвесь гэты час.

Канчаючы пісаць, хочацца сказаць напаследак вось што: калі б можна было вярнуць мінулае, я аддала б усё на свеце, нават жыццё. Але гэта немагчыма. Вельмі глыбокае прадонне лягло між намі. Таму са слязамі на вачах шчыра кажу: бывай назаўсёды!.. Не памінай ліхам. І жадаю табе шчасця...

Твая былая жонка...

І ніжэй стаяла адна літара «М».



Малюнкі Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.



*Васілю* ВІТКУ — 75

# „БУДЗЕШ ТЫ УСЮДЫ НЕРАЗЛУЧАНЫ...”

...Але ж і юбіляраў урадзіла гэты год, усё роўна як у добрае лета жытніх важкіх снапоў на полі!

Юбіляр — і дарагі зямляк мой Васіль Вітка. Па цяперашнім часе, калі, можна сказаць, вазы і коні адышлі ў гісторыю на ўборачнай страдзе (свядома ўжываю гэта вычарпальнае слова з расійскага побыту, бо змест яго ведаю не толькі з вершаў, а і на ўласным вопыце), каб сабраць увесь яго ўраджай, каб звезці ўсё да коласа, да зернетка ў агульны літаратурны свіран, трэба падагнаць — бо чаго толькі (і колькі!) не выспела на паэтычным Віткавым палетку! — не менш сённяшняга грузавіка.

Так і бачыцца мне, як фуруе ён спачатку слуцкаю шашою, потым скіроўвае і хутаецца мяккім пылам па зацененых прысадамі прасёлках і выскаквае на ходжаную-выхаджаную босымі нагамі незабыўную, зарослую травой-муравой дарожку: Чаплічы — Чалевічы — Еўлічы... І нібыта зноўку, сёння, высяваюцца ў цёплую ўрадлівую раллю даўнія-даўнія радкі шчымлівай сыноўняй адданасці:

**Будзеш ты усюды неразлучаны**
**З першымі ўспамінамі жыцця,**
**З ціхаю тугой па роднай Случчыне,**
**З шолахам альховага лісця.**
**З тою прыдарожнаю алешынай,**
**Што ў зацішку пры шашы шуміць.**
**Хіба ж ёсць на свеце шчасце лепшае,**
**Як пад небам бацькаўшчыны жыць!**

Ах, Случчына, мая Случчына... Колькі паэтаў ты ўзгадавала, і колькі песень склалі і праспявалі яны тваёй мацярынскай дабраце і красе!

Нарадзіўся на Случчыне і паэт Васіль Вітка. У невялікай вёсцы Еўлічы. Гэта сёння перакінулася яна на «Ленінскія надзелы» (такую пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі назву атрымала ўрадлівая колішняя панская зямля, падзеленая паміж беззямельных сялян) і аж на чатырох вуліцах забудавалася добрымі сучаснымі хатамі з садамі, з агародамі ў прысадах.

Колішнія Еўлічы «ў адзін шнур» нічым не адрозніваліся ад безлічы іншых гэтакіх жа беларускіх Еўліч, Ячаваў, Паўстыняў... З хацінамі-стопкамі, з вакенечкамі, выразанымі на шырынюаднаго бервяна, а там, дзе дзеці вытаўклі шыбу, яшчэ і пазатыканымі якім-небудзь рызманом, ці ўшчэнт даношаным аблезлым кажухом.

Можа, пэўна, здацца, што ў той даўні, лучынай і газоўкай закураны, побыт не пранікала ніякага іншага больш праменя, нішто больш яго не асвятляла, не ўзвышала, не абуджала фантазіі, асабліва дзяцінай. Дык не! Было ж святло незабыўнай матчынай калыханкі, яе сенакоснага, жніўнага, вясельнага спеву. Былі бабуліны казкі — звычайна пра страхоцці самыя неверагодныя, бо якіх толькі ведзьмакоў і чарцей лазатых не вадзілася тымі часамі па гарышчах, па комінах, пазавуголлю, на падворышчы. Нячысцікі, ведзьмакі, цемра былі настырныя, але чалавек заўсёды ўмеў злавучыцца і наступіць чорту на хвост або шпурнуць у печ, у агонь ведзьміна памяло. І цемра знікала!

А было яшчэ бацькава чытанне... «Маю асаблівую пашану да бацькі выклікала тое, што ў нашай хаце, колькі я памятаю, ніколі не зводзіліся кнігі. Гэта былі не нашы ўласныя кнігі. І таму яны вабілі мяне яшчэ больш сваёй чароўнай сілай. Адкуль даставаў іх бацька? Адусюль, як толькі дачуваўся, дзе яны ёсць. Прыносіў нават з далёкіх вёсак. І калі выдаралася вольная часіна, у хаце ў нас усю ноч міргала газоўка. Пры яе сляпым святле бацька чытаў уголас, ахвотнікаў паслухаць знаходзілася. Часта да позніх пеўняў вокам не мог звесці і я...»

Так успамінае Васіль Вітка. Так, крок за крокам, засявалася некалі непрыкметна ніва дапытлівага дзяцінага ўяўлення — то невымоўным жалем, то шчаслівай захопленасцю, а то раптам сэрцу станавілася гэтак цесна і неспакойна, што, здавалася, яно вось-вось вырвецца з грудзей.

Так нараджаўся п а э т.

«Вяртаючыся ў памяці да тых дзён, я ніяк не магу ўспомніць, калі напісаў свой першы верш. Затое добра памятаю свае першыя радасці і засмучэнні, сваю дзіцячую бездапаможнасць перад незразумелай велічнасцю зорнага неба, невыказным харастcovам летняга вечара... Калі нехта ў тым, што я паспеў зрабіць, знойдзе вартае ўвагі, дык, можа быць, яму цікава будзе ведаць, што не з напісанага верша адчуў я патрэбу ў творчасці. Паэзія ў кожным з нас прачынаецца значна раней, калі ты раптам здзівішся велічы і харастsву свету, хоць яшчэ і бездапаможны выказаць гэта словамі».

...А с л о в а білася ў грудзі! Слова шукала прасторы — выказаць тое, што перапаўняла дзіцячую, а потым ужо душу і падлетка, юнака. Як з контурам перапаўнялі яе стракатыя падзеі жыцця.

Беззямельны бацька Васіль Максімавіч і маці Марыя Міхайлаўна, родам з сям'і багацейшай, не маючы хлява, дзе паставіць пасажную жарабіцу, адмовіліся ад яе. А на сто рублёў пасагу, які далі замест жарабіцы, малады гаспадар адважыўся ехаць шукаць шчасця аж у Сібір... Маладая жонка з дзіцем праз год паехала па выкліку мужа. Няцяжка ўявіць сабе тую паездку непісьменнай беларускай жанчыны... Як з жыццём развіталася ўсё роўна яна, калі садзілася на воз і пакідала родныя Еўлічы, калі ехала па кацярынінскім шляху, абсаджаным старымі скарэлымі бярозамі, на тое — за свет — Урэчча, дзе павінна была з воза перасесці на цягнік... Як праз два тыдні дарогі (нечуванная па тым часе хуткасць!) апынулася, нарэшце, у горадзе Омску... Жыла сям'я, туляючыся, па чужых кутках, заробкамі бацькі — «халоднага» шаўца на гарадскім рынку. А неўзабаве пачалася імперыялістычная вайна. І бацьку забралі ў салдаты, а маці — з трыма малымі дзецьмі — засталася адна-адзінюткая.

Назад, у родныя Еўлічы, усё гэтак жа адна, з дзецьмі, цераз Урал, цераз усю бяскрайнюю Расію, вярнулася яна пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Прыехаў дадому і будучы наш паэт — ужо «гарадскім хлопцам»...

Бацька прыйшоў з вайны, калі ў Еўлічах сама пачыналіся «ленінскія» надзелы. А калі прыйшла калектывізацыя, як самага пісьменнага і самага паважанага ў вёсцы чалавека выбралі яго людзі сваім першым старшынёй калгаса.

...Васіля Вітку праводзілі ў жыццё добрыя, сапраўдныя настаўнікі.

Першай была школьная настаўніца Таццяна Мікалаеўна. Яна не толькі вучыла сваіх вучняў па кніжках — яна была ім за прыклад чалавечай і грамадзянскай мужнасці. Яна прыехала ў іх школу пасля таго, як мясцовыя кулакі жорстка забілі яе мужа — адважнага актывіста-камсамольца. Гэтак жа яны расправіліся потым і з ёю самою...

Ёсць у Васіля Віткі верш «Гартаванне». Мне ён запомніўся з самага першага чытання тоненькай кніжачкі яго пад такой жа назвай, якая ўбачыла свет яшчэ ў 1944 годзе, у Маскве. Відаць, запаў ён у памяць і сэрца сваёй непадробнай шчырай удзячнасцю добраму працавітаму чалавеку, які стрэўся на жыццёвай дарозе паэта. (Каб гэта ўсе мы ўмелі быць такімі — удзячнымі за чужую дабрыню і прыхільнасць.)

**Даверлівым, наіўным юнаком**
**Я прагнуў вызнаць кузні таямніцу.**
**Здавалася, пад гулкім малатком**
**Само жыццё мне мусіць пакарыцца.**
**Так навучаў мяне кульгавы Валадым...**

Пасля паспяхова пройдзенай «акадэміі» ў еўліцкай кузні дарога праставала ў Слуцкую прафтэхшколу. Скончыўшы яе, малады паэт (а гэта быў 1928 год, і Васіль Вітка добра пісаў ужо вершы, падпісваючы іх яшчэ сваім уласным імем: Цімох Крысько) працаваў слесарам на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце — па тым часе вядомым і слаўтым прадпрыемстве па ўсёй краіне. Там жа, у Бабруйску, адбылася і незабыўная стрэча, якая, пэўна можна сказаць, паўплывала на ўвесь далейшы лёс. Стрэча з Міхасём Лынньковым, у тыя гады рэдактарам бабруйскай газеты «Камуніст»...

І яшчэ адзін настаўнік. І зноў жа з роднай Случчыны (з Цімкавіч...) Гэта Кузьма Чорны, з якім Васіль Вітка быў у самым цесным сяброўстве з першых дзён вайны і да звароту дадому ў вызваленую ад ворага Беларусь. Сяброўства гэта — людзей блізкіх не толькі мясцінамі, дзе яны нарадзіліся, а перш за ўсё глыбокай духоўнай еднасцю — працягвалася да самых апошніх дзён жыцця Кузьмы Чорнага.

Чытаеш прозу Васіля Віткі, яго таленавітыя апавяданні, напісаныя самабытнай слуцкай мовай, пазначаныя глыбінёй думкі і непадробнасцю праўды жыцця («Трывога ў Ельнічах», «Баравіцкія музыкі», «Познія палыны», «Гуляшчы хлеб» і многія іншыя) — і міжволі прыгадваеш Кузьму Чорнага... Не, гэта не пераймание — гэта проста напісалася пад дабратворным уплывам

выдатнага майстра нашай беларускай прозы, непаўторнага настаўніка.

...Звычным сталася лічыць Васіля Вітку перш-наперш пісьменнікам дзіцячым. І гэтаму не запярэчыш: колькі ўцехі і радасці, колькі адкрыццяў і шчаслівага смеху падарыў ён дзецям. Старонкі яго кніг, а хто іх пералічыць, колькі і дзе іх у яго выдалася — і дома і за мяжой. (Былі мы летась у Тбілісі на Усесаюзным савеце па дзіцячай літаратуры, і што ж бачым на выстаўцы дзіцячай кнігі? Кіргізскае і Малдаўскае выдавецтвы хваляцца сабе выданнямі на іх родных мовах — адны — Віткавым «Вавёрчыным горам», а другія — ладнай кніжкай Віткавых вершаў і казак для дзяцей... А сам паэт ні сном ні духам пра гэта не ведае. Ніхто яму з выдаўцоў і не заікнуўся нават. Ну, давялося паціху, непрыкметна — за даўнасцю часу віна, пэўна, даруецца нам — зняць гэтыя кніжачкі з палічак і пакласці ў сумку, у якасці аўтарскіх экземпляраў...) Паўтару: старонкі яго кніг, напісаных для дзяцей — гэта шматколерная і поліфанічная энцыклапедыя жывога навакольнага жыцця. Узяць хоць бы свет самы блізкі, хатні, з усім яго разнастайным і такім, здаецца, вядомым акружэннем. Ці свет поля, лесу, рэчкі. Нават космас...

«Раскошны жыццярадасны свет казачных герояў — ад вавёркі і зайца да мядзведзя і зубра — свет вядомы нам даўно, пазнаны як быццам поўнасцю і да найменшай драбніцы, зноў, па праву таленту і любові, поўнаўладна мабілізаваны яшчэ адным чараўніком на вялікую службу дзецям, іх чыстай радасці, нястомнай і абаяльнай дапытлівасці, іхняй празе пазнання дабра і зла».

Так «па праву таленту і любові» вычарпальна вызначыў Янка Брыль узважаную на шалях мастацтва сутнасць той Кнігі, якую піша ўсё сваё жыццё Васіль Вітка дзецям і пра дзяцей.

Ну хто не ведае яго дасціпных, нязмушана павучальных, з гэтакім жа нязмушаным гумарам напісаных казак пра «Вавёрчына гора», пра «Буслінае лета», «Пра цара Зубра», яго «ППШ», яго «Азбуку Васі Вясёлкіна» ці «Генерала Вераб'я», або «Дударыка»?..

А цэлыя — па завязку — торбы смеху ў Віткавых скорагаворках, пацешках, задачках, загадках, гульнях!.. А вось гляньце на іх саміх. Дзяцей з кароценькага абразка «Хаваймасо!»

«— Хаваймасо! — закрычалі суседавы ўнукі, якія гулялі на вясковай вуліцы і кінуліся ў сенцы.— Пісар ідзе!

Большы выткнуў галаву з дзвярэй і, убачыўшы мяне, сказаў:

— Гэта пісацель.

— Усё роўна хаваймасо! — пачулася з сянец.»

...Някрасаўскія к р е с т ь я н с к и е  д е т и... Памятаеце?

— «Такому-то гусю уж что за охота!
Лежал бы себе на печи!
— И, видно, не барин: как ехал с болота,
Так рядом с Гаврилой...»
— «Услышит, молчи!»

...Каб сцвердзіць, што ўсё напісанае Васілём Віткам для дзяцей — не проста захоплены юбілейны падрахунак, нагадаю, што за кнігі «Беларуская калыханка», «Казкі» і «Чытанка-маляванка» яшчэ ў 1972 годзе паэту была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР. А ў 1978 годзе ён быў узнагароджаны Міжнародным ганаровым дыпломам імя Х. К. Андэрсена з занясеннем прозвішча пісьменніка ў ганаровы спіс вялікага дацкага казачніка.

...Немалую службу саслужыў Васіль Вітка і літаратуры «дарослай»: паэт-лірык (і сатырык, і гумарыст, і паэт, які ніколі не трымаецца «нейтральнай паласы», а ўмее незалежна ўзняць голас грамадзянскага гучання), а таксама, як гаварылася ўжо вышэй, таленавіты сур'ёзны празаік (хоць перавагу аддае ён усё ж сваёй легкакрылай музе Паэзіі), а таксама публіцыст з высокім знакам якасці... Чалавек рознабаковых грунтоўных ведаў, ён не абыякавы і заўсёды дасведчана зацікаўлены ў самых розных праявах усёй нашай нацыянальнай культуры. Бо ні тэатр, ні музыка, ні выяўленчае мастацтва яму не чужыя. Яго заўсёды вельмі пераканаўчыя агляды творчасці маладых, рэцэнзіі, эсэ напісаны на ўзроўні высокай інтэлігентнасці і эрудыцыі. Ён перакладчык з моў братніх і замежных, драматург і адзін з аўтараў-укладальнікаў чытанак «Роднае слова» для вучняў пачатковай школы. Не кажучы пра тое ўжо, што сама школа, школьныя праграмы і стан сённяшняй педагогікі — гэта яго несупынны клопат і рупесак. У друку. З трыбуны. Па радыё і на тэлебачанні. У дыялогах з вучонымі і карэспандэнтамі. Вельмі цікавая, напрыклад, яго гутарка, змешчаная ў польскім часопісе «Przyjaźń» з Марыяй Путрамант.

А яго шматгадовы рэйс на капітанскім мосціку «Вясёлкі», пад пунсовымі ветразямі дзяцінства! У якія чароўныя краіны ён толькі не вадзіў свайго маленькага чытача, якіх чароўных казак і дзіў не паказаў яму на старонках гэтага любімага ўсімі дзецьмі часопіса...

«Дзеці і мы» — гэта кніга ў вельмі многім блізкая па свайму накірунку і тэматыцы з агульнавядомымі кнігамі («Сэрца аддаю дзецям», «Як выхаваць сапраўднага чалавека») славутага савецкага педагога-вучонага з украінскага сяла Паўлыша Васіля Сухамлінскага, з якім Васіль Вітка не раз сустракаўся, асобныя творы якога пераклаў на беларускую мову і сябраваў з ім. «Дзеці і мы» — кніга, якая пісалася ў розныя часы, не адзін год, пад уражаннем асабіста ўбачанага, адчутага, перажытага — з неадкладнай патрэбай выказацца пра тое, што хвалюе і трывожыць: які ты чалавек, у чым твой ідэал, як разумееш і ў чым ты бачыш сваё шчасце?

На чоўне сабраўся ў бязмежную даль,
У шлях невядомы, бясконцы.
Хай бераг далёка, а я паміж хваль
На сонца вяслую, на сонца!

Радкі гэтага верша былі напісаны ў 1928 годзе.

А Васіль Вітка і сёння надзейна, без утомы, трымаецца ўсё таго ж па-маладому імклівага адважнага курсу.

І пра гэта — у дні юбілею Паэта — мы гаворым з радасцю і глыбокай павагай.

Гэтаму — па-добраму зайздросцім...

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

*Да 90-годдзя Канстанціна САННІКАВА*



# ПА ЗАКОНАХ МАСТАЦТВА

Немагчыма ўявіць наша мастацтва без Канстанціна Мікалаевіча Саннікава — аднаго са стваральнікаў беларускага савецкага драматычнага тэатра. Мы абавязкова называем яго імя, прыгадваючы першыя самадзейныя гурткі, аматарскія і прафесійныя трупы. На ўсіх гэтых прыступках, не абмінаючы ні адной, прайшоў ён да вяршынь майстэрства, верны запаветнай мары — служыць сваім мастацтвам народу.

Творчая дзейнасць К. Саннікава пачалася ў 1916 годзе. Шмат шчаслівых старонак яго жыцця звязана з Першым таварыствам беларускай драмы і камедыі, з вучобай у Беларускай драматычнай студыі ў Маскве, працай у Беларускім дзяржаўным тэатры імя Я. Коласа і ў Гомельскім абласным тэатры.

Канстанцін Саннікаў з'яўляецца адным з заснавальнікаў Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Тут ім былі пастаўлены спектаклі, якія займаюць пачэснае месца ў гісторыі беларускага тэатра: «Сяржант Дроб» і «Пагібель ваўка» Э. Самуйлёнка, «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона, «З народам», «Пяюць жаваранкі» і «Людзі і д'яблы» К. Крапівы, «Простая дзяўчынка» і «На крутым павароце» К. Губарэвіча, «На досвітку» і «Выбачайце, калі ласка!» А. Макаёнка, «Хлопец з нашага горада» К. Сіманава, «Машачка» А. Афінагенава, «Зыкавы» М. Горкага і іншыя. За пастаноўкі «Канстанцін Заслонаў» і «Пяюць жаваранкі» рэжысёр быў двойчы ўдастоены Дзяржаўнай прэміі СССР. Асабліва ўдаваліся спектаклі, якія ён ставіў па п'есах беларускіх аўтараў. Канстанцін Мікалаевіч добра ведаў нацыянальныя характары, адчуваў паэзію народнага жыцця.

«Якая гэта далікатная, радасная і пакутлівая работа, калі рэжысёр, асабліва такі няўрымслівы і ўпарты, якім быў Канстанцін Мікалаевіч, сядзіць побач з драматургам і гаворыць: «Тут не тое... Тут не так... А гэта трэба перапісаць...» Сваім энтузіязмам, верай у поспех Саннікаў захапляў пісьменніка. І нас, артыстаў. Многія купалаўцы, даведаўшыся, што Саннікаў сказаў камусьці з літаратараў: «Напішы, калі ласка!», ведалі, што ў рэпертуары з'явіцца новая п'еса, што перад трупай будуць пастаўлены цікавыя і актуальныя творчыя задачы»,— чытаем мы ва ўспамінах Уладзіміра Дзядзюшкі.

Апошнія гады жыцця Канстанцін Мікалаевіч цалкам прысвяціў выхаванню творчай моладзі. Яго педагагічная дзейнасць арганічна вырасла з рэжысёрскай працы, стала яе працягам і завяршэннем. Ён хацеў усе назапашаны за доўгае творчае жыццё веды перадаць акцёрам і рэжысёрам. Веданне і разуменне таямніц акцёрскага майстэрства, беражлівыя адносіны да акцёрскай індывідуальнасці, рэдкі педагагічны дар дапамаглі яму выхаваць многіх таленавітых акцёраў.

«Канстанцін Мікалаевіч для мяне і маіх сакурснікаў — самы галоўны чалавек у жыцці. Самы светлы. І вельмі дарагі,— успамінае народны артыст СССР Віктар Тарасаў.— Ён быў акцёр усім сваім нутром, усім сваім жыццём. Нават з выгляду ён быў артыстычны. Заўсёды жвавы і, я б сказаў, трошкі экзальтаваны, хоць і стомлены, у сталым узросце, ён нязменна быў у добрай творчай форме. Канстанцін Мікалаевіч умеў абуджаць у акцёра яго творчую энергію, захапляць звышзадачай драматычнага твора. Быў вельмі патрабавальным. Патрабаваў не шкадаваць сябе, працаваць многа, быць праўдзівым, сцэнічна выразным. Мой Настаўнік падкрэсліваў, што на сцэне нічога нельга рабіць «увогуле», а шукаць, спрабаваць трэба, толькі зыходзячы з сутнасці вобраза. А вызначыць гэтую сутнасць, трапна і канкрэтна яе раскрыць, своечасова падказаць, як варта дзейнічаць менавіта гэтаму акцёру ў гэтай ролі, Канстанцін Мікалаевіч умеў бліскуча. На рэпетыцыі ён гаварыў мала, больш за ўсё падказваў, зрэдку паказваў сам. Гэты выключны чалавек валодаў яшчэ адной рэдкай якасцю — умеў атрымліваць асалоду ад самога працэсу творчасці...»

Усё жыццё Канстанціна Мікалаевіча Саннікава стала пацвярджэннем бальзакаўскага тэзіса аб тым, што нястомная праца з'яўляецца законам мастацтва, як і жыцця наогул.

**Вераніка КОЗЕЛ.**



Барысу САЧАНКУ — 50

# ПАМЯЦЬ ДАРОГІ

**Багата чым спадарожнікам выпала быць мне на тваім лёткім шляху Мінск — Хойнікі, дарога Радзімы. Чалавечыя лёсы адстуквалі коламі, адкрываліся душы — франтавікоў, партызан... тых людзей, каму лапік майго Палесся бясконца дораг. Адны акрапілі крывёй яго волю, другія працаю рук далі яму сілу. Людзі, лёсы... На дарозе, якая, як ніводная іншая, бяжыць ім насустрач.**

**«Як Антэй, дакрануўшыся маці-Зямлі, набіраўся новых сіл, так і я, наведаўшы родныя мясціны, гаюся, на доўгі час пазбаўляюся сноў... Сноў свайго трывожнага, абпаленага нягодамі вайны маленства». Яна свая, памяць гэтай дарогі, у Барыса Іванавіча Сачанкі. Так распарадзіўся лёс: багата разоў мне выпадала быць спадарожнікам вядомага ў рэспубліцы пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР.**

## ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

...Я загарнуў кнігу. За акном аўтобуса, узятыя вечаровым суцемкам, мільгалі пракаветныя сосны — блізка, паўз самы асфальт. Гэта быў трэці раман з трылогіі пісьменніка, які зусім няподаўна выйшаў у свет і якім выпала якраз скараціць гадзіны дарогі. Ужо, калі аўтобус выехаў з Рэчыцы, адкрылася раптам: неўзабаве гэтая дарога «дасць нырца» ў вялікі лес.

Героі трылогіі, жывучы зараз у маім уяўленні, уступаліся пад знаёмыя шаты. Памяць уражліва выхоплівала іх галасы. Мільгалі наўзбоч вёсачкі, светла, шыферам дахаў, і зноў пад кронамі дрэў развіналасябегла дарога. Быццам інакшым, зведаным на старонках кнігі жыццём, жыло тутэйшае наваколле. Адусюль, здавалася, пазірае вайна. Далягляд кнігі зліваўся перад вачамі з рэальнасцю: сіняе, у лёгкіх аблоках неба над лесам. І мо ад таго сполашна, непазбыта перакідаўся на яго вячорнія далечы гэты мройны «палон былога». Увачавідкі, здаецца, бачылася тое, што столькі гадоў тут дзеялася. І нейк густа, агніста выблiснула над хмурымі кучомкамі лясістага далягляду вячорняя барва.

Непадалёк ад гэтай дарогі, наўпрост па лясістых балацінах, па супесках-выспах затоена ў садах і ацалелых соснах разбеглася раскідзістая хатамі вёсачка на расцярэбе. З назвай, што як сама жывіца дыхае — Вялікі Бор. Па даўняму паданню заснавалі яе запарожскія казакі, якія знайшлі тут, паміж непраходных балот, незапамятна калі паратунак. Багата з памяці сцерлася. Ды гэтаму прамое сведчанне — круты паляшуцкі характар, з якім умелі пастаяць за сваю годнасць заўсёды. Ды многія сказы пра дзівацтвы велікаборцаў, у якіх багата было язычніцкага наіву.

У творчасці Барыса Сачанкі пяшчотна, любоўна паўстае малая радзіма, паўстае адметным, агромністым светам. У кожнай сваёй кнізе не, не дый зноў збочыць пісьменнік на палескую сцежку, вернецца сюды, адкуль «дарога ішла праз лес». Ішла — да людзей.

Па гэтай дарозе «праз лес» выйшлі сягоння да чытача героі Сачанкі-празаіка, каб сказаць сваё, поўнае гістарычнага драматызму слова пра сябе, а ў еднасці сваёй — пра народ. Іх лёсы сапраўды скрушныя, бо апалены самым ахвярным ліхалеццем — вайной, якая прайшлася тут помна, падзейна, сцёршы шмат якія вёсачкі з твару зямлі, асабліва падкрэсліўшы гэтым родавую сутнасць прапраўнукаў вольналюбівай сечы, палешукоў.

У адной з падобных, спаленых вайной вёсак — на папялішчы Вялікага Бору — сцерлася людская памяць пра дзень нараджэння хлапчука. (Колькі таму прыкладаў у вайны!) За клопатамі вёска заўсёды не памятала такіх дзён, бо народжаны ў ёй чалавек «абзываўся» ў жыцці не першым сваім крыкам. Народжаны на жытнішчы або бульбянішчы, ён прыглядваўся вёсцы падросшы, першым сваім мазалём прыглядваўся, тым голасам павечнай работы, для чаго і прыходзіў пад неба. А дзень нараджэння? Яго святасць падкрэслівалася ў вуснах вёскі наступным: на Аляксея, на Юр'я, на Міколу...

У сваёй аўтабіяграфіі пісьменнік з горыччу прызнаецца, што яго дзень нараджэння, праз гады, абраны самім ім. Вёска памятала адзін толькі год...

Так... На гэтай палескай дарозе не хапала цікаўнасці голасу, каб запытацца ў пісьменніка, чаму менавіта на выбар некалі яму, хлапчуку, упадобілася вясна, яе 15 мая?! Магу здагадвацца толькі, што выбар гэты — невыпадковы, і ў чалавечым лёсе пісьменніка шмат чым пазначаны. Ён, гэты дзень, увайшоў у лёс хлапчука перш за ўсё Перамогай, дорачы яго спакутаванаму сэрцу светлую магчымасць — наноў, з рабства, паўстаць на ўвесь рост пад небам Радзімы. Уваскрэснуць на папялішчы тае хаты, дзе крык немаўляці пачуўся.

З гэтай «недакладнасці» з днём нараджэння выразна паўстае сягоння дакладнасць нараджэння ў беларускай літаратуры таго пакалення, да якога належыць Барыс Сачанка, як адзін з самых таленавітых яго галасоў, і пра якое гаворыцца: «апаленае вайной з маленства...»

Ёсць у гэтым светлым майскім дні і скруха першае ростані з родным Палессем. Прыхавалася глыбака, помна. Балесная, поўная суму і горкай дзіцячай слязы дарога выгнання. Мо там, у Нямеччыне, памяць засціла белым яблыневым цветам жахлівае чорнае папялішча ўсяго Вялікага Бору, студзіла-гасіла трывожна чутыя воклічы на дарозе смерці, якой гналі яго жыхароў да бліжэйшай станцыі Аўрамаўская, а потым — у Васілевічы, дзе білася над натоўпам крыло пагрозы — расстраляюць, і дзе згусцілася, як хмарная ноч, трывога прадчутага рабства: «У Нямеччыну гоняць!»

На станцыі Аўрамаўская, дзе паабапал каляі жалезкі ціхмяны пастой страявых соснаў, дзе небагата вагонаў і сягоння перастуквае коламі, нейк выразна ўявілася гэтае, знанае з «Чужога неба» Барыса Сачанкі — жахлівае відовішча з далёкага 43-га. Колькі іх, такіх вось станцый — болевых кропак на карце беларускай гісторыі?! Не ўсе яны сягоння адкрытыя свету, некаторыя выстынуць, страцяцца ў часе голасам астатняга сведкі. Толькі не страціцца, не выстыне ў сэрцы чалавечым уся скрушная праўда пра іх скразны боль. Не адно сэрца пісьменніцкае — на паразе жыцця — зведала гэты жах, з дакладнай праўдай пачуццяў, нязмушана запаліла-пазначыла трапяткі агеньчык неастуднага ў веях часу болю.

Маленькая лясная станцыя. Прыпынак... Пачатак дарогі. Смалістым, церпкім настоем некранутага сякерай камлюкаватага бору займае дых. Тут, роздумна ідучы сцежкамі творчасці празаіка, адкрываеш для сябе тое, што дзень яго нараджэння ў літаратуры — першая спроба пяра — у повязі з гэтай канкрэтыкай матэрыялу. 1943-ці... За спінай — спаленая вёска. Адышоўшыся ў часе, адступіўся дзень жаху, слёз, бяды. Пякучая, як жар, не астылая ў гадах памяць. Уся да драбніц, сцінаючы дыханне, падступаецца яна зноў і зноў да сэрца, каб легчы крывавым пасведчаннем аб нараджэнні, жыцці. Першыя творы празаіка няхай яшчэ і сціраржка, ды ўсё ж прачула, падбіраюцца да «сваёй тэмы». Іх голас пакуль што спудлівы, як і само перажытае. Але пачуты голас. Ранняя сталасць пазначае яго ўдумна засяроджаную сілу. Малады празаік вельмі зарана спасцігае ісціну: толькі перажытае, спазнанае — вартае голасу. Падасца, што лёгка ад дасканалага ведання матэрыялу твараліся «Апошнія і першыя» або «Чужое неба». Аднак большага цяжару для душы няма, як гэтае, зведанае.

Сымон Гарапашка (нашчадак вольналюбівага казака Гарапашкі) — маленькі выгнаннік спапялёнай Бароўкі, магчыма, астатняе яе дзіця. Чуйным дзіцячым сэрцам свайго героя з «Чужога неба» збірае пісьменнік парасткі дабрыні чалавечай, тыя, няхай кволыя яшчэ, водбліскі надзеі, якія скажуць, што вяртанне на папялішча адбудзецца.

На гэтым этапе творчасці адным са значных набыткаў празаіка вылучаецца ранейшая па напісанні за «Чужое неба» аповесць «Апошнія і першыя». Яна, здагадваемся, багата чым папярэднічала раману ў навелах, як шырокай, падзейнай кнізе. У «Апошніх і першых» Барыс Сачанка апісвае апошні дзень тае ж Бароўкі ў ланцугу ўсіх спазнаных ёю ваенных падзей. Засяродзіўшы ўвагу на трагедыі вёскі (сягоння — «хатынскай» тэме), празаік, адзначым, адным з першых

у літаратуры па-сапраўднаму глыбока ўзняў самы творча ўвекавечаны сягоння пласт вайны. І багата такі лёсавага, свайго паўстае з твора пра трагедыю Бароўкі, што і сягоння, чытаючы яго, даходзіш да саміх маральных вытокаў такой літаратуры, яе галоўнага права — тварыць праўду пачуццяў.

Аднак Палессе Барыса Сачанкі — увасобленае творча — у мастацкай палітры не звужана да адной усяго ваеннай тэматыкі. Памяць аб вайне пазначае маральныя крытэрыі чалавечай душы, скажам, і тады, калі дзеянне твора адбываецца ў пасляваенным часе. Вабіць празаіка і дзівосна-казачны, не растрачаны ў стагоддзях, свет Палесся, той мацярык, які этнаграфічна адрозна паўстае перад чытачом. З асаблівай мастацкай выразнасцю акрэслілася гэта ў кнігах прозы «Памяць» і «Ваўчыца з чортавай ямы», дзе чуйна раскрываюцца чалавечыя душы перад мудрым светам прыроды, а многае, чым жывуць яны, толькі ёй, прыродай, падаравана.

...Сягоння пра Палессе створаны Барысам Сачанкам эпічны твор — трылогія «Вялікі Лес», тая кніга, да якой ішоў пісьменнік многімі жыццёвымі вёрстамі. Біяграфічныя моманты праглядваюцца ў ёй пэўнымі пазнакамі азмрочанага дзяцінства, а галоўную ношу чалавечых клапот нясуць простыя сумленныя людзі, і іх зямное бытаванне ўступае ў вялікую стыхію вайны, лёсы іх адрозныя. Сумленне пісьменніка — за тых, хто годна выстаяў.

### ТРОХІ З ВАНДРОВАК

Значымасць пісьменніцкай творчасці непасрэдна пераклікаецца з яго асобай, тымі клопатамі, якімі жыве пісьменнік, наш сучаснік. З маленькай палескай вёсачкі Барысу Сачанку абсяжна, шырока адкрыўся свет, у якім яго слова і яго грамадская дзейнасць непадзельна зліліся. На пасадзе сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў БССР прыбыло ў пісьменніка менавіта такіх клопатаў: прадстаўляць літаратуру за межамі рэспублікі і краіны, прадстаўляць яе на сустрэчах з беларускім чытачом. Глыбока і дасведчана, захоплены сапраўднымі поспехамі літаратуры, гаворыць Барыс Сачанка пра яе развіццё і творчы плён з кожнай трыбуны.

Ды ўсё ж у мнагастайнасці сягонняшніх вандровак пісьменніка не затравела, не згубілася сцежка на Палессе. А часта толькі сюды кліча здарожаны дзень, каб даць магчымасць тут, на ўзбочцы прагрэсу, ціхмяна задумацца перад новай дарогай, шчымотна пачуць душой роднае, сваё.

Гэтак было і ў той пагодны верасень 1981-га. Узнікла ў душы Барыса Іванавіча гэткая жаданая патрэба — пераведаць свой Вялікі Бор. З раніцы, яшчэ мокрай, сутонлівай дарогай, рушылі. Барыс Іванавіч, жартаўнік і гаварун, мала абзываўся словам. Яго вабіла ўсё, што страката мігцела наўзбоч доўгага, у некалькі гадзін шляху. Восень рупілася на палях клопатамі хлебароба. Яшчэ не заворыныя жытнішчы страката мігцелі пожняй, у жаўцяных, свежых сціртах саломы. Праз некалькі дзён, я ведаў, у пісьменніка новая дарога. На гэты раз — за акіян, у Злучаныя Штаты, на XXXV сесію Генеральнай Асамблеі ААН. Ды вось, перад гэтай дарогай радзіма паклікала.

Паездка за мяжу мелася доўжыцца каля трох месяцаў, і сэрцу не дало знудзіцца спатольнае святло Палесся. У хаце, калі ўжо развіталіся, вочы маці, блакітныя, светлыя, наліліся сумам. Пэўна, багата прыгадалася Веры Міхайлаўне ў гэтыя хвілі. Мацярынскаму сэрцу нялёгка праводзіць сыноў у такія дарогі. Адтуль, з-за акіяна, плыла над светам трывога, спудліва кранала крылом чуйную, не выстылую ў бядотах сваіх палешуцкую памяць. Пастаяў Барыс Іванавіч над бацькавай магілай пад соснамі на вясковых кладах. І ўжо на зваротным шляху ў Мінск зноў-такі задумліва, ціха ўзіраўся — болей і болей душой прыпадаючы да гэтай пагодна́й вераснёвае далі. Гаварыць пра гэтую, на сугрэве мірнага сонца, зямлю, памятаючы, якой вялікай цаны дзень па-над ёй, прыкута лёсам да болю зямлі сваёй гаварыць. Ці не такой рупнасцю жыў кожны раз, за пяро беручыся?

...Ужо мякка снегам ступала зіма, калі зноў Палессе пазвала ў дарогу. Яно клікала зараз святліста і сумна — памяццю таго са сваіх сыноў, хто сэрцам сагрэў сцежкі яго пакручастае долі,— памяццю Івана Мележа. У Глінішчах, на радзіме пісьменніка, адкрываўся літаратурны музей.

У дарозе думалася пра тое, што ёсць у беларускае літаратуры ўдзячныя чытачы. Адным з першых такіх мележаўскіх чытачоў быў Аляксей Мікалаевіч Сцепаненка, які тады працаваў другім сакратаром Хойніцкага райкома партыі. Паляшук, ён вырас на праслаўленай Мележам палескай зямлі, у маладыя гады стаў кіраўніком раёна, багата вучыўся ў пісьменніка Апейкавай мудрасці. Як чалавек малады, энергічны, захапіўся ідэяй стварыць мележаўскі літаратурны музей. У Сцепаненкі знайшлося шмат аднадумцаў — на геаграфічных абсягах «Палескай хронікі». Лепшыя навасёлкаўскія цеслі ўзводзілі пасярод Глінішчаў зруб.

Барысу Іванавічу на правах земляка і сябра Івана Паўлавіча Мележа выпала адкрыць гэты музей. Таго пажадалі ў Хойніках, ведаючы яго як таленавітага прадаўжальніка мележаўскай справы — пісаць роднае Палессе. Чыталіся якраз у Хойніках першыя кнігі «Вялікага Лесу», дакладны адрас у іх — свае вее. Дый, наогул, Барыс Іванавіч заўсёды цікавіцца клопатамі землякоў. Не з тых ён, чыя дарога шпарка бяжыць міма іхніх патрэб.

Дарога была з перамётамі. Быццам сама зіма гаварыла веямі снежнымі: колькі не давершана Мележам...

Яшчэ раз, блізка-блізка, падступілася да сэрца зямля палеская ў гэтай вандроўцы.

...І гэтая вясна зноў-такі раньш прыйшла на Палессе. Пад матчынымі вокнамі цветам захліпаюцца яблыні. Зноў у галавах дарогі — чыстае, выкупанае ў росах — паднялося сонца. Яно мякка ступае абсягамі насустрач, ідзе смуглымі вёрстамі зямлі. І яна, зямля прод-каў, гукае неспатольна, гукае даць новаму слову крылы.

**Мікола МЯТЛІЦКІ.**

*Ніне ТАРАС* — **70**



# НЕПАЎТОРНЫ, САРДЭЧНЫ НАПЕЎ

**Шумелі, шумелі бярозанькі ў гаю**
**Удзень і ўначы.**
**У іх я пра шчасце сваё запытаю,**
**Удаль ідучы.**
**Скажыце, ёсць многа дарог**
**і сцяжынак**
**Між ніў і гаёў,—**
**Якою сягоння ісці я павінна**
**Па шчасце сваё!**

Гэткімі хвалюючымі пытаннямі поўніцца любая маладосць. Але тая маладосць, ад імя якой гаварыла свае словы паэтэса Ніна Тарас, мае канкрэтны адрас і пазначана сваім часам.

Лясы і пералескі, палеткі, засеяныя жытам, вербы, схіленыя над змейкаю-рачулкаю Ятранкай, далёкая і блізкая песня, што напльвае з наваколля. А калі падыдзеш бліжэй, палыхне ў вачах жывая, дыяментавая сляза Свіцязі. Родная зямля, што падарыла шчымліва-чысты, крынічна-звонкі голас беларускай паэтэсе Ніне Тарас.

Тут, наглядаючы ў маленстве за статкам, дзяўчынка пляла вянкі з жытнёвых васількоў, спявала мілагучныя, родныя сэрцу песні і марыла, марыла. Ці то ад мар-летуценняў, ці то ад звону крынічнага і шэпту залатых каласоў папрасіліся з душы словы, якія сталі вершам. Верш быў пра сваё, пра сябе — «Пастушка».

Складала радкі пастушка пра рэчку, пра лес, птушак. Бацька надзвычай радаваўся першым літаратурным спробам дачкі і аднойчы сказаў: «Ты нікога не слухай, а толькі мяне, і я цябе навучу, як пісаць вершы па-сапраўднаму».

Ён узяў дачку за руку і павёў на самую высокую гару ў наваколлі — Грамбалаву. З яе вяршыні адкрываўся цудоўны краявід родных і дарагіх мясцін — лясы, палі, рэчка Ятранка, у зеляніне схавалася роднае сяло Заполле. «Вось пра гэта і пішы, а яшчэ пра людзей»,— сказаў бацька.

Уся творчасць Ніны Тарас, пачынаючы з яе перадваеннай кніжкі «На Усход ідучы» (1940) і заканчваючы апошняй «Праметэю прыйду пакланіцца» (1981),— пра людзей і для людзей.

Пра людзей былой Заходняй Беларусі, якія сваім змаганнем, упартай барацьбой наблізілі свята ўз'яднання ў верасні 1939 года і «знайшлі і песню, і долю ў краі, на Ўсход ідучы». Пра змагароў, якія, узяўшы зброю ў рукі, баранілі родны край ад фашысцкай навалы. Сярод гэтых змагароў была і сама паэтэса. Яна наладзіла сувязь са спецгрупай партызанскай брыгады імя Кірава. У хаце яе сустракаліся партызаны. Неаднойчы тут хаваліся падпольшчыкі Валянцін Таўлай, Іван Кашпар, Фама Жук і іншыя. Дом Ніны Тарас у часе вайны згарэў. Сталі попелам і рукапісы, і рэдкія кнігі, і многія каштоўныя матэрыялы.

У пасляваенны час у Ніны Тарас выходзяць кнігі «Суніцы» (1946), «Вершы» (1952), «Казкі пра абавязкі» (1955), «Кветка шчасця» (1958), «Пад белым яварам» (1966), «Наш бор» (1968), «У тапаліную замець» (1976), «Праметэю прыйду пакланіцца» (1981) у серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі». Тэматыка вершаў у гэтых кніжках надзвычай шырокая і разнастайная. Пераважае тэма Радзімы і тэма працоўнага чалавека.

**Зямля мая, яна жывая,**
**З пражылкамі блакітных рэк,**
**Яна жыццё ў сабе хавае,**
**Якое не замрэ павек...**

У прадмове да зборніка Ніны Тарас «Кветка шчасця» народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль пісаў: «І таму сёння, гаворачы пра суровую і мужную паэзію былой Заходняй Беларусі, называючы імёны тых, чыя песня то біла арлiным крылом па кратах панскіх астрогаў, то горда лунала ў вольным палёце, набіраючы вышыню, мы называем і імя Ніны Тарас, прыгадваем яе крынічна-чыстую і звонкую песню».

**О, песні мае, на прыволле**
**Па свеце шырокім плывіце,**
**Павісніце хмарай над полем,**
**Людзей ад бяды засланіце.**

**Галіна БАРЫСАВА.**

«ЭКРАН»

# ХАТЫНІ ЗАКЛІНАЮЦЬ

**Пра фільм Э. Клімава і А. Адамовіча «Ідзі і глядзі»**

Гэты кінатвор прыкаваў да сябе ўвагу задоўга да таго, як выйшаў на шырокі экран. Пра здымкі фільма пісалі многія газеты, да аўтараў звярталіся карэспандэнты радыё і тэлебачання. Праз некалькі месяцаў пасля грамадскіх праглядаў яму быў прысуджаны Залаты прыз на XIV Маскоўскім Міжнародным кінафестывалі, прыз Міжнароднай федэрацыі прэсы (а пасля — прэмія на кінафестывалі ў Партугаліі). Ён быў прадметам дыскусій на творчых сустрэчах, у кінаклубах і кінауніверсітэтах. Памятаю, якая незвычайная атмасфера панавала ў зале мінскага кінатэатра «Кастрычнік», дзе мінулагоднім летам адбылася прэм'ера дылогіі «Ідзі і глядзі» вытворчасці студый «Беларусьфільм» і «Масфільм». Пісьменнік і аўтар сцэнарыя Алесь Адамовіч, яго сааўтар рэжысёр-пастаноўшчык Элем Клімаў гаварылі шчыра і ўсхвалявана, падкрэсліваючы, што стваралі не проста «чарговы фільм» аб Вялікай Айчыннай вайне, а ставілі перад сабой больш складаныя задачы: на фактах мінулага сказаць пра вельмі важныя праблемы нашага часу. І сказаць так, каб было далёка чутна. Таму неабходна было ў паказе злачынстваў, якія чынілі фашысцкія акупанты на беларускай зямлі, дасягнуць гранічнай дакладнасці, «поўнай праўды»... Пры дасягненні такой мэты непазбежна адкрыецца, што, ажыццяўляючы генацыд у адносінах да савецкіх людзей, нацысты і тыя, хто іх узгадаваў і ўзброіў, мелі на ўвазе злачынствы яшчэ большых маштабаў: гаворачы словамі А. Адамовіча, у Хатынях рэпеціравалася Хірасіма...

Фільм нараджаўся на аснове «Хатынскай аповесці» Алеся Адамовіча, а выйшаў далёка за яе межы. У ім — напамінак і перасцярога.

Праз трагедыю адной вёскі, кругі пекла, якія прайшлі Флёра, Глаша, іншыя героі карціны, паказана трагедыя народа, рэспублікі, усёй нашай краіны. Паказана так, быццам ты сам перажыў гэты кашмар. На экране — нібы біблейскі апакаліпсіс, толькі ўчынілі яго на зямлі тыя, хто лічаць сябе цывілізаванымі людзьмі. Пра такое, на думку аўтараў, нельга гаварыць літасціва. Жорсткасць стылістыкі, падкрэслівалі стваральнікі фільма, дыктавалася самім жыццёвым матэрыялам, той самай праўдай, якая павінна быць перасцярогай на будучае. Хатыні заклінаюць пакаленні, народы не забывацца, на што здольныя злачынныя сілы, узброеныя чалавеканенавісніцкай ідэалогіяй.

Філасофскі змест фільма «Ідзі і глядзі» — шматмерны, ён не зводзіцца да зафіксаванага ў сцэнах, эпізодах і кадрах. Думка аўтараў узнімаецца да многіх сучасных праблем. Структура твора таксама шматслаёвая, сюжэт — не акрэслены адной-дзвюма лініямі. Звычайна, пры такіх акалічнасцях фільмы губляюць у мастацкай цэласнасці, вобразнасці адлюстравання. Дылогія «Ідзі і глядзі» — твор па-мастацку завершаны, унутрана цэласны. Гэтае трагедыйнае апавяданне па грамадзянскаму пафасу, эмацыянальнай сіле і вобразнасці можна параўнаць з манументальнымі фрэскамі ў жывапісе.

Цэнтральнае месца на трагічным экранным палатне займаюць эпізоды падрыхтоўкі і ажыццяўлення злачынства (падрабязнасці «акцыі»). Неаднойчы паказвалася ў кіно, як фашысцкія акупанты і іх паслугачы забівалі савецкіх ваеннапалонных, партызан, мірных жыхароў. Але да фільма «Ідзі і глядзі», бадай, ніколі мы не бачылі такога жудаснага відовішча — масавага забойства як загадзя спланаванага, дакладна пастаўленага крывавага спектакля. Карнікі акружылі вёску аўтагрузавікамі і кулямётамі, выстраілі аўтаматчыкаў і салдат з аўчаркамі, пад бадзёрую музыку пайшлі выганяць людзей з хат і заганяць іх у свіран. Усё было прадумана да драбязей, нават месцы падпальвання вызначаны. Афіцэры і салдаты — ажыўленыя, фатаграфуюцца (толькі зрэдку кінакамера на імгненне выхапіць разгублены позірк). Для іх, па ўсім відаць, звыклая работа... А фонам да ўсяго гэтага, як здзек ашалелых забойцаў,— мелодыя «Карабейнікаў» (яна гучыць з радыёрубкі аднаго з грузавікоў). У гэтай самай жудаснай частцы дылогіі майстэрства рэжысёра Элема Клімава і апаратара Аляксея Радыёнава асабліва відавочнае.

Глядзець жудасна, але аўтары настойваюць: глядзіце, каб не забываліся, што такое фашызм, што робяць агрэсары і ў наш час у розных краінах свету, поўніцеся справядлівым гневам і дзейнічайце, каб падобнае не паўтаралася... Трывожна-шчымлівая інтанацыя, якая суправаджае тэму кахання Глашы і абуджэння пачуцця ў Флёры, пашырае трагічнае поле фільма (самае светлае ў чалавеку ганьбіць, забівае грубая, бесчалавечная сіла) і адначасова сведчыць, што «жорсткаму» таленту рэжысёра Клімава зусім не супрацьпаказаны лірызм, душэўная далікатнасць. Толькі ў дадзеным выпадку ён не мог сабе дазволіць творчую «раскошу» развіваць гэту тэму далей...

Пастаноўшчык — майстар псіхалагічнай распрацоўкі характараў. У дылогіі ён дамогся ад школьніка Алёшы Краўчанкі, які дагэтуль нават ніколі не быў на здымачнай пляцоўцы, проста неверагоднага — суперажывання, саўдзелу ў цяжкім лёсе свайго аднагодка з вогненных 40-х... І тое, што даведзены да адчаю Флёра не пераўтвараецца ў азвярэлага мсціўца,— праўда не толькі мастацкая: савецкія людзі, праяўляючы мужнасць і гераізм, перажыўшы неймаверныя выпрабаванні,— заставаліся людзьмі. Для аўтараў было прынцыпова важна данесці гэта да нас. І не толькі праз лёс Флёры Гайшуна.

У савецкім і сусветным кіно — нямала фільмаў антыфашысцкіх і антываенных. Вялікі ўклад у гэты здабытак унеслі беларускія кінематаграфісты. Адлюстраванне патрыятызму і гераізму, трагедыі і подзвігу савецкага народа ў вызваленчай вайне — магістральная тэма ўсяго нашага мастацтва. Аповесці В. Быкава, жывапісныя палотны М. Савіцкага, дакументальныя кнігі «Я з вогненнай вёскі...» А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка, «У вайны — не жаночы твар...» С. Алексіевіч, аднайменныя цыклы дакументальных фільмаў рэжысёра В. Дашука — найбольш адметныя з'явы на гэтым накірунку творчасці. Кінадылогія «Ідзі і глядзі» А. Адамовіча і Э. Клімава ўвабрала ў свой поліфанічны змест найбольш высокі сучасны ідэйна-філасофскі ўзровень асэнсавання невычэрпнай тэмы, тую агаленую праўду, да якой падышлі літаратары, мастакі і кінематаграфісты. Увабрала і пашырыла яе, звярнула да чалавецтва. Новая карціна — не звычайная з'ява ў мастацкай культуры. Крытыкі справядліва не знаходзяць ёй аналагаў у сусветным кінематографе. Самі аўтары, у прыватнасці, рэжысёр Э. Клімаў і аператар А. Радыёнаў, прызнаюцца, што работа над фільмам «Ідзі і глядзі» стала паваротным момантам у іх творчасці (гутарка карэспандэнта «Праўды» кінакрытыка Г. Капралава з рэжысёрам-пастаноўшчыкам не выпадкова называецца «Фільмы мяняюць нас», 20 студзеня 1986 года).

«Ідзі і глядзі» — кінатвор, не разлічаны на лёгкае ўспрыманне яго зместу, стылістыкі. Аўтары не шкадуюць нашых нерваў і пачуццяў. Іншы раз нават хочацца крыкнуць: злітуйцеся!.. А потым разумееш: а як жа інакш можна было паказаць такое? Фільм звернуты да сумлення, розуму, пачуццяў, ён заклікае памятаць, што на зямлі было і ёсць страшэннае зло, якое трэба судзіць судом усяго чалавецтва. Як героі фільма — партызаны ў фінале ідуць працягваць змагацца супраць фашысцкіх забойцаў, так усе людзі добрай волі павінны з'яднацца і адвесці небяспеку сусветнага пажару.

— Амерыканцы робяць «Рэмбо» і іншыя падобныя баевікі, каб навучыць забіваць, мы рабілі фільм, каб людзі не хацелі забіваць,— гэтыя словы я пачула на сустрэчы Алеся Адамовіча з наведвальнікамі кінауніверсітэта ў Рэспубліканскім Доме кіно.

Праклён вайне, заклік не дапусціць атамнай катастрофы гучаць у дылогіі «Ідзі і глядзі» з такой сілай, што іх нельга не пачуць.

**Ефрасіння БОНДАРАВА,**
**доктар філалагічных навук.**

**Цэнтральнае месца займае ў фільме «акцыя» — забойства карнікамі жыхароў беларускай вёскі.**

**У ролі Флёры — Алёша Краўчанка.**

**Фота Яўгена КОКТЫША.**





Ролю Лецечкі выконвае мінскі школьнік Міша Гілевіч.

Фота Аляксандра ДЗМІТРЫЕВА.



Малюнкі Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

# НІЧОГА, АПРОЧ ПРАЎДЫ

**Пра тэлефільм В. Рыбарава «Сведка» па матывах аповесці В. Казько «Судны дзень»**

— *Праўду хачу ведаць!*
— *Кажу толькі праўду!*
— *Душа дрыжыць па праўдзе...*

Варта яму гэта сказаць, як — вось дзіўная справа! — разумееш: ды ён жа нібыта не з гэтага свету. Хто ж ён і адкуль? Спачатку ён і сам таго не ведае. Ну а прозвішча Лецечка азначае: знайшлі яго ўлетку...

Вузкая палоска святла рассоўвае цемру экрана. Прачыняюцца дзверы, у іх праёме — твар дзіцяці. Гэта ён, герой фільма, сведка. У чым жа яго праўда?

Маленства — заўсёды першаадкрыццё. Мы ведаем, куды вядзе дарожка за прачыненымі дзвярамі, калі напачатку — бацькоўская ласка і блакіт высокага чыстага неба. Ну а калі жорсткасць чужака і неба, зацягнутае смуродным дымам? Калі дула аўтамата перад вачамі, а потым — груда скрываўленых цел, сярод якіх — бацька і маці? Як перажыць гэта?

Пытанні, пытанні... Ды, аказваецца, ён нам адразу цікавы, гэты маленькі праўдалюб!

Вялікі мастак мінулага не мог прызнаць гарманічнай такую грамадскую будову, на шляху да якой — хоць бы адна слязінка нявіннага дзіцяці.





Кінарэжысёр Валерый Рыбараў. На другім плане аператар фільма Фелікс Кучар. Фота аўтара.

Што там слёзы... У гады апошняй вайны фашысты наладжвалі ў захопленай Беларусі «новы парадак» на крыві. На крыві мільёнаў нявінных. І вельмі часта — дзяцей. Вось і з Лецечкі яе ў літаральным сэнсе выцэджвалі, каб пераліць параненым гітлераўцам.

*Ведаць праўду...*

У фільме ёсць пякучая праўда вайны, якую мы бачым вачамі дзіцяці. Але калі глядзець на работу В. Рыбарава толькі з гэтага боку, то яна адразу трапляе ў цень карціны Э. Клімава і А. Адамовіча «Ідзі і глядзі». Тэматычная блізкасць у наяўнасці: героі абодвух фільмаў — дзеці, якія праходзяць кругі нацысцкага пекла. Гараць іх родныя дамы, гінуць бацькі, аднавяскоўцы... А ўсё ж фільмы гэтыя — розныя. З вядомай доляй спрашчэння скажам так: Рыбараў

вырашае другую частку адзінай мастацкай задачы — ён пачынае здымкі там, дзе Клімаў іх закончыў.

У апошніх кадрах «Ідзі і глядзі» перад намі падлетак Флёра з тварам старога. Ну, а як жа ён, перажыўшы **такое**, будзе жыць далей? Ці зможа несці па жыцці страшэнны груз сваёй памяці, калі скончыцца вайна?

У фільме «Сведка» — пасляваенны беларускі гарадок, дзіцячы дом і ў ім — Лецечка. Ён выжыў. Пра яго клапоціцца дзяржава. Здавалася б, цяпер яму толькі і выпрастацца ва ўвесь рост, дыхаць поўнымі грудзьмі ды жыць за сябе і за загінуўшых блізкіх. Але...

*«...Кажу праўду!»*

Словы Лецечкі — як прысяга сведкі на судзе. І суд у ціхім гарадку сапраўды пачынаецца. Судзяць здраднікаў-паліцэйскіх. Заўважым, што тэма такога суда ўжо нядрэнна даследавана сродкамі дакументальнага і мастацкага кіно. Фільм Рыбарава тут не робіць істотных адкрыццяў, але ставіць нечаканае пытанне: чаму здраднікамі і забойцамі нярэдка становяцца тыя, у каго для гэтага, як быццам, няма ніякай прычыны? Вось, скажам, 16-гадовы Хацкевіч, у якога, як і ў астатніх, быў рэальны прататып. Да вайны добры вучань, сын бацькоў, якім грэх крыўдаваць на Савецкую ўладу. Здавалася б, прамая дарога яму ў партызаны, атрад якіх быў побач з вёскай, а ён без усякага прымусу запісаўся ў карны батальён СС. Пасля чаго еў, піў, спаў і забіваў, забіваў... Праўда, яшчэ пілаваў дровы. Для разрадкі.

Здрадніцтва гэта? Або штосьці іншае? Бо каб здрадзіць сваёй зямлі, свайму народу, трэба для пачатку гэта святое пачуццё — пачуццё Радзімы — мець за душой. А ці было яно ў хацкевічаў? Ці была сама душа? Магчыма, усяму віной менавіта бездухоўнасць?..

Зверствы карнікаў паказаны ў фільме праз успаміны Лецечкі. Толькі ўсё ж не ён выступае сведкам на гэтым канкрэтным судзе. Тут бяруць слова дарослыя, у іх дастаткова неабвержных доказаў злачынстваў, за якія — гэта ясна адразу — не будзе даравання. Але суд працягваецца, ідзе няспешна, па законах мірнага часу, і праходзіць наскрозь праз увесь двухсерыйны фільм.

Не, не на судовым працэсе гучаць словы Лецечкі. У чым жа яшчэ яго праўда? Прыгледзімся больш уважліва да другой, не менш глыбокай «плыні» фільма — жыцця дзетдома. Бо самыя драматычныя сітуацыі ўзнікаюць тады, калі абедзве паралельныя і да пары плаўныя плыні раптам утвараюць «віры», у цэнтры якіх — ён, Лецечка. Вось калі за яго становіцца сапраўды страшна: ці выплыве?

Стваральнікі карціны ў адпаведнасці з яе літаратурнай першаасновай заглыбляюцца ў побыт дзіцячага дома і бачаць бездань канфліктаў там, дзе на павярхоўны погляд — цішыня ды гладзь.

Вось дзе яны робяць адкрыццё! Сведчу пра гэта як былы дзетдомавец, а таксама як чытач іншых кніг і глядач іншых фільмаў, у якіх жыццё наша дзетдомаўскае такое ўжо прыстойнае ды правільнае, што, здаецца, нічога лепшага і сваім дзецям не пажадаеш.

Дзетдомаўскія калектывізм, справядлівасць, суровыя, але сумленныя законы супольнага жыцця — усё гэта, вядома, ёсць на экране ў маленстве Лецечкі. Было і ў маім рэальным. Але...

*«Душа дрыжыць па праўдзе...»*

Праўда дзетдомаўскага жыцця, яна яшчэ ў тым, што побач замест маці — выхавацелька, і яна можа аказацца настолькі чужой, што ён, Лецечка, з вышыні свайго яраснага дзіцячага максімалізму крыкне ёй проста ў твар: «Фашыстка!» Хто-хто, а ён ведае цану гэтаму слову.

Хоць, здаецца, усяго толькі і хоча Вера Канстанцінаўна: навесці ў дзетдоме «парадак». Але дзеці яго не прымаюць, успыхвае бунт, стыхійным лідэрам якога становіцца Лецечка. Пратэст гэты не супраць парадку наогул, ён супраць яго разумення выхавацелькай. Вось тая раніцой змагаецца з курэннем, а на вечарынцы закурвае сама. Яна сцвярджае, што за парогам дзетдома яго выхаванцам адкрыты «ўсе шляхі», а шлях жа, як высвятляецца, адзін — у рамеснае вучылішча.

Якім бы добрым ні быў педагагічны намер, яго трэба найперш забяспечыць капітальнымі ўкладаннямі душы. А вось душы ў справах Веры Канстанцінаўны якраз і не хапае. Толькі з пункту гледжання дарослага, умудронага жыццёвай пабламлівасцю, ці варта судзіць так жорстка? Дзяцей жа ў яе не адно, не два, адразу — сотня. Хіба на ўсіх душы хопіць?..

Прыгадваю дзетдом у невялікім старым гарадку, дзе рос я. Мы таксама былі дрэнна апрануты і не ўволю накормлены. Не, краіна ўжо не жыла ў галечы. Проста вакол складаў і сталовай густа раіліся зладзеі і прайдзісветы. Але больш чым прысмакаў не хапала нам цяпла, ласкі, бацькоўскай любові, у якой раслі нашы ўдачлівыя аднагодкі.

Разумеў гэта і новы дырэктар Рыгор Сцяпанавіч, які пачаў з рашучых змен у дзетдоме. Аднойчы ў хвіліны шчырасці сказаў ён, як нам, жорсткім басякам, тады падалося, сентыментальную фразу: «Амаль усё магу вам даць. Усё... Апрача шчасця». Таленавіты педагог, бацька сваіх дзяцей і чалавек наогул несентыментальны, ён ведаў, пра што гаварыў. Я гэта зараз зразумеў, праз дваццаць гадоў, калі station назіраў, як складваецца лёс аднакашнікаў. Так, у чымсьці мы аказаліся мацнейшыя за тых, хто рос у бацькоўскім доме. Зведаўшы, пачым фунт ліха, мы сталі вынослівымі, падрыхтаваліся да штодзённай працы і абароны не толькі ў вулічных міжусобіцах. Але...

*Кажу праўду!*

Куды горш часам з душэўнай тонкасцю, чуласцю, здольнасцю суперажываць... Нібыта для таго, каб развіць гэтыя так неабходныя для асабістага шчасця якасці, недаатрымалі мы ў маленстве нейкага вітаміну. Умоўна назавём яго вітамінам шчасця. І гэта немінуча праяўляецца ў жыцці дарослым. Характары ў дзетдомаўцаў, як правіла, цяжкія. І не ва ўсіх добра жыццё складваецца. Шчасце часцей будуецца на шчасці. Аб чым і прыказка сведчыць: няма шчасця зранку, не будзе да астанку.

Вось ён які, выратавальны круг, якога так не хапае Кольку Лецечку, калі захлістваюць яго хвалі ўспамінаў. Што там у мінулым? Кроў, пакуты, смерць... Не помніць ён толькі мацярынскага цяпла, не помніць таго асаблівага стану душы, да якога пастаянна хацелася б вярнуцца.

Цяпер мы ведаем, хто ён і адкуль. Але навошта прыйшоў да нас сёння Лецечка? І куды ён ідзе? Дзеля чаго Валерый Рыбараў, маленства якога было шчаслівым, распытвае сотні былых дзетдомаўцаў аб жыцці, здаецца, назаўсёды адышоўшым? І амаль увесь фільм здымае на «натуры»: у школе-інтэрнаце ціхага старога гарадка Дзісна?..

Лецечка — дзетдомавец пасляваеннага пакалення, на якім па зразумелых прычынах прайшлася ў нашай краіне другая хваля безбацькоўства. Першая была пасля вайны грамадзянскай. У 1945-м у дзетдамах Беларусі выхоўвалася 26.900 зусім рэальных Лецечак, круглых сірот. Ну а колькі ж дзяцей у дамах дзіцяці, дзетдамах і інтэрнатах (так цяпер усё часцей называюць тыя ж дзіцячыя дамы) нашай рэспублікі сёння? 11.780! Трэцяя хваля? А час быццам мірны, і жыццё вунь якое добрае...

І калі ў нас, дзетдомаўцаў пачатку 60-х, не было бацькі або маці ці абодвух бацькоў, то сённяшнія нашы таварышы часцей за ўсё сіроты пры жывых бацьках. Яны добра ведаюць, хто яны і адкуль. Сіроцтва іх таму, бадай, яшчэ больш жахлівае.

Ад усякай бяды першымі пакутуюць дзеці. Аднак калі сірот становіцца ўсё больш — прыліў «новай хвалі» працягваецца, сведчаць спецыялісты,— ці не прыкмета гэта нейкай немалой бяды ў нашым агульным доме?

Пры жаданні людзі заўсёды знаходзяць апраўданне сваім не самым лепшым учынкам, нават злачынствам. Вось і ў фільме «Сведка» адзін з паліцэйскіх ківае на акалічнасці і яшчэ... На каго б вы думалі? На бацькоў. Маўляў, нарадзілі не ў той час. Каб не было вайны — жыў бы як усе. І не сядзеў бы цяпер на лаве падсудных... Ну а каго абвінавачваць бацькам, якія ў наш час, скажам, адмаўляюцца ад свайго дзіцяці? Ці не яго самога? Не ў той час, маўляў, нарадзілася. Не ў тых акалічнасцях. А былі б умовы іншыя, былі б і мы дзеталюбівыя.

Як вядома, у адных і тых жа акалічнасцях розныя людзі дзейнічаюць па-рознаму, у меру сваёй сумленнасці, прыстойнасці, чалавечнасці. У сітуацыях крытычных, экстрэмальных, якія нярэдка здараюцца і ў нашым сямейным, асабістым жыцці, адзін чалавекам застаецца, другі ім быць перастае. Усё гэта так. Але ці дарэчы ў даным выпадку слова «здрадніцтва»? А калі папросту няма ў душы самой патрэбы расціць сваё дзіця? Або наступае, як трапна выказаўся А. Адамовіч, «капітуляцыя чалавечай душы»? Можа, і тут усяму віной бездухоўнасць?

Выжыўшы на вайне, Лецечка гіне ў мірным жыцці. Вельмі падарвана яго здароўе, і вельмі шмат апёкаў на душы. І ўсё ж, думаю, ён бы выжыў, калі б змагаўся толькі за выжыванне. А ён змагаецца за жыццё, якім паводле яго ўяўленняў яно павінна быць. Мы бачым, як у няшчасці яснее існасць. Як і ў няшчасці можна праявіць вышэйшыя якасці душы. На кожным кроку імкнецца Лецечка да неадкладнай і поўнай справядлівасці... Вось што яшчэ робіць падлетка з пасляваеннага мінулага нашым сучаснікам, а фільм — такім сугучным нашым сённяшнім надзеям і памкненням.

Лецечка падрываецца на «мінах» сваіх успамінаў. Але ён яшчэ і надрываецца пад непасільным цяжарам таго жыцця, якое ўзяў — вымушаны быў узяць! — на свае кволыя плечы. Ён вельмі слабы, каб змяніць жыццё. Але смерць яго — тое ўзрушэнне, якое будзіць жаданне жыць іначай. Так, каб ніколі больш не ішоў па зямлі, насычанай крывёю, новы Лецечка. Каб не было дзяцінства, вяртацца ў якое смяротна небяспечна...

Перадсмяротны сон Лецечкі — як залаты сон чалавецтва. Пад шчымлівую музыку старога вальса зняты, напэўна, самы жыццесцвярджальны момант фільма. Мы, нарэшце, бачым Лецечку такім, якім ён не мог быць у жыцці,— шчаслівым. Вось яна, спрадвечная існасць, здабытая яшчэ раз цаной жыцця нявіннага дзіцяці: такім павінна стаць маленства. А значыць, і наша будучыня, бо дзяцінства — яго сарцавіна... Памяць зліваецца з марай.

Мы бачым, як не прымае гэтую смерць, як супраціўляецца ёй уся здымачная група. Ён, Лецечка, як ніхто іншы, варты жыць. Але...

*Нічога, апроч праўды!*

Па-ранейшаму шмат на зямлі дзяцей, пазбаўленых шчаслівага маленства. Ад усякай несправядлівасці першымі і мацней за ўсіх пакутуюць дзеці. Потым — усе астатнія. Таму і не заканчваецца суд на экране.

Вельмі надзённы гэты гістарычны фільм. Хоць і нямала ведаем мы сапраўдных, дакументальных сведчанняў аб падзеях, што ў аснове кнігі В. Казько і фільма В. Рыбарава, але дакумент наша паслужлівая свядомасць адразу кладзе на палічку: «гэта было». Пісьменнік і рэжысёр не імкнуцца да дакументальнасці. Яны вырашаюць задачу як мастакі: матэрыялізуюць дакументы ў жывых вобразах. І прачыняюць дзверы, за якімі мы бачым: гэта ёсць! Кожны глядач фільма — таму сведка.

Не сумняваюся, будуць іншыя думкі пра тое, дзеля чаго і як зняты гэты фільм. Кінакрытыкі з прафесійнай дакладнасцю ацэняць рэжысёрскую, аператарскую і акцёрскія работы. Напэўна, знойдуць нямала недахопаў. З іх, бадай, самы відавочны: карціна нярэдка грашыць зададзенасцю. Гучыць шмат «правільных» слоў герояў там, дзе патрэбны іх учынкі. Але — зноў-такі дзіўная справа! — нават гэтым фільм ад нашага жыцця не адрываецца, хутчэй да яго набліжаецца...

Гэтыя заўвагі толькі пра адну, на мой погляд, бясспрэчную вартасць новага фільма Валерыя Рыбарава: у ім тая праўда аб жыцці, якой я — сведка.

**Віктар ЖУК,**
**карэспандэнт «Беларусі».**

# ВАСІЛЬ БЫКАЎ — ЛАЎРЭАТ ЛЕНІНСКАЙ ПРЭМІІ

Рэдакцыя часопіса «Беларусь» шчыра віншуе выдатнага беларускага пісьменніка, нашага пастаяннага аўтара з высокай адзнакай, якой удастоена яго аповесць «ЗНАК БЯДЫ».



Фота Яўгена КОКТЫША.

НАШЫ КАНСУЛЬТАЦЫІ

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА ЖЫВУЮ І МЁРТВУЮ ВАДУ

Хто ў нашы дні не чуў аб цудадзейнай сіле жывой і мёртвай вады, для атрымання якой выкарыстоўваюць самаробныя апараты, у пэўнай меры небяспечныя пры эксплуатацыі? Цікава, што жывую і мёртвую ваду атрымліваюць і прапагандуюць людзі розных спецыяльнасцей, якія не толькі не маюць ніякага дачынення да медыцыны, але, часцей за ўсё, і недасведчаныя ў механізме фізіка-хімічных працэсаў, якія адбываюцца пры электролізе вады.

Пры электролізе вады на катодзе ўтвараюцца станоўчыя іоны вадароду, на анодзе — іоны кіслароду. Атмасферны кісларод, як вядома, з'яўляецца моцным акісляльнікам. Гэтым і тлумачыцца згубнае дзеянне кіслай (аноднай, мёртвай вады) на мікраарганізмы, пэўны лячэбны эфект яе выкарыстання пры некаторых захворваннях, выкліканых уздзеяннем хваробатворных мікробаў. Разам з тым анодная вада знішчае не толькі хваробатворныя, але і неабходныя для нармальнай жыццядзейнасці чалавека мікраарганізмы, змяняе кіслотнасць страўнікавага соку і іншых ферментаў страўнікава-кішачнага тракту, што можа прывесці да абвастрэння хранічных захворванняў, у тым ліку і пухлін.

Катодная, шчолачная (жывая) вада садзейнічае загойванню ран, здымае боль і запаленне пры апёках, стымулюе працэсы рэгенерацыі і развіцця клетак.

Аднак выкарыстанне кіслай або шчолачнай вады пакуль не дазволіла дамагчыся **толькі** лячэбнага эфекту, што сведчыць аб тым, што ўжыванне актываванай вады патрабуе асцярожнасці. Трэба ўлічваць і тое, што ў хатніх умовах электроды часцей за ўсё вырабляюць з нержавеючай сталі, якая на анодзе актыўна разбураецца, выдзяляючы ў ваду металы, да якіх наш арганізм далёка не абыякавы. Да таго ж водаправодная вада, якая звычайна выкарыстоўваецца для атрымання жывой і мёртвай вады, у значнай колькасці ўтрымлівае злучэнні хлору, якія ў атамарным стане таксама з'яўляецца моцным акісляльнікам, сульфаты, карбанаты, злучэнні натрыю, калію, жалеза, кальцыю, магнію і шэрага іншых хімічных рэчываў. Трапляючы ў выніку электролізу ў наш арганізм, гэтыя злучэнні таксама робяць істотны ўплыў на ход біяхімічных працэсаў.

Актываваная вада пакуль не прайшла поўнага даследавання. А пакуль яно вядзецца фармакахімікамі і электрахімікамі, мы не раім выкарыстоўваць жывую і мёртвую ваду, нават калі вы іназіралі яе станоўчае лячэбнае ўздзеянне. Як вядома, у нашым арганізме вада складае 70 працэнтаў вагі цела і ўтрымліваецца ва ўсіх органах і тканках. Як паказваюць даследаванні з радыеактыўнай вадой, прынятая ўнутр вада ў здаровым арганізме выдзяляецца праз 9—10 дзён. Аб тым, якія працэсы адбываюцца ў арганізме пасля ўжывання актываванай вады, пакуль ніхто дакладна сказаць не можа.

Таму мы яшчэ раз раім устрымацца ад бескантрольнага ўжывання гэтага маладаследаванага сродку. Не выключана, што пасля заканчэння даследаванняў жывой і мёртвай вады ўрачы змогуць рэкамендаваць яе хворым для мясцовага лячэння (ангін, ран, гнойных захворванняў і г. д.).



# ПУЛОВЕР У ПАЛОСКУ

Памер 46—48.

Звычайна мы пачынаем вязаць пуловер знізу. А гэты пуловер вяжацца зверху, пачынаючы ад рызінкі гарлавіны і канчаючы манжэтамі і рызінкай унізе вырабу. Для аблягчэння розныя фазы работы паказваем на малюнках.

**Матэрыял:** пража шарсцяная — 100 г белай, 100 г цёмна-фіялетавай і 150 г светла-фіялетавай; 5 пруткоў без заканчэнняў № 3, 2 пруткі № 4 і эластычныя пруткі № 4.

**Выкананне:** на 4 пруткі № 3 набіраем пароўну 108 петляў светла-фіялетавай пражы — па 27 петляў на кожным прутку (мал. 1). Вяжам рызінкай 20 радоў. Далей вяжам вонкавымі, чаргуючы колеры: 20 радоў белымі, 20 радоў светла-фіялетавымі і 20 радоў цёмна-фіялетавымі. З абодвух бакоў кожнай 27-й пятлі дабіраем праз рад па адной пятлі (мал. 2). Гэтак мы адзначым сярэдзіну полачкі, сярэдзіну спінкі і сярэдзіну кожнага рукава.



АБ'ЯЎЛЯЕМ КОНКУРС НА ЛЕПШЫ ПОДПІС

Фота Пятра ЗАХАРЭНКІ.

ЗРАБІЦЕ САМІ
















Пасля правязвання белай паласы перанесці ўсе петлі на эластычныя пруткі. На мал. 3 паказаны выгляд вырабу пасля двухразовага паўтору чаргавання каляровых палос. Затым кожная чвэрць работы вяжацца асобна — 20 радоў белай пражай і 5 радоў светла-фіялетавай, заканчваючы пятлёй, якая раздзяляе часткі вырабу (мал. 4), і спускаючы ў кожным другім радзе 2 разы па 3 пятлі, 4 разы па 2 пятлі, 3 разы па 3 пятлі, 3 разы па 4 пятлі. Далей вяжам рызінку, набраўшы на канцах полачкі і спінкі па 75 петляў. Рызінка 2×2 вяжацца светла-фіялетавай пражай 30 радоў. На рукавах набраць па 50 петляў і вязаць рызінкай 20 радоў (мал. 5). Сшыць бакі і рукавы.

САКРЭТ «ФІРМЫ»

# ВЕРАШЧАКА

У каструлю з вадой дадаць хлебнага квасу (у суадносінах 4:1), давесці да кіпення, затым уліць спасераваную і разбаўленую вадой пшанічную або ячную муку і варыць 5 хвілін.

Засмажыць кавалачкі сала з цыбуляй і сельдэрэем, перакласці ў каструлю, пасаліць і паставіць на 5—10 хвілін у духоўку.

**Расход прадуктаў: 200 г сала, 2—3 сталовыя лыжкі мукі, 1 шклянка вады, 0,25 шклянкі хлебнага квасу, 1—2 цыбуліны, 1 сельдэрэй, соль.**

**Любоў ЯКІМОВІЧ,**
**загадчык вытворчасці рэстарана «Журавінка».**

# Я — БАЛЕЛЬШЧЫК!

Абапіраючыся на шматгадовыя назіранні і свой багаты вопыт, я цяпер з усёй адказнасцю вам заяўляю: калі з розумам хварэць, дык у любога балельшчыка таксама будзе дух у здаровым целе. Свае тэарэтычныя разважанні магу падмацаваць і прыкладамі.

Той-сёй, відаць, думае: зноў пачнецца размова пра футбол, хакей, лёгкую атлетыку... Памыляецеся. Мы пачнём з цяжкай. З гэтага, на першы погляд, бяскрыўднага віду спорту.

Дык вось уявіце сабе малюначак: сяджу я ў першым радзе. Хварэю... І разважаю над праблемай — штурхне ці не штурхне? Гляджу на яго магутныя плечы, мускулы... Геракл! А шыя... З дубу! Ну, думаю, гэты ламане рэкорд. Наробіць шораху. І суддзя напагатове — залічваць ці не залічваць вагу? Па правілах усё ці яшчэ крыху не дацягнуў... Раптам штангіста як захістае, як заводзіць ва ўсе бакі. Мама родная! Пара на старт...

Думаеце, памыліўся я. Раней чым трэба запанікаваў? Разумныя дужа вы... Загрукаталі дыскі з таго снарада! А самы вялікі блін-жалязяка — у залу! Абавязкова, думаю, мяне знойдзе. Не ўпершыню... Расплюшчыць, як казяўку...

Я — ногі ў рукі і — даю поўны газ. Дзе па прамой, дзе — праз перашкоды, і вось я ўжо на вуліцы. Але спінай адчуваю — даганяе! Набаўляю зноў абароты. У нейкім завулку толькі тармазнуў. Дых пераведў. Азірнуўся.

А дзеля чаго я ўсё так падрабязна расказваю? Ды таму, што крыўдна мне. Нікога побач з секундамерам не было. Папраўку ў табліцу рэкордаў уносіць не прыйдзецца.

І футбол дае многае. Наконт таго, што ён быццам бы падвойвае балельшчыкам сілы — я не скажу. Але што датычыць вынослівасці і спрыту — буду спрачацца да вечара. Дзевяноста мінут, зразумела, сядзець на стадыёне без справы сумна. Пазяхаеш, жыццё прыгадваеш. Слухаеш, як там пакрыкваюць ды пасвістваюць... Але вось гучыць доўгачаканы фінальны свісток. Усе падымаюцца. І ўсе жадаюць у імгненне вока пакінуць стадыён. Божухна! Ціск пяць атмасфер. Адночы ледзь не задушылі. Спачатку — на стадыёне, потым — у трамваі.

Дык вось цяпер пасля апошняга свістка суддзі я не бягу па лаўках да выхада. Хопіць! Адночы ледзь ногі не паламаў. А яны ж у мяне адны. Таму я цяпер — пад лаўкамі. Па-пластунску, значыць, рухаюся да мэты. І міліцыі там яшчэ няма. А галоўнае, ні табе таўкатні, ні нават намёку на яе.

Стадыён, такім чынам, пакідаю першым. І куляй — у трамвай. Не так рукамі, як галавой працую. Улева, управа... Усе дарогу даюць. А хто ў мяне спрыт выпрацаваў? Спорт!

Ды ўзяць яго, любы від. Што-небудзь ды развівае. Шахматы, да прыкладу. Я за 48 метраў адрозніваю караля ад пешкі. І наадварот. Магу расказаць, як коні ходзяць. І ўсё гледзячы з апошняга рада на сцэну ці проста вывараючаючы позірк на дошку. Не паспяваюць на той дэманстрацыйнай дошцы ход паказаць, а я ўжо суседу паведамляю... У цiры бачу, як кулі ў мішэнь ляцяць! Як скакуны з трампліна ў час палёту рот адкрываюць...

Дык вось, зрок у мяне, не гаворачы ўжо пра сілу, вынослівасць і ўсё астатняе,— шэсць балаў! Як у тых фігурыстаў... Дарэчы, калі ім кідаюць з трыбун цюльпаны і ружы, я палову ў паветры перахопліваю. На сувеніры... Здараецца, паспяваю і на лёд скокнуць. Туды і назад — у імгненне вока.

Зрабіўся вёрткім, смелым, дужым! А ўсё дзякуючы таму, што маю самае непасрэднае дачыненне да спорту: я — балельшчык!

**Васіль НАЙДЗІН.**

# РУНА — ГЭТА ТАЙНА



У складзе археалагічнай экспедыцыі Акадэміі навук БССР пад кіраўніцтвам Л. Дучыц мне пашчасціла прымаць удзел у раскопках гарадзішчаў у вёсках Масковічы і Рацюнкі на Віцебшчыне, недалёка ад Браслава. Масковіцкае гарадзішча аказалася багатым на знаходкі, вельмі значныя ў вучоным свеце, таму мне і захацелася пра іх расказаць.

Археолагаў слушна называюць следапытамі гісторыі — гэта яны забяспечваюць сваіх калег, вучоных сумежных галін навукі, разнастайнымі гістарычнымі крыніцамі, якія маюць дачыненне да любой эпохі. Не адзін кубаметр зямлі даводзіцца ім перабраць рукамі, каб знайсці рэчы, якія адкрываюць новую старонку з жыцця адышоўшых стагоддзяў.

Што ж прываблівала ўвагу вучоных у Масковіцкім гарадзішчы?

Аказваецца, костачкі жывёл з малюнкамі і рунічнымі (або скандынаўскімі) надпісамі на іх. Гэтая сенсацыйная знаходка зацікавіла вучоных не толькі нашай краіны, але і замежных. Да гэтагу часу рунічныя надпісы знаходзілі толькі ў Швецыі і Даніі, некалькі іх знойдзена пад Ноўгарадам. У практыцы беларускіх вучоных яны былі выяўлены ўпершыню (каля 100 костачак было знойдзена ў 1976—78 гадах), цяпер калекцыя іх папаўняецца.

Што ж гэта за загадкавае пісьмо, і якія народы ім карысталіся?

Вучоныя мяркуюць, што рунічнае пісьмо ўзнікла ў абласцях, дзе германскія плямёны сутыкаліся з антычным светам. На тэрыторыі Скандынавіі было знойдзена шмат гістарычных помнікаў з рунамі, якія датуюцца II—III стагоддзямі нашай эры. У гэты перыяд, лічаць спецыялісты, былі перапрацаваны знакі лацінскага і грэчаскага алфавітаў і прыстасаваны для своеасаблівай тэхнікі напісання — выразання вострым прадметам на камені, дрэве або касцях. Паходжанне рунічнага алфавіта застаецца аднак пытаннем адкрытым. Рунічны алфавіт налічваў 24 руны (асобныя знакі). Само слова «руна» ў перакладзе на нашу мову азначае «тайна». Скандынаўскае рунічнае пісьмо бытавала ў паўсядзённым жыцці рамеснікаў, купцоў і воінаў аж да XII—XIII стагоддзяў, нягледзячы на тое, што ў скандынаваў быў уведзены лацінскі алфавіт. Асобныя рунічныя надпісы сустракаліся на драўляных календарах да XIX стагоддзя.

Беларускія руны вучоныя адносяць да XII—XIII стагоддзяў, адзначаючы, што паводле тыпалагічных асаблівасцей іх можна аднесці да скандынаўскага бытавога рунічнага пісьма.

Паўстае пытанне: хто ж быў аўтарам гэтых незвычайных надпісаў? Як трапіў гэты чужаземец на тэрыторыю Беларусі?

Са старажытных пісьмовых крыніц нам вядома, што варагі (так усходнееўрапейцы называлі скандынаваў) нярэдка служылі дружыннікамі ў рускіх князёў, трапляючы на Русь знакамітым шляхам «з варагаў у грэкі» — па Заходняй Дзвіне і Дняпры ў Чорнае мора. На ўзбярэжжы гэтых рэк знойдзена нямала прадметаў скандынаўскага паходжання. Каб аддзячыць за службу воінам-наёмнікам і выклікаць яшчэ большую прыхільнасць да сябе, князі нярэдка адорвалі чужаземцаў багатымі падарункамі і нават гарадамі, аб чым захаваліся запісы ў летапісах, у прыватнасці, у «Аповесці мінулых часоў» і Лаўрэнцьеўскім летапісе.

Асноўваючыся на дакументах, беларускі гісторык Г. Штыхаў лічыць, што варагі знаходзіліся на службе і ў полацкага князя Брачыслава Ізяславіча, іх наймалі таксама ў час падрыхтоўкі да паходу на Ноўгарад у 1021 годзе. Акрамя таго, мяркуе вучоны, скандынавы былі частымі гасцямі на тэрыторыі заходнярускіх зямель у якасці купцоў.

Адсюль вынікае, што варагі прынеслі з сабой тую пісьменнасць, якая была распаўсюджана на іх радзіме. Цяжка сказаць, хто менавіта быў аўтарам знойдзеных рунічных надпісаў. Магчыма, воін, купец або рамеснік узяў у рукі завостраны прадмет і зрабіў на абгрызенай костачцы запісы аб сваяках і блізкіх, па якіх ён сумаваў на чужыне. Магчыма, гэта невялічкая рэч была своеасаблівым талісманам, які саграваў яго сэрца, нагадваючы аб роднай зямлі.

А магчыма, аўтарам рунаў быў мясцовы жыхар, які навучыўся гэтаму пісьму ад чужаземцаў. У вольны час ён спрабаваў свае здольнасці на касцях, а паколькі яго веды рунічнага пісьма былі абмежаванымі і не задавальнялі яго, ён адлюстроўваў убачанае ў малюнках.

Усё гэта пакуль гіпотэзы. Дасканала вывучыць і асэнсаваць іх — справа вучоных. Яны і скажуць апошняе слова ў разгадцы таямніцы, якая дайшла да нас з глыбіні стагоддзяў.

**Аляксандр АХРАМЕНКА.**





# ЯКІ Ў ВАС ХАРАКТАР?

Вы лічыце сябе добразычлівым чалавекам, добрай жонкай і маці, узорнай гаспадыняй, надзейным працаўніком... Але ці так лічаць вашы родныя і блізкія, сябры і калегі? Спадзяёмся, што наш тэст дапаможа вам гэта зразумець. Ён, вядома, жартоўны, але ўсё ж...

◇ Ці стараецеся вы да кожнага сезона купляць сабе што-небудзь з адзення, нават калі гэта не вельмі неабходна? Так — 3 ачкі, не — 0.

◇ Якім тканінам аддаяце перавагу — аднатонным (3 ачкі), набіваным (2 ачкі) ці ў вас няма пэўнай прыхільнасці да тых і другіх (0)?

◇ Які стыль выбіраеце для сябе: класічны (0), спартыўны (3 ачкі), той, які модны (5 ачкоў), вастрамодны (7 ачкоў)?

◇ Ці хапае ў вас смеласці, каб у ліку першых надзяваць самыя экстравагантныя, вастрамодныя рэчы? Так — 5 ачкоў, у залежнасці ад абставін — 3 ачкі, не — 0.

◇ Ці аддаяце вы перавагу смелым спалучэнням колераў? Так — 5 ачкоў, зрэдку — 3 ачкі, не — 1.

◇ Ці любіце вы насіць: спартыўныя блузкі (3 ачкі), англійскія касцюмы (2 ачкі), спадніцы строгага крою (1 ачко)?

◇ Які фасон капелюша лічыце лепшым: рамантычны, з шырокімі палямі (7 ачкоў), тыпу «турбан» (4 ачкі), без палёў (2 ачкі) ці вы наогул не носіце капелюшоў (0)?

◇ Якія сумачкі вам больш падабаюцца? Спартыўныя на рэмені (4 ачкі), якія нагадваюць па форме куфэрак (3 ачкі), «канверты» (2 ачкі) ці любыя, якія ў модзе (0)?

◇ Ці любіце вы туфлі на абцасе? Так — 3 ачкі, не — 0.

◇ Ваша любімае хатняе адзенне: доўгая спадніца з блузкай, джэмперам (5 ачкоў), штаны са світэрам (3 ачкі) ці проста даношваеце старыя рэчы (2 ачкі)?

◇ Якія ўпрыгожанні лічыце за лепшыя: пацеркі (7 ачкоў), брошкі (5 ачкоў), кулоны (3 ачкі), простыя ланцужкі (1 ачко)?

◇ Вашы любімыя ўзоры на тканіне: кветкі (7 ачкоў), гарошак (5 ачкоў), палосы (3 ачкі), геаметрычны малюнак (1 ачко) ці аддаяце перавагу гладкім, ненабіваным тканінам (0)?

А цяпер падлічыце ачкі.

Ад 5 да 11:

Вы чалавек асцярожны, не спяшаецеся раскрыць сваю душу, хоць заўжды далікатны ў абыходжанні з людзьмі. З цяжкасцю завязваеце новыя знаёмствы, але ўжо калі хтосьці заваюе вашу прыхільнасць, дык надоўга. Вы добрая гаспадыня, да дзяцей ставіцеся патрабавальна.

Ад 12 да 22:

Ваш характар супярэчлівы: без дай прычыны вы пераходзіце ад радасці да смутку, ад сумнага настрою да нястрымнай весялосці. Любіце жыць у пастаянным руху, часта мяняючы свае погляды. На рабоце вызначаецеся хуткасцю, кемнасцю, але такія перыяды часта змяняюцца днямі апатыі.

Ад 23 да 37:

Вы набліжаецеся да «залатой сярэдзіны», вам лёгка з тымі, хто акружае вас, а ім — з вамі. Добра валодаеце сабой, вам уласціва добразычлівасць, а, калі патрэбна, і здольнасць на хуткую рэакцыю. Вам удаецца заваяваць давер нават тых, хто спачатку непрыхільна да вас ставіўся. Добра спраўляецеся з работай. Ваш дом — гэта спакойны прыстанак для сяброў.

Звыш 37:

Незалежна ад узросту вы — юная душой. Лёгка загараецеся і гэтак жа лёгка гаснеце... Уражлівасць, няўменне таіць свае пачуцці ствараюць цяжкасці ва ўзаемаадносінах з тымі, хто акружае вас, ускладняюць жыццё і іх, і ваша...

ЧЫТАЧ  — ЧЫТАЧУ

# СЛУЖБА ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

**ПІЛЬНАЯ ПАТРЭБА Ў РАЗМОВЕ З ЧАЛАВЕКАМ, ЯКІ Б ЗРАЗУМЕЎ ВАС НЕ ТОЕ ШТО З ПАЎСЛОВА — З ПЕРШАГА ПОГЛЯДУ, ШЧЫРАЕ ІМКНЕННЕ ДАПАМАГЧЫ АБО САМОМУ ПА ПЕРШЫМ ЗАКЛІКУ АТРЫМАЦЬ ДАПАМОГУ АД ЛЮДЗЕЙ ХОЦЬ І НЕЗНАЁМЫХ, АЛЕ НАДЗЕЛЕНЫХ ЛЕПШЫМІ ДУШЭЎНЫМІ ЯКАСЦЯМІ — ГЭТЫЯ І ІНШЫЯ ПРЫЧЫНЫ МОГУЦЬ ПАСЛУЖЫЦЬ ПАДСТАВАЙ ДЛЯ ТАГО, КАБ ЗВЯРНУЦЦА З АБ'ЯВАЙ У ТОЛЬКІ ШТО СТВОРАНЫ ПРЫ РЭДАКЦЫІ НАШАГА ЧАСОПІСА ГРАМАДСКІ АДДЗЕЛ «ЎЗАЕМАДАПАМОГА». КАЛІ НЕЙКІЯ СА ЗМЕШЧАНЫХ ТУТ РАДКОЎ ПРЫМУСЯЦЬ ВАС ЗВЯРНУЦЬ НА ІХ УВАГУ І ВЫ ЗАХОЧАЦЕ АДГУКНУЦЦА, ПРОСІМ У ЛІСТАХ ДА НАС АБАВЯЗКОВА ПАЗНАЧАЦЬ ІНДЭКС (ЛІЧБА Ў ДУЖКАХ) ЗАЦІКАВІЎШАЙ ВАС АБ'ЯВЫ. ГЭТА БУДЗЕ СПРЫЯЦЬ БОЛЬШ ЭФЕКТЫЎНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ ЎЗАЕМАДАПАМОГІ, ДАЗВОЛІЦЬ НАМ У НАЙКАРАЦЕЙШЫ ТЭРМІН ЗВЯЗАЦЬ ВАС З ПАТРЭБНЫМ ВАМ ЧАЛАВЕКАМ.**

**АБ'ЯВЫ Ў АДДЗЕЛ «ЎЗАЕМАДАПАМОГА» ПРЫМАЮЦЦА БЯСПЛАТНА.**

## ЗБІРАЮ ФЕЛЬЕТОНЫ «КАРАЛЯ»

Ахвотна куплю газетныя і часопісныя выразкі з фельетонамі, нарысамі, карэспандэнцыямі Уласа Міхайлавіча Дарашэвіча, а таксама яго поўны збор твораў (можна прапаноўваць паасобныя тамы).

Буду рад пазнаёміцца са зборнікамі твораў цудоўнага журналіста і «караля фельетаністаў». (2)

## ПЛАНЁРЫ НАД БЯРЭЗІНАЙ

Я вучуся ў дзесятым класе. Мару стаць архітэктарам. Але яшчэ ў мяне ёсць і такая мара: хоць бы раз убачыць планёр у палёце. Не з экрана тэлевізара, а — сваімі вачамі. Але я не ведаю, дзе ў рэспубліцы праводзяцца спаборніцтвы планерыстаў. Ды й ці праводзяцца такія наогул? (3)

**Эдуард СТАРЫКАЎ**, г. Магілёў.

Мы звярнуліся ў ЦК ДТСААФ БССР і атрымалі там даведку, якая, спадзяёмся, будзе цікавая не толькі Э. Старыкаву. Вось яна: «Чэмпіянат БССР па планёрнаму спорту будзе праведзены ў Рагачове з 16 па 30 чэрвеня, а ў Бабруйску з 3 па 17 жніўня планерысты будуць змагацца за Кубак СССР (памяці С. П. Каралёва)».

## ХАЧУ ЖЫЦЬ ЦВЯРОЗА!

Я маю некалькі спецыяльнасцей. Пералічу асноўныя: механізатар, бетоншчык, муляр, слесар. Мне няма і трыццаці гадоў, але ўжо давялося на сабе зведаць, што такое алкагалізм. Прыахвоціўся да спіртнога на так званых «шабашках».

Пасля лячэння ў ЛПП вярнуўся ў свой пасёлак, і, канечне, з'явіліся ранейшыя сябры. Урачы папярэджвалі: усё старанне медыкаў вярнуць мяне да сапраўднага і цвярозага жыцця можа перакрэсліць адзін кілішак гарэлкі... Баюся, што аднойчы не стрымаюся і зноў апынуся ў эйфарыйным ачмурэнні.

У мяне сям'я: жонка (па прафесіі бухгалтар) і пяцігадовы сын. Вось калі б нам давядацца адрас якой-небудзь гаспадаркі, куды б мы маглі пераехаць на пастаяннае месца жыхарства і дзе б нам маглі даць жыллё! Мы б былі вельмі рады запрашэнню працаваць у калгасе ці саўгасе любога раёна рэспублікі. (4)

Спатканне.
Фота Уладзіміра ЗІНІНА. (Магілёў.)



## КУПЛЮ СЛОЎНІК

Куплю (але толькі ў добрым стане) слоўнік рускай мовы У. Даля. (5)

## НАБЫВАЮ АНТЫКВАРНЫ ШКЛАПОСУД

Я калекцыяніраю шклапосуд мінулага веку. Набываю: слоікі, графіны, бутэлькі, чайныя шклянкі з падшклянкамі. (7)

## НАДАКУЧЫЛА АДЗІНОТА

У мяне шмат сяброў. У маёй кватэры мы часта збіраемся, каб паслухаць музыку, паспрачацца пра футбол і хакей. Але вось яны выходзяць, і я застаюся адзін... Напэўна, многім 27—30-гадовым халасцякам знаёма пачуццё нейкага невыказнага адзіноцтва.

Я ніколі не сустракаўся з дзяўчынай, хоць у юнацтве неаднойчы быў закаханы. Але заўсёды мне перашкаджала нясмеласць зрабіць «першы крок».

Буду вельмі рад пазнаёміцца з дзяўчынай 19—25 гадоў. Пра сябе: рост 182 см., брунет, працую старшым лабарантам аднаго з мінскіх НДІ, маю аднапакаёвую кватэру, захапляюся сучаснай музыкай, спортам. (6)

## У КАГО ЁСЦЬ ЛІШНІ ПАПУГАЙ, ЯКІ ЎМЕЕ ГАВАРЫЦЬ!

По прафесіі я мастак. Жыву ў Мінску. Вельмі люблю пакаёвых жывёлін і прыроду наогул. Ужо больш як год апанаваны ідэяй купіць папугая, які ўмее гаварыць. Але ніяк не ўдаецца гэта зрабіць. Няўжо ніхто ў рэспубліцы не прадае гэтую дзівосную птушку? А калі ўсё ж хтосьці прадае — няхай адгукнецца на аб'яву. Я куплю. (8)

## ДЗЯЎЧЫНА ШУКАЕ СЯБРА

Дзяўчыне 24 гады (студэнтка-завочніца). Жадае пазнаёміцца з юнаком. А вось што яна сама гаворыць пра сябе:

«Я бландзінка, рост 165 см, люблю вязаць, шыць, маляваць. Часта бываю ў кінатэатрах і тэатрах, шмат чытаю.

Тых, хто аддае перавагу п'янаму застоллю перад актыўным і культурным адпачынкам, прашу не турбавацца». (9)

## АДПРАЎЛЯЮСЯ Ў ДАЛЁКІ ШЛЯХ

Планую ў жніўні зрабіць пешы паход па маршруту Брэст — Пінск — Петрыкаў — Мазыр — Лоеў. З рыштунку з сабой бяру толькі палатку, соль, компас, запалкі і аптэчку. Мэта паходу: больш даведацца пра прыроду роднага краю, навучыцца гатаваць сняданкі, абеды і вячэры выключна з дароў беларускага лесу.

Буду рад, калі хтосьці з трэніраваных турыстаў падзеліць са мной цяжкасці і радасці такога падарожжа. (10)

## ПРАПАНУЮ МЯНЯЦЦА МАДЭЛЯМІ

Ужо пятнаццаць гадоў калекцыяніру пластмасавыя мадэлі самалётаў розных краін свету. Жыву ў горадзе Старадубе Бранскай вобласці. Як і кожны сапраўдны калекцыянер, маю «фонд абмену», але не маю адрасоў людзей, якія захоплены такім жа хобі.

Гатовы перапісвацца з мэтай абмену мадэлямі. Чакаю водгукаў. (11)

## НАСТАЎНІК ТАНЦАЎ

Шаснаццацігадовая дзяўчына ніяк не можа навучыцца добра танцаваць класічныя і сучасныя танцы. Таму вельмі няёмка адчувае сябе на маладзёжных вечарах адпачынку.

Спрабавала наведваць адпаведныя гурткі, але беспаспяхова. Вось калі б хто-небудзь з настаўнікаў танцаў згадзіўся рэпеціраваць са мной дома. (12)

## ДАВАЙЦЕ ПЕРАПІСВАЦЦА

Ведаю, што часопіс «Беларусь» мае падпісчыкаў ва ўсіх сацыялістычных краінах. Я вывучаю польскую мову і жадала б перапісвацца са сваімі равеснікамі з Польшчы. Мне 25 гадоў, я займаюся геалогіяй. Завуць мяне Галінай. (1)

# З НОВЫМІ СІЛАМІ



КАЛЯНДАР САДОЎНІКА

Навум МЕЛЬНІК,
кандыдат сельскагаспадарчых навук

Вось і зноў прыйшла да нас вясна, адзвінела ручаямі, пракінулася першай лістотай, напоўніла наваколле птушыным гоманам. Куды ні кінеш вокам — усюды зямля просіць прыкласці рукі, паклапаціцца аб ёй: паправіць стары плот, павыграбаць леташняе лісце, ускапаць градкі, кінуць зерне ў свежую раллю...

Вясна і пачатак лета — перыяд, калі мала садавіны і агародніны, і толькі ягаднікі здольны забяспечыць нашу патрэбнасць у вітамінах. Аднак у гэты час вялікі ўрон ягадным культурам наносяць шкоднікі і хваробы: малінавыя жукі і даўганосікі, агрэставы пільшчык, парэчкавы пупышкавы клешч, а таксама мучністая раса на агрэсце і парэчках, антракноз малін і шэрая гніль на суніцах.

Пасля абрэзкі ягадных кустоў неабходна згрэбці і спаліць рэшткі раслін, старанна перакапаць і ўзрыхліць глебу з тым, каб знішчыць стадый, якія там зімавалі. У маі, у перыяд з'яўлення бутонаў, апырскваюць парэчкі і маліны карбафосам (25—30 г на 10 л вады) супраць пупышкавага кляшча і тлі, а таксама малінавага жука і даўганосіка. Паўторная апрацоўка парэчак праводзіцца і пасля цвіцення. Як толькі адцвіў агрэст, яго таксама неабходна апырскваць гэткай жа дозай карбафосу з мэтай знішчэння агрэставага пільшчыка.

У барацьбе супраць тлі, якая пашкоджвае кусты і маладыя дрэвы, а таксама супраць агрэставага пільшчыка можна замест хімічных прэпаратаў ужываць настой тытуню. Суспензія часнаку (75 г растоўчаных зубкоў на 10 л вады) выкарыстоўваецца супраць агрэставага пільшчыка і кляшча парэчак.

Каб пазбавіцца ад мучністай расы на агрэсце і парэчках, ягадныя кусты апырскваюць перад і пасля цвіцення растворам кальцыніраванай (бялізнавай) соды з мылам (50 г соды і 50 г мыла на 10 л вады). Пасля цвіцення можна ўжываць і аднапрацэнтны раствор калійнай солі або настой каравяку (1 частку каравяку разводзяць у 3 частках вады і пакідаюць брадзіць на працягу трох дзён, пасля чаго настой зноў разбаўляюць у два разы вадой).

На малінах з мэтай знішчэння антракнозу прымяняюць бардоскую вадкасць (100 г меднага купарвасу і 100 г вапны на 10 л вады) або цынеб (40 г на 10 л вады) першы раз у пачатку мая і другі раз — перад пачаткам цвіцення.

Супраць шэрай гнілі суніц глебу мульчыруюць саломай, хваёвымі іголкамі або поліэтыленавымі плёнкамі. Перад цвіценнем апырскваюць байлетонам (12 г на 10 л вады). Пазней кветаносы ўкладваюць на працягнуты ўздоўж радкоў дрот, а калі ягады пачынаюць завязвацца — насыпаюць пад кусты попел або гашаную вапну з разліку 15 г на куст.

Нельга забываць, што вясной у абароне ад шкоднікаў і хвароб маюць патрэбу і пладовыя дрэвы. У час набухання пупышак у яблыні пачынаюць лятаць кветаеды (невялікія даўганосікі памерам 4 мм), а таксама прачынаюцца вусені зімовага пядзеніка, якія ў апошнія гады сталі асабліва небяспечныя. Таму ў другой палове красавіка і пачатку мая неабходна штодня аглядаць дрэвы. Калі вы выявілі шкоднікаў, абавязкова апырскайце дрэвы карбафосам (20 г на 10 л вады). Каб захаваць расліны ад грыбных хвароб, у раствор яшчэ дадаюць 40 г хлорвокісу медзі або цынебу. Перад цвіценнем (у фазе ружовага бутона) паўтараюць апырскванне з выкарыстаннем аднаго з прэпаратаў: хлорвокісу медзі (0,4 працэнта), цынебу (0,4 працэнта) або аднапрацэнтнай бардоскай вадкасці. Пасля цвіцення дрэў, а таксама праз 15—20 дзён іх апырскваюць цынебам (0,4 працэнта).

Апырскванне звычайна праводзяць раніцай або вечарам у бязветранае, сухое надвор'е. У час гэтых работ нельга курыць, есці і піць. Абавязкова карыстайцеся засцерагальнымі акулярамі, гумавымі пальчаткамі і халатам. Нявыкарыстаныя ядахімікаты і пустым посуд закопвайце. Пасля заканчэння работы неабходна старанна вымыць рукі і твар цёплай вадой з мылам.

МАЛАЯ МЕХАНІЗАЦЫЯ

# КАБ ЛЯГЧЭЙ БЫЛО ПРАЦАВАЦЬ

З даўніх часоў рыдлёўка заставалася самай надзейнай і, відаць, самай масавай прыладай працы сельскагаспадарчага рабочага. Але не так лёгка, скажам, перакідаць вялікай шуфлікавай рыдлёўкай кучу пяску: і нагінацца стомішся, і рыдлёўка ўвесь час імкнецца перавярнуцца ў руках...

Каб гэта работа не была настолькі стамляючай, карысна мадэрнізаваць рыдлёўку: зрабіць на канцы чаранка ручку, як на звычайнай штыкавой рыдлёўцы, а перад самым шуфлем замацаваць своеасаблівую падтрымку. Зрабіць яе нескладана: металічны дрот сагнуць, як паказана на малюнку, і зрабіць для яго драўляную ручку. Аптымальная даўжыня прыстасавання падбіраецца па росту. Да рыдлёўкі яно мацуецца кручком, які ўкручваецца ў чаранок.



# МОТАГОНШЧЫКІ



Тут усё сапраўднае: вялікія хуткасці, незвычайны спрыт, адвага, зайздросная ўпартасць, сур'ёзныя тэхнічныя навыкі. І сапраўднае захапленне гледачоў. Нават пастаянных, якія ўжо бачылі, здаецца, усё: хвацкія шматметровыя скачкі на двухколавых машынах, ашаламляльныя віражы, фантастычна хуткія рамонты тэхнікі.

У самых вядомых мотагоншчыкаў ёсць свае прыхільнікі. Іх, праўда, мала. Калі параўноўваць з колькасцю прыхільнікаў якога-небудзь футбольнага таленту. Але ім уласцівы куды больш моцныя адчуванні, чым сведкам рэдкіх разгромных матчаў. Па крайняй меры, гэтак лічаць яны самі і стараюцца пераканаць вас:

— Ну ці ж можна прадказаць, што адбудзецца ў наступнае імгненне? Не, нельга. І ў гэтым мала з чым параўнальная прывабнасць нашага віду спорту.

У гэтым годзе ў Беларусі пройдзе нямала цікавых турніраў, матакросаў, шашэйнакальцавых гонак. Дзе яны адбудуцца і ў які час? Гэта пытанне мы адрасавалі намесніку старшыні ЦК ДТСААФ БССР Аляксандру Сямёнавічу Харламаву:

— Хутка ў Оршы адбудуцца традыцыйныя спаборніцтвы па матакросу, прысвечаныя памяці К. С. Заслонава. У сярэдзіне чэрвеня мотакрос пройдзе пад Мінскам, у пачатку верасня — у Ашмянах, а ў канцы — у Магілёве. 10—12 кастрычніка ў Баранавічах адбудуцца традыцыйныя спаборніцтвы мотагоншчыкаў, прысвечаныя памяці двойчы Героя Савецкага Саюза С. І. Грыцаўца,— расказвае А. С. Харламаў.— Цяпер пра шашэйнакальцавыя гонкі. У сярэдзіне ліпеня адбудзецца чэмпіянат рэспублікі, на які запрашаюцца каманды ўсіх абласцей. Дарэчы, напярэдадні гэтага спартыўнага свята — а менавіта з 30 мая па 1 чэрвеня — адбудзецца адкрыты чэмпіянат Мінскай вобласці.

Гонкі па гаравай дарожцы з 6 па 8 чэрвеня пройдуць у Мінску, а 5—6 ліпеня — у Пінску. Вось, відаць, і ўсе найбольш буйныя спаборніцтвы, на якія нам хацелася б запрасіць аматараў матацыклетнага спорту.



Фотанавела **Віктара ЖЫЛІНА**








Шашачны аддзел вядзе заслужаны трэнер БССР Аркадзь РАКІТНІЦКІ.

## ПАСЛЯ КАМБІНАЦЫІ— ЭЦЮД

Такую міні-канцоўку склаў вядомы беларускі аўтар з г. Клімавічы Георгій Горбач.



Выйгрыш.

## ВЫДАТНЫ ШАШАЧНЫ КАМПАЗІТАР

Ім быў бабруйчанін Якаў Гордзін, 110-годдзе з дня нараджэння якога нядаўна споўнілася.

Пачаўшы свой творчы шлях у 1898 годзе, рабочы друкар Я. Гордзін хутка становіцца адным з папулярных эцюдыстаў Расіі. Ён актыўна ўдзельнічае ў часопісах «Шашки», «Нива», «Шашечный листок», «Листок шашиста», змяшчаючы ў іх эцюды, заканчэнні, задачы, артыкулы, а ў 1903 годзе партыю, згуляную супроць Л. Чарнова.

1. c3 — d4 d6 — c5 2. b2 — c3 e7 — d6 3. c3 — b4 f6 — e5 4. d4:f6 g7:e5 5. b4 — a5 d8 — e7 6. e3 — f4 h8 — g7? 7. f4 — g5! h6:f4 8. a3 — b4 c5:a3 9. c1 — b2 a3:e3 10. f2:h8, і чорныя здаліся. Гэта адзіна вядомая партыя беларускіх аматараў дарэвалюцыйнага часу. Яна сведчыць аб добрым разуменні пазіцыі і камбінацыйным зроку Я. Гордзіна.

У гэтым жа годзе ён імкнецца арганізаваць у Бабруйску шашачны чэмпіянат горада. Але атрымаўшы ў гарадской управе катэгарычнае: «никаких сборищ», мусіў стварыць у сябе на кватэры своеасаблівы клуб, у якім праходзілі неафіцыйныя турніры. Але і тут не абыходзілася, як пазней успамінаў Гордзін, спакойна. Аднойчы, калі ў спаборніцтвах удзельнічала чалавек 10—12 і яны зацягнуліся дапазна, у кватэру, а было летні час і дзверы былі амаль адчыненыя, уварвалася некалькі гарадавых на чале з прыставам. Убачыўшы намаляваную табліцу, некалькі дошак з шашкамі, а над імі раз'юшаных, спацелых аматараў, прыстаў сказаў квартальнаму: «Чем бы дитя ни тешилось... Ты, надеюсь, меня понял? Но все же присматривайся к своему кварталу».

Асаблівага росквіту талент Якава Гордзіна дасягнуў у гады Савецкай улады. Цяпер такія «сборища» сталі не толькі не забараняцца, а наадварот — заахвочвацца. Ён праводзіць турніры, выступае ў іх, гуляе па перапісцы, перадае свой вялікі вопыт моладзі, складае і публікуе свае працы. А ў 1932 годзе ў Мінску выходзіць першая на Беларусі шашачная кніга, якую ён назваў «Курс канцоў рускай народнай гульні».

Вось адзін з лепшых эцюдаў Я. Гордзіна, які ён склаў у 1929 годзе.



Выйгрыш.

1. a3 — b2 h4 — g3 (калі 1... d4 — e3, то 2. h2 — g1 a5 — d2 3. g1:b6 d2 — c1 4. b2 — f6 і г. д.) 2. b2:f6! g3 — f2 3. h2 — g1! f2 — e1 4. f6 — h4!!, і партунку ад удару белых з палёў b6 або f2 няма. Цудоўны фінал!!

У 1940 годзе Якаў Гордзін, нягледзячы на 64-гадовы ўзрост, выступаў у Рэспубліканскім першынстве друкароў, які мне давялося судзіць, заваяваў другі прыз. Таленавіты майстар эцюда загінуў у сваім родным горадзе ад рук фашысцкіх захопнікаў.

## І ПРАТЭСТ НЕ ДАПАМОГ

У адным з чэмпіянатаў Узбекістана па міжнародных шашках сярод мужчын сустрэліся Ф. Шакіраў і А. Макартуні. Суддзі памылкова паставілі Ф. Шакіраву, які гуляў белымі, не 20, а 19 шашак. Але апошні крыху спазняўся на тур, таму адразу ж пачаў гульню. І ўсё ж белыя, нягледзячы на адсутнасць шашкі, перамаглі. А. Макартуні апратэставаў партыю, і суддзі павінны былі, згодна шашачнаму кодэксу, перайграць партыю. Але і пры роўнай колькасці шашак Ф. Шакіраў выйграў партыю.

## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ АДКАЗЫ

[Гл. «Беларусь» № 5 за 1985 г.]

1. f2 — g3 c5 — b4 2. c1 — b2! c3:a1 3. a5:c3 a1:d4 4. h4 — g5, і выйграюць.

# ГУМАР



Мал. Яўгена ЦАРКОВА.

## ІРАНІЗМЫ

- Акружыў сябе пешкамі, якія не марыць вырвацца ў ферзі.
- Нават у люстэрку сатыры ён бачыць сябе толькі са станоўчага боку.
- Людзі пакутуюць часцей за ўсё ад сваёй дасціпнасці, а не ад чужой...
- Аматары лёгкага жыцця любяць расказваць, як ім нялёгка жывецца...

Станіслаў АФАНАСЬЕЎ.



Мал. Наталлі ДОРАШ.

## ПРАБАЧЦЕ ЗА ВЫСЛОЎЕ

- Не паспееш выйсці ў людзі, як пара выходзіць на пенсію.
- Творчым работнікам пажынаць лаўры жыццёва неабходна: навыкі спатрэбяцца ім на ўборцы ўраджаю ў падшэфным калгасе.
- Безвыходных становішчаў няма, у крайнім выпадку можна выйсці з сябе.

Юрый КУЧУРА.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 4. Савецкі палкаводзец, Герой Савецкага Саюза. 7. Род войск. 8. Выдатны савецкі ваенны дзеяч, двойчы Герой Савецкага Саюза. 10. Дзеючая асоба п'есы К. Сіманава «Рускія людзі». 16. Ваенны сакрэт. 17. Удзельнік баёў на Беларусі ў Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза. 18. Ружэйная, артылерыйская стральба. 19. Салдат, баец. 20. Палявое абарончае збудаванне. 21. Герой грамадзянскай вайны. 22. Папяровы снарад з парахавым зарадам, род феерверку. 24. Манеўр самалёта, карабля. 27. Адплыццё баявога карабля, судна ад месца стаянкі. 28. Стальная абшыўка танка, карабля. 31. Байніца. 32. Удзельнік баёў на Беларусі ў Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Дзяжурства па ахове бяспекі на судне. 2. Генерал-лейтэнант авіяцыі, Герой Савецкага Саюза. 3. Асноўны, пастаянны склад спецыялістаў арміі. 5. Юны партызан-разведчык, Герой Савецкага Саюза. 6. Фігура вышэйшага пілатажу. 9. Горад бессмяротнай славы. 11. Кодавая назва стратэгічнай наступальнай аперацыі Савецкай Арміі. 12. Савецкі ас, двойчы Герой Савецкага Саюза. 13. Землярыйная машына для капання абаронных збудаванняў. 14. Сукупнасць умоўных знакаў да карты. 15. Савецкі авіяканструктар. 23. Тэхнічная спецыяльнасць. 25. Член флоцкага экіпажа. 26. Герой Савецкага Саюза, які паўтарыў подзвіг А. Матросава. 29. Манеўр войск. 30. Праслаўлены савецкі ваенны дзеяч, Маршал Савецкага Саюза, чатыры разы Герой Савецкага Саюза.

Склаў Пётр ШЫЦІК.




### АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 4

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. «Метэор». 6. Клімук. 10. «Чайка». 11. Фекда. 12. «Маланка». 15. Штопар. 16. Год. 17. Сімеіз. 20. Квазар. 21. Арбіта. 25. Фаркаш. 26. Кіт. 27. Камета. 31. Перыгей. 33. Зеніт. 34. Ратан. 35. Компас. 36. Пратон.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Белка. 2. Космас. 3. Глушко. 4. Купер. 7. Ракета. 8. «Апалон». 9. Адоніс. 13. Шаталаў. 14. Хімікат. 18. Рак. 19. Эра. 22. Парсек. 23. Сірыус. 24. Статар. 28. Гектар. 29. «Венера». 30. Віток. 32. Папоў.

# КРАСВОРД

# ГАДЗІННІК „ПРАМЕНЬ“ — ЭЛЕГАНТНАСЦЬ І ДАКЛАДНАСЦЬ



Даволі аднаго позірку на цыферблат гадзінніка «Прамень-2350», каб атрымаць поўную інфармацыю аб часе: гадзіны, мінуты, секунды, дзень тыдня і дату (прычым, карэкціроўка чысел і дзён тыдня паскораная). І яшчэ адна адметная асаблівасць у гэтага наручнага мужчынскага гадзінніка: упершыню ў нашай краіне для яго афармлення выкарыстана «міланскае пляценне» — гнуткі плецены металічны корпус-бранзалет.

Цана — ад 33 рублёў 50 капеек да 46 рублёў 50 капеек.

МІНСКІ ГАДЗІННІКАВЫ ЗАВОД.

БЕЛАРУСКАЕ АГЕНЦТВА ПА ГАНДЛЁВАЙ РЭКЛАМЕ.

Цана 35 кап.

«Беларусь», 1986, № 5, 1—36.

Індэкс 74820